27 кастрычніка 2017 | № 40 (554)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Назарбаева пстрыкнулі па носе
стар. 21

**4** АДНОЙ ДАРОГАЙ, АЛЕ Ў РОЗНЫЯ БАКІ
Чаму сялянскі Кітай за тры дзясяцігоддзі здолеў ператварыцца ў сусветную майстэрню, а «зборачны цэх» СССР за гэты ж час перайшоў у шэрагі дзяржаў-жабракоў?

**5–6** «ПАТРЫЁТАМ БЕЛАРУСІ МЯНЕ ЗРАБІЎ БАЦЬКА-РАСЕЕЦ»
Што такое дзедаўшчына і ці змяняецца беларускае войска? Разважае 28-гадовы фігурант «Справы патрыётаў» Уладзімір Румянцаў

**7–18** Літаратурная Беларусь

**22–23** ВЯЛІКІ ТЭРОР У БССР: ШПІЁНЫ, ТЭРАРЫСТЫ, ШКОДНІКІ
Уважлівы чытач пераканаецца: прычыны эканамічнага недаразвіцця, якія выклікалі рэпрэсіі ў 1930-х гадах, — тыя ж, што і зараз

# 1937-ы і мінатаўр у кожным з нас



Алесь КІРКЕВІЧ

**Самай чорнай ночы XX стагоддзя для беларускай культуры спаўняецца 80 гадоў. У ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937-га расстралялі нашу літаратура, мастацтва і навуку: Зарэцкі, Дудар, Кляшторны... агулам пад паўтары сотні прозвішчаў.**

Здаецца, сёння ўжо нікому не трэба тлумачыць, каго расстрэльвалі, за што, хто страляў. Каго? Прыстойных інтэлігентных людзей. За што? Бо любілі Беларусь. Хто? Каты з чырвонымі аколышкамі фуражак. Нібыта ўсё проста... Разам з тым, сэнс тых падзеяў з гадамі замульваецца, таксама як ужо замулялася значэнне і трагедыя Другой сусветнай, Халакосту і г.д.

Пры гэтым, мы кожны раз вяртаемся да тых падзеяў, пераварваем, перагаворваем, пракручваем унутры сябе і транслюем у публічную прастору — безумоўна, кожны са сваіх пазіцыяў. Чаму? Ці гэта зацягнутая рэфлексія? Ці крыніца натхнення — для адных у вобразе ахвяраў, для іншых — сярод катаў? Альбо мы наўпрост згубілі дзень сённяшні, таму і вяртаемся да траўмаў і падзеяў 80-гадовай даўніны?..

Сёння ў Курапатах стаяць крыжы і сосны, сягаючыя карэннем чарапоў з маленькімі адтулінамі ў патыліцы. Месца жалобы і памяці, беларуская галгофа... Але крыжы з соснамі, здаецца, не даюць адказу на галоўнае пытанне: чаму так сталася? Роўна як і бронзавыя жаўнеры ў пілотках на магілах чырвонаармейцаў ці сямісвечнікі на месцах яўрэйскіх расстрэлаў — яны больш не выклікаюць эмоцыяў у сучаснага чалавека.

Яшчэ напярэдадні супрацьстаяння і намётавага мястэчка ў Курапатах увесну гэтага года, падчас наведвання ўрочышча, у мяне ў галаве круціўся вобраз мінатаўра як ідэальнага помніка ў «крывавым лесе». Чаму мінатаўр? Бо гэта сімвал жывёлы, якая спіць у кожным чалавеку, якую ты заўсёды знойдзеш у лабірынтах сваёй свядомасці, але ніколі не заб'еш. Затое можаш выйсці, прайшоўшы лабірынт, скарыстаўшыся ніццю Арыядны — здаровым сэнсам.

Мінатаўр — гэта адказ на пытанне, чаму так сталася. Бо тыя, хто працаваў у кабінетах пад партрэтамі «Жалезнага Фелікса» альбо націскаў спускавы гачок наганаў, узяліся не з Месяца, але жылі ў Мінску: шпацыравалі з сем'ямі па праспекце Сталіна, куплялі мінеральную ваду ці піва роўна так жа, як і іх ахвяры. Гэта таксама людзі, але прызнаўшыя культ мінатаўра на дзяржаўным узроўні, адначасна вызваліўшы і жывёлу ўнутры сябе, якая ўжо не гуляла ў лабірынтах падсвядомасці, але выйшла вонкі.

Наконт супрацоўнікаў НКУС, якія працавалі ў тую, ды не толькі ў тую ноч, закатаўшы рукавы, існуюць розныя меркаванні: маньякі, садысты, нелюдзі, ды яшчэ і з рускімі прозвішчамі: гэта, маўляў, усё тлумачыць. Тлумачэнні, мякка кажучы, павярхоўныя... Ніякая сістэма не можа будавацца адно на людзях з псіхічнымі адхіленнямі, ды і нацыянальны склад катаў, здаецца, быў даволі стракатым.

Наогул, спецслужбы апрыёры не могуць быць «добрымі» ў сучасным гуманістычным сэнсе — гэта ўсё ж такі не клуб філатэлістаў ці збіральнікаў гербарыяў. Гэта людзі з вельмі спецыфічнай свядомасцю, якія маюць шмат у чым адмаўляць сабе ў жыцці, накладаючы змрочны адбітак працы і на сябе, і на сям'ю, і на выхаванне дзяцей. Людзі, якія маюць падазраваць усіх і кожнага, уключна са сваёй жонкай, якія жывуць з гэтым унутраным пеклам (паліткарэктна казаць — «прафдэфармацыя»), нават калі сыходзяць на пенсію.



**Метадалогія спецслужбаў не павінна рабіцца дзяржаўнай палітыкай і ідэалогіяй**

Хочаце сказаць, што сучасныя афіцэры спецслужбаў ЗША альбо Ізраіля іншыя? Зусім не. Першыя за часы свайго існавання правялі безліч спецаперацыяў у той жа Паўднёвай Амерыцы, якія зусім не адпавядалі аніякім міжнародным стандартам і не ўпісваліся ў межы гуманнасці. Другія выкрадалі сваіх апанентаў з розных частак свету, каб дапытваць і судзіць, а сёння маюць наўпраставае права на знішчэнне асобаў, якіх палічылі тэрарыстамі-смяротнікамі і якія знаходзяцца ў горадзе, скажам, у рэжыме «ўключанай кнопкі».

Уявіце сабе на хвілінку, што БНР у 1918-м спраўдзілася як паўнавартасная дзяржава і праіснавала, прынамсі, да 1939–1941 года, як тыя ж краіны Балтыі. Думаеце, там не было б спецслужбаў? Былі б. Думаеце, яны не працавалі б жорстка? Працавалі б, бо пад бокам была Савецкая Расія, якая прагнула ствараць ачагі нестабільнасці, засылала агентаў і дыверсантаў, працавала з палітычнай апазіцыяй у рамках Камінтэрну і г.д. Так, усё было б вельмі падобна, адно што ў «амерыканцы» сядзелі б патэнцыйныя камуністы альбо сепаратысты прапольскага кірунку. Інакш маладая дзяржава наўпрост не мела б шансаў.

Спецслужбы маюць быць жорсткімі — метадалогія ва ўсіх аднолькавая. Тады ў чым розніца? Розніца адно ў тым, што метадалогія спецслужбаў — усяго толькі адной галіны дзяржапарату — не павінна рабіцца дзяржаўнай палітыкай і ідэалогіяй.

А яшчэ, задача спецслужбаў — гэта абарона інтарэсаў і жыццяў грамадзян краіны, а не асобна ўзятага клану, які кантралюе ўсё навокал. Кожны супрацоўнік мае найперш перамагчы мінатаўра ў самім сабе, ведаць яго і кантраляваць, а пасля ўжо брацца за кантроль грамадства. Простымі словамі, ён мае ведаць, для чаго і для каго ўсё гэта, інакш ахвярамі «мінатаўраў» у пагонах стануць і звычайныя грамадзяне. І іх учорашнія калегі, а магчыма, і галоўны «мінатаўр», які паставіў свой асабісты культ і цікавасці галоўным прыярытэтам развіцця краіны.

# Якой будзе кропка ў «Справе патрыётаў»

**У справе «Белага легіёна» самым бліжэйшым часам будзе пастаўленая кропка, заявіў старшыня Следчага камітэта Іван Наскевіч. Праўда, ён адмовіўся казаць, што гэта можа быць за кропка.**

«Справа працягваецца, але я думаю, што там ужо падстаў разбірацца да бясконцасці няма. Я думаю, што цягам восені мы ўжо паставім кропку ў гэтай справе. Напэўна, самая няўдзячная справа для следчага — казаць пра перспектывы. Але я вам гарантую, што будзе прынятае законнае і абгрунтаванае рашэнне», — сказаў чыноўнік у каментары для «Еўрарадыё».

Патлумачыў Наскевіч і прычыну, па якой была зменeная следчая група, што вядзе справу «Белага легіёна». Паводле слоў старшыні СК, частка следчых з першай групы скарысталася магчымасцю выйсці на пенсію па выслузе гадоў, адпаведна, узнікла нагода для іх замены.

Між тым, некаторыя фігуранты «Справы патрыётаў» дагэтуль застаюцца без належнай абароны. Разгляд скаргі адвакаткі Ганны Бахцінай, якую Мінюст нядаўна пазбавіў ліцэнзіі, распачаўся ў судзе Маскоўскага раёна Мінска. Адвакат з 25-гадовым стажам аспрэчвае рашэнне кваліфікацыйнай камісіі Міністэрства юстыцыі, на падставе якога яна была пазбаўлена права ажыццяўляць адвакацкую дзейнасць. Пастанова была вынесеная Міністэрствам юстыцыі 14 верасня. На думку Бахцінай, мелі месца парушэнні пры правядзенні атэстацыі, а пазачарговая атэстацыя была праведзена няправільна, таму і рашэнне было прынятае неабгрунтавана.

Нагадаем, 12 верасня кваліфікацыйная камісія Мінюста Беларусі падчас пазачарговай атэстацыі адвакатаў прызналі Ганну Бахціну «недастаткова кваліфікаванай».

«Рыхтуючыся да суда, я азнаёмілася з матэрыяламі па атэстацыі і матэрыяламі праверкі. Там адсутнічаюць мая характарыстыка і мае тлумачэнні, што я не прызнаю парушэнні, якія выявіла праверка, а гэта ўсё толькі памаркі справаводства, якія не маюць дачынення да маёй прафесійнай дзейнасці», — цытуе словы Бахцінай «Народная Воля».

У судзе Ганна Бахціна заявіла хадайніцтва пра выклік у суд у якасці сведкі старшыні кваліфікацыйнай камісіі Мінюста Мікалая Старавойтава, але суддзя хадайніцтва адхіліў. Прадстаўнікі Мінюста ў сваю чаргу хадайнічалі перад судом аб далучэнні да справы характарыстыкі на Бахціну, што суд і задаволіў.

Бахціна расцэньвае пазбаўленне яе ліцэнзіі як палітычна матываваны пераслед, звязаны з тым, што яна абараняла фігуранта «справы патрыётаў» Міраслава Лазоўскага, блогера Эдуард Пальчыса і іншых вядомых грамадскіх актывістаў.

**Паводле spring96.org і «Еўрарадыё»**

# Падвысіць культурны ўзровень ідэолагаў

Зінаіда ЦІМОШАК

**Ініцыятарка ўсталявання помніка героям Слуцкага збройнага чыну Аліна Нагорная даслала на імя старшыні райвыканкама Андрэя Янчэўскага спіс навуковай літаратуры, прысвечанай гэтай гістарычнай падзеі.**

«Намесніца старшыні райвыканкама па ідэалогіі Ларыса Дабравольская ў адмоўным адказе на калектыўны зварот аб ушанаванні памяці слуцкіх герояў спаслалася на недастатковае навуковае даследаванне гэтай тэмы, — распавяла Нагорная. — Паколькі галоўны ідэолаг аніяк не хоча выказаць сваё меркаванне і не дае магчымасці арганізаваць у Слуцку дыскусію навукоўцаў і ўсіх зацікаўленых па гэтай тэме, мы вырашылі пазнаёміць ідэолага і яе падначаленых з абгрунтаванымі навуковымі даследаваннямі падзей 1920 года на Случчыне. А іх сапраўды шмат».

Аліна Нагорная спадзяецца, што слуцкія дзяржаўныя службовыя асобы валодаюць нейкім мінімумам патрыятызму і элементарнай культуры, і пры праглядзе спісу навуковых выданняў у іх з'явіцца жаданне азнаёміцца хаця б з некаторымі з іх.

Пасля вывучэння гістарычных крыніц ініцыятарка ўшанавання памяці слуцкіх паўстанцаў просіць паўторна разгледзець калектыўны зварот наконт усталявання помніка слуцкім героям і паведаміць ёй пра месца і час правядзення яго разгляду.

Таксама Нагорная паведаміла, што яна і яе аднадумцы не збіраюцца спыняцца перад «слуцкай ідэалагічнай крэпасцю».

«Плануем бліжэйшым часам даслаць падобны ліст у Адміністрацыю прэзідэнта з фотакопіяй гісторыі перапіскі са слуцкімі чыноўнікамі і пазітыўным адказам з Інстытута гісторыі. Паралельна з перапіскай з чыноўнікамі мы шукаем альтэрнатыўныя варыянты для ўсталявання помніка», — кажа Нагорная.

# Пікетаваць прасцей не стане

**Палата прадстаўнікоў 25 кастрычніка ў першым чытанні ўхваліла змены ў закон «Аб масавых мерапрыемствах». Згодна з імі, уводзіцца заяўны прынцып правядзення масавых мерапрыемстваў, калі яны запланаваныя ў спецыяльна адведзеных для гэтага месцах.**

Міністр унутраных спраў Беларусі Ігар Шуневіч, каментуючы журналістам гэтыя папраўкі ў заканадаўства, назваў іх «самай жорсткай лібералізацыяй». «Мяняецца вельмі многае, мяняецца асноўны прынцып правядзення масавых мерапрыемстваў: мы ўводзім прынцып, які адпавядае ўсім агульнасусветным нормам, — заяўны», — падкрэсліў Шуневіч.

Паводле яго слоў, у адпаведнасці з законапраектам, любая арганізацыя або грамадзянін «зможа заявіць пра сваё жаданне правесці масавае мерапрыемства ва ўстаноўленым месцы, і на гэта дазвол уладаў не патрабуецца».

Але праваабаронцы з такімі фармулёўкамі не згодныя. Чаму прапанаваныя змены на практыцы мала чаго змяняюць, растлумачыў юрыст Валянцін Стэфановіч.

Па-першае, месцы для масавага мерапрыемства па-ранейшаму вызначаюць улады. Усе мы выдатна ведаем, якія месцы абіраюцца для правядзення масавых мерапрыемстваў. Фактычна, у кожным раённым цэнтры ёсць пастанова мясцовых органаў улады, дзе напісана, што ў цэнтры горада праводзіць масавыя мерапрыемствы, акрамя дзяржаўных, забаронена, а можна — толькі на стадыёне, у парку, у лесе ці яшчэ якім-небудзь аддаленым месцы. У міжнародных стандартах па свабодзе мірных сходаў і выказванні меркаванняў гаворыцца, што сход, пікет, дэманстрацыя павінны адбывацца каля мэтавай аўдыторыі — менавіта каля таго месца, дзе ёсць тыя, да каго вы хочаце данесці свой пасыл, выказаць пратэст і гэтак далей. Калі я пікетую Мінздароўя, то я мушу стаяць каля яго, а не ў нейкім парку. Такое абмежаванне па месцы правядзення нівелюе сэнс свабоды мірных сходаў і выказвання свайго меркавання, робіць яго бессэнсоўным.

Па-другое, па-ранейшаму патрабуецца аплата па ахове грамадскага парадку, медыцынскім абслугоўванні і прыборцы тэрыторыі, аднак зараз кошт будзе вызначацца не мясцовымі органамі ўлады, а адзінай пастановай Савета міністраў. З аднаго боку, добра, што кошты ўніфікуюцца і з'явяцца адзіны падыход, а не кожны раён будзе сам іх вызначаць, але з іншага — сутнасна гэта нічога не змяняе. Мы не мусім плаціць за рэалізацыю сваіх канстытуцыйных правоў. Гэта ўваходзіць у абавязальніцтвы дзяржавы, якая павінна спрыяць правядзенню масавых мерапрыемстваў і аплачваць паслугі па прыборцы, медыцынскім абслугоўванні і ахове правапарадку з дзяржбюджэту.

Па-трэцяе, унесеныя змены ў закон, як і раней, не прадугледжваюць і не дапускаюць правядзення спантанных акцый і контрдэманстрацый, што значна абмяжоўвае грамадзян у іх праве на свабоду мірных сходаў. Гэта значыць, што людзі не могуць своечасова рэагаваць на змены ў грамадстве і выказваць свае меркаванні ў тым ліку праз мірныя сходы, а павінны чакаць як мінімум 10 дзён (тэрмін падачы паведамлення). Таксама закон прама забараняе правядзенне больш чым аднаго масавага мерапрыемства ў адным і тым жа месцы ў адзін і той жа час.

Як адзначае Стэфановіч, цяжкасця зараз прыйдзецца на масавых мерапрыемствах фрылансерам і замежным журналістам, якія не акрэдытаваныя ў Беларусі. У зменах дакладна сфармулявана, хто з прадстаўнікоў СМІ можа прысутнічаць падчас правядзення мерапрыемства: гэта павінны быць акрэдытаваныя ў Беларусі журналісты, альбо журналісты беларускіх СМІ з дакументамі, якія пацвярджаюць асобу, і адпаведнымі журналісцкімі пасведчаннямі, візуальна абазначаныя камізэлькамі, нарукаўнымі павязкамі, бэйджамі. Што датычыцца незалежных назіральнікаў, то і ў зменах у законе іх статус не прапісаны. Тэарэтычна, гэта можа ствараць нейкія цяжкасці для ажыццяўлення назірання.

Такім чынам, кажа праваабаронца, прапанаваныя змены не набліжаюць закон «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь» да міжнародных стандартаў у галіне свабоды мірных сходаў і выказвання меркаванняў, паколькі ў ім застаюцца істотныя абмежаванні правоў грамадзян Беларусі.

То бок, істотна ў заканадаўстве нічога не змяняецца, і ніякай «жорсткай лібералізацыі» не адбудзецца. Пад выглядам «лібералізацыі» нам у чарговы раз імкнуцца прадаць немавeдама што.

**Паводле «Радыё Рацыя» і spring96.org**

# «Мінімальны заробак нічога з сябе не ўяўляе»

**Улады хочуць падтрымаць беларусаў, якія зарабляюць у месяц менш за мінімалку. Пра такія планы распавёў кіраўнік праўладнай Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Міхаіл Орда.**

Падчас сустрэчы з прадстаўнікамі ўрада Міхаіл Орда заявіў, што неабходна забяспечыць «мінімальны сацыяльны стандарт у аплаце працы кожнаму добрасумленнаму работніку».

Лідар незалежнага прафсаюза РЭП Генадзь Фядыніч у экспрэс-каментары «Салідарнасці» крытычна ацаніў такую ініцыятыву. На думку суразмоўцы, людзей з вельмі нізкімі заробкамі ў Беларусі дастаткова шмат: «Гэта адбываецца, калі наймальнік дае невялікія аклады, якія нават з улікам прэміі не дацягваюць да мінімальнай заработнай платы. І па законе такія працадаўцы павінны даплачваць суму да ўзроўню мінімалкі. Але гэта не вырашае праблему».

Прафсаюзны лідар упэўнены: мінімальны ўзровень аплаты працы павінен быць прывязаны не да мінімальнага заробку, якая сёння складае 265 рублёў, а да мінімальнага спажывецкага бюджэту, які для працаздольнага насельніцтва цяпер — 410 рублёў.

«Прапановы ФПБ нічога, акрамя расчаравання, не выклікаюць, — сказаў Генадзь Фядыніч. — Лепш бы яны выйшлі з ініцыятывай, што тарыф першага разраду павінен раўняцца мінімальнаму спажывецкаму бюджэту. І зняліся б усе пытанні. Сёння чалавек працуе па першым разрадзе і не можа зарабіць, каб заплаціць за камуналку, паесці, нешта сабе набыць. Гэта ўсё ўваходзіць у мінімальны спажывецкі бюджэт. А мінімальная заработная плата нічога з сябе не ўяўляе і не пакрывае гэтых выдаткаў. Хлопцы, трэба ад печкі танцаваць. У іх дастаткова рычагоў — выходзьце, стаўце гэтае пытанне рубам. А так — гэта пугай па вадзе».

Фядыніч падкрэслівае, што сёння людзі, якія маюць мінімальныя зарплаты, знаходзяцца ў гаротным становішчы: «Гэта, хутчэй за ўсё, работнікі дзіцячых садкоў, кухары, выхавальнікі. Дый я дапускаю, што на прыватных прадпрыемствах такое таксама можа быць. Хтосьці з людзей падзарабляе, дзесьці сям'я дапамагае, а калі, не дай Бог, гэты чалавек адзін — то гэта не жыццё, а выжыванне. Калі б чыноўнікі прымералі на сабе, як пражыць па мінімальную заработную плату месяц-другі, то адразу б стала ўсё ясна. А так у галечу акунаюць людзей».

Па словах кіраўніка РЭП, такая сітуацыя паказвае, што «ў 10% выпадкаў заробак расце, а ў 90% — не расце. І ў канцы года дакладуць, што даручэнне кіраўніка дзяржавы выканалі, што ўсім па пяцьсот».

**Паводле gazetaby.com**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Не па Фрэйду

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Мы прызвычаіліся, што нашы чыноўнікі могуць гадзінамі несці лухту, якая не мае нічога агульнага з рэальным жыццём. Але слухаць іх вельмі цікава. Папросту таму, што падсвядомасць не схаваеш, і ў прамовах абавязкова вылезе хоць крышачку, але праўда.**



Фота www.motivators.ru

На гэтым тыдні шмат вэрхалу нарабіў міністр эканомікі Беларусі Уладзімір Зіноўскі. Ён проста агучыў ісціну: заробак «па пяцьсот» да канца года, як тое абяцаў правадыр краіны, свеціць не ўсім. А можа, столькі ўвогуле не атрымае шмат хто.

«Безумоўна, ставіцца задача — у краіне! — не менш за тысячу рублёў. Але ёсць такія галіны эканомікі, як сельская гаспадарка або сацыяльная сфера, якія не могуць раптоўна дасягнуць такой заработнай платы. Хоць, напрыклад, бізнес павінен дэманстраваць не тысячу, а 1,5 тысячы ці 1,3 тысячы. І гэта адбываецца, таму зарплата памаленьку падцягваецца ў вектары, які задаў кіраўнік дзяржавы», — заявіў Зіноўскі ў эфіры тэлеканала АНТ.

Вось вам першая загадка. Мы так шмат казалі і пісалі пра палёгкі бізнесменам, пра развіццё дзелавога клімату, кіраўнік краіны падпісвае адпаведныя ўказы… Але дагэтуль у нашых чыноўнікаў: «бізнес павінен». Каму павінен? За што ён павінен? Што яму такое далі ці зрабілі, каб ён раптам апынуўся вінаватым? Нічога не далі і не зрабілі — папросту ён, у вачах уладаўтрыманцаў, «павінен» па вызначэнні. Бізнес ёсць — значыць, павінен.

Пры гэтым Зіноўскі ў чарговы раз сказаў правільную рэч: заробак мусіць быць заробкам, а не «палучкай». «Павінна быць заробленая плата, а не проста ўзяць і з прыбытку праесці грошы. А як развівацца будзем? Як будзем аднаўляць вытворчасць?» — сказаў міністр эканомікі.

І вось тут — тое, што прарываецца з падкоркі міністра. У 1994 годзе шаноўны Аляксандр Рыгоравіч прыйшоў да ўлады пад лозунгам «запусціць заводы». А зараз, праз больш чым 20 гадоў яго кіравання, нам трэба зноў «аднаўляць вытворчасць». Прычым, Зіноўскі казаў па-руску, і ў арыгінале гэта гучыць яшчэ больш жахліва — «восстанавливать производство». Дваццаць гадоў кіравалі — і апусцілі краіну на ўзровень 1990-х! І міністр, выходзячы з яго прамовы, гэта разумее!

Адзначыўся на тыдні і сам Аляксандр Рыгоравіч, таксама па рэзанансной тэме — падвышэння тарыфаў ЖКГ. Людзі ў інтэрнэце паднялі паніку наконт таго, што «камуналка» ў чарговы раз падаражэе, прычым істотна. Лукашэнка сабраў нараду па праблемах ЖКГ, дзе ў чарговы раз «паставіў задачу»: «З 2018 года праводзіцца разавае падвышэнне тарыфаў толькі на $5 і ў далейшым — ніякага росту без майго ведама. Тарыфы павінны быць пад'ёмнымі для народа. У гэтай сувязі ўраду, Камітэту дзяржаўнага кантролю даручаю дэталёва праверыць. І 1 студзеня 2018 года зацвердзім тарыфы рашэннем кіраўніка дзяржавы», — сказаў Лукашэнка.

Але больш цікавая іншая цытата. «Гэта пытанне ў тым ліку і палітычнае. Спешка тут недапушчальная. Мы палічым спачатку тарыфы дакладна, каб энергетыкі, тыя, хто ваду падае, не жыравалі і не вырашалі свае праблемы за кошт насельніцтва. І тады прымем рашэнне, калі будзем выходзіць і як будзем выходзіць на стопрацэнтную аплату. Я перакананы: калі мы вельмі дакладна палічым, ужо з трэцяга заходу, гэтыя тарыфы, то працэнт кампенсацыі будзе вельмі высокім. Можа быць, і 90%», — адзначыў кіраўнік дзяржавы.

Памятаеце, не так даўно Аляксандр Рыгоравіч патрабаваў ад камунальнікаў дакладна палічыць кошт іх паслугаў і пакласці лічбы яму на стол? Аказваецца, гэта не атрымалася ні з першага, ні з другога разу! Ужо патрэбны «трэці заход»! І не факт, што і ён скончыцца паспяхова.

Хаця ўсё вельмі проста зрабіла бабруйская пенсіянерка Любоў Санкевіч. Яна параўнала аплату ЖКГ за 2010 год і 2017 год. Паводле разлікаў былога бухгалтара, аказалася, што без уліку інфляцыі, напрыклад, тарыф аплаты за капітальны рамонт з 2010 года вырас больш чым у тры разы, каналізацыя — больш чым у 15 разоў, падагрэў вады і вываз смецця — больш чым у 107 і 125 разоў адпаведна. Разоў (!), а не пунктаў або працэнтаў!

Зараз зразумела, чаму Лукашэнку на стол не могуць пакласці тарыфы. Таму што, калі разбірацца справядліва, то высветліцца, што мы плацім не 100% паслуг ЖКГ, а значна больш! Нават з улікам валютна-крызіснага 2011-га з 2010 па 2016 гады інфляцыя склала 195,7%. А рост коштаў на той жа падагрэў вады — 10700%!!!

І пры гэтым наш віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка сцвярджае, што сёння за ацяпленне спажывец плаціць толькі 16,8% ад сабекошту. Пра гэта ён сказаў у Гомелі падчас адкрыцця пасля рэканструкцыі Гомельскай ЦЭЦ–1. Паводле яго слоў, каб выйсці энергетыкам на нулявую рэнтабельнасць, тарыф неабходна павысіць у 6 разоў.

Навошта ў 6 разоў? Давайце адразу ў 60! І потым зноў будзем сцвярджаць, што насельніцтва аплачвае 10% ад сабекошту… Бо лёгка разважаць «у працэнтах», а дамагчыся канкрэтных лічбаў — не пад сілу, аказваецца, нават Лукашэнку.

І яшчэ адна цікавая навіна, якая не звязаная з грашыма, але яскрава дэманструе нашы дасягненні за тыя ж 20 гадоў. Памятаеце, як Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка і Віктар Сцяпанавіч Чарнамырдзін урачыста выкопвалі памежны слуп на мяжы Расіі і Беларусі? Цяпер хай укопваюць назад!

Вясной 2018 года на мяжы Расіі з Беларуссю могуць быць устаноўлены часовыя памежныя пасты, папярэдзіў першы намеснік кіраўніка МУС Расіі Аляксандр Гаравы. «Калі мы не пяройдзем на адзіную міграцыйную карту да сакавіка, урадам РФ прапрацавана пытанне аб увядзенні часовых пагранічных пастоў як на аўтатрасе, так і на чыгунцы без прыпынення цягнікоў», — сказаў Гаравы.

З'яўленне памежных пастоў (з мая 2018-га — амаль дакладна) ён патлумачыў хваляваннем расійскіх уладаў наконт адкрытасці мяжы ва ўмовах, калі ўлады Беларусі дазволілі грамадзянам 80 краін свету прыязджаць у сваю краіну без візы на пяць дзён. Але потым (зноў пра тое, што ісціна вылезе на паверхню) сказаў: Беларусь як транзітная краіна выкарыстоўваецца людзьмі, якіх шукаюць расійскія праваахоўнікі ў сувязі з падазронымі паездкамі… у Сірыю!

Пытанне да расіян: а навошта вы ўлезлі ў тую Сірыю? Ладна, няхай яно рытарычнае. Але сапраўдная фармулёўка азначае, што даглядаць будуць не іншаземцаў, а ўсіх, хто перасякае мяжу Расіі і Беларусі.

Бывай, Саюзная дзяржава! Як кажуць, «помним, скорбим».

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Аляксей Мілюкоў



**Сын блогера Алега Жалнова адбыў 3 гады зняволення, паводле следства, за напад на супрацоўніка ДАІ, паводле ж блогера — за тое, што дапамагаў выкрываць парушэнні міліцыі.**

Апошні год Мілюкоў правёў у папраўчай калоніі №9 у Горках, вядомай рэпрэсіўным стаўленнем да зняволеных. За гэты час на Аляксея наклалі амаль два дзясяткі спагнанняў, у тым ліку, напрыклад, за адсутнасць вопраткі, якую яму не выдалі ў калоніі.

Праз здзекі Мілюкоў абвяшчаў галадоўкі, апошнія два месяцы зняволення ён правёў у штрафным ізалятары. За прынцыповую пазіцыю Аляксея ўлады калоніі каралі не толькі яго самога, але і іншых зняволеных, якія спрабавалі з ім кантактаваць.

Канфлікт з супрацоўнікамі ДАІ здарыўся 4 верасня 2013 года, калі Алег Жалноў разам з сынам Аляксеем здымалі на відэа парушэнне правілаў дарожнага руху бабруйскімі даішнікамі. Міліцыянты абвінавацілі Жалнова-старэйшага ў тым, што ён перашкаджае ім выконваць свае абавязкі. У выніку абодвух Жалновых гвалтам зацягнулі ў міліцэйскі пастарунак.

У ліпені 2014-га суд прызнаў 25-гадовага Аляксея Мілюкова вінаватым у нанясенні маральнай і фізічнай шкоды супрацоўніку ДАІ. А ў верасні 2016-га года маладзёна, які адбываў тады «хімію» ў Наваполацку, асудзілі нібыта за ўхіленне ад адбыцця пакарання ў выглядзе абмежавання волі і змясцілі ў Горацкую калонію.

## Алег Трусаў



**Старшыня «Таварыства беларускай мовы», які ўзначальваў арганізацыю з 1999 года, пакідае сваю пасаду.**

Новае кіраўніцтва ТБМ абяруць 29 кастрычніка на XIII з'ездзе грамадскай арганізацыі. Хутчэй за ўсё, новым кіраўніком стане дэпутат Палаты прадстаўнікоў Алена Анісім.

«Я балатавацца не буду, і заявіў пра гэта яшчэ тры гады таму. Мне здаецца, ужо хопіць. У любой справе галоўнае — не толькі яе ўзначаліць, але і своечасова сысці. Гэта закон гісторыі. І хто яго не ведае, той дрэнна заканчвае. Я 19 гадоў кірую ТБМ. Прыйшоў час сыходзіць», — патлумачыў Трусаў.

Пасля адстаўкі Трусаў не сыходзіць «у нікуды», а будзе займацца стварэннем Нацыянальнага ўніверсітэта. «Універсітэтам я буду прынцыпова займацца, сканцэнтрую на ім усе свае сілы. Сёння ёсць усе шанцы стварыць Нацыянальны ўніверсітэт. Мы цяпер прынцыпова хочам зрабіць прыватную ВНУ. Калі дзяржава не ідзе нам насустрач — можа, яно і да лепшага», — кажа Трусаў.

## Васіль Парфянкоў



**Беларускі экс-палітвязень і добраахвотнік ва Украіне Васіль Парфянкоў зноў трапіў у крымінальную гісторыю.**

У Святошынскім раённым судзе Кіева 23 кастрычніка разглядалася справа пра выбар меры стрымання лідару «Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў» Міколу Каханіўскаму, затрыманаму па факце страляніны ў Кіеве. Парфянкоў — сябра гэтай арганізацыі.

Суд не змог прыняць рашэнне адносна Каханіўскага, і чальцы АУН адмовіліся пакінуць залю, забарыкадаваліся і не далі адвезці свайго лідара ў СІЗА. Уначы 24 жніўня залю штурмам узяла паліцыя. Усяго былі затрыманыя 32 актывісты. З іх шасцёра маюць статус падазраваных паводле крымінальных артыкулаў: хуліганства, наўмыснае знішчэнне або пашкоджанне маёмасці і ўмяшанне ў дзейнасць супрацоўніка праваахоўнага органа.

Парфянкоў падчас сутычкі атрымаў пашкоджанні і быў шпіталізаваны. Медыкі не выявілі ў яго сур'ёзных траўм, але рэкамендавалі дадатковае абследаванне.

Нагадаем, што Парфянкоў з'яўляецца фігурантам яшчэ дзвюх крымінальных спраў ва Украіне: за ўдзел у пагромах прадстаўніцтваў расійскіх банкаў у Кіеве і за падзеі 9 мая, калі актывісты спрабавалі перашкодзіць правядзенню акцыі «Несмяротны полк». Абедзве справы разглядаюцца цяпер у судах.

Азбука паліталогіі


Сяргей НІКАЛЮК

# Адной дарогай, але ў розныя бакі

**Паміж Беларуссю і Кітаем шмат агульнага. Адрозненні выяўляюцца толькі ў адным — у канчатковым выніку**




На думку адзінага палітыка (АП), і ў Кітаі, і ў РБ выявіліся такія асаблівасці, «як рэгулюючая роля дзяржавы, прынцып эвалюцыйных пераўтварэнняў, стварэнне моцнай і эфектыўна дзеючай вертыкалі дзяржаўнай улады, дакладна распрацаваная сістэма заканадаўства, якая забяспечвае агульнасць інтарэсаў дзяржавы і кожнага яе грамадзяніна, беражлівае захаванне таго добрага, што было створана раней, а не бяздумнае яго разбурэнне».

Але дзе сёння Кітай і дзе Беларусь? І чаму сялянская краіна, што знішчыла падчас «Культурнай рэвалюцыі» сваю інтэлігенцыю, за тры дзесяцігоддзі здолела ператварыцца ў сусветную майстэрню, а «зборачны цэх» СССР за гэты ж час перайшоў у шэрагі дзяржаў-жабракоў, няздольных пражыць без чарговы крэдытнай падачкі?

## Мы апярэдзілі Самалі і Судан

За два дзесяцігоддзі сярэдні заробак у Кітаі павялічылася з 50 да 750 долараў. І палітычная несвабода гэтаму не перашкодзіла. Беларусь жа чарговым разам спрабуе штурмаваць 500-доларавы мяжу. Да канца года засталося тры месяцы. Надзея яшчэ не зусім памерла, але яе стан блізкі да каматознага.

Краіны, якія міжнародная няўрадавая арганізацыя «Freedom House» адносіць да несвабодных, на мове «Азбукі паліталогіі» называюцца аўтакратыямі. Варта адрозніваць персаналістычныя аўтакратыі (беларускі выпадак) ад партыйных, якія да распаду савецкага блоку не былі рэдкасцю.

Сучасны Кітай — унікальная аўтакратыя. Камуністычная партыя не толькі захавала манаполію на ўладу, але і асвоіла тэхналогію перыядычнай змены сваіх лідараў, выключыўшы тым самым «гонку на лафетах», якую са здзіўленнем назіраў свет у СССР у пачатку 1980-х гадоў.

З дапамогай Сусветнага банка паспрабуем асэнсаваць сілу і эфектыўнасць вертыкалі дзяржаўнай улады ў Беларусі і Кітаі (глядзі табліцу). Рэйтынг якасці дзяржаўнага кіравання разлічваецца экспертамі банка на аснове некалькіх сотняў пераменных для кожнага з шасці паказчыкаў у інтэрвале ад 0 да 100. Чым ніжэйшы рэйтынг — тым горшая якасць кіравання. Ісціна пазнаецца ў параўнанні, таму ў табліцу мы ўключылі і рэйтынг Аўстраліі.

Першае, што кідаецца ў вочы, — гэта правал па паказчыку «ўлік меркавання насельніцтва і падсправаздачнасць дзяржаўных органаў». Лепшай ілюстрацыі да слогану «Дзяржава для народа», мабыць, і не прыдумаць. Горш, чым у Беларусі і Кітаі, меркаванне насельніцтва ўлічваецца толькі ў Іране, Лаосе, Самалі, Судане, Экватарыяльнай Гвінеі, Эрытрэі і Паўночнай Карэі.

Адносна высока Сусветны банк ацаніў палітычную стабільнасць у Беларусі. Яна ў 1,7 разы вышэй, чым у Кітаі, але ў 1,8 разы ніжэй, чым у Аўстраліі. Адсюль дваістасць ацэнак: з аднаго боку, прэтэнзіі АП на тытул «донара рэгіянальнай стабільнасці», з другога — пастаянныя развагі на тэму «разгойдвання лодкі».

Што тычыцца астатніх паказчыкаў, то ўсур'ёз казаць пра канкурэнцыю беларускай вертыкалі з кітайскай не даводзіцца.

## Не прайшло і 21 года

Пры ўсёй знешняй разнастайнасці палітычных рэжымаў, іх можна звесці да двух тыпаў: мерытакратыі (ад лацінскага «meritus» — «варты» і грэчаскага «κράτος» — «улада», «праўленне») і ахлакратыі (ад лацінскага «ochlos» — «натоўп» і грэчаскага «κράτος»).

«Дэмакратыя, — паводле Уінстана Чэрчыля, — найгоршая форма праўлення, калі не лічыць усіх астатніх». Сваю перавагу перад астатнімі яна забяспечвае за кошт стварэння ўмоваў, якія адораным і працавітым асобам даюць магчымасць заняць высокае грамадскае становішча ва ўмовах канкурэнцыі. Такім чынам, дэмакратыя — гэта, перш за ўсё, механізм падтрымання якасці эліты.

Але сацыяльныя ліфты могуць працаваць не толькі на дэмакратычнай цязе. Да 1953 года кар'ерны шлях ад пачатку працоўнай дзейнасці да першай наменклатурнай пасады займаў у СССР 8 гадоў, а да канца праўлення Брэжнева — 23 гады.

**РЭЙТЫНГІ КРАІН ПА ШАСЦІ ІНДЭКСАХ ЯКАСЦІ ДЗЯРЖАЎНАГА КІРАВАННЯ**

| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Беларусь | 5,69 | 46,45 | 17,22 | 14,35 | 20,38 | 37,32 |
| Кітай | 5,21 | 27,01 | 54,07 | 42,58 | 39,81 | 46,89 |
| Аўстралія | 94,31 | 83,41 | 94,74 | 97,13 | 95,73 | 93,78 |

1) улік меркавання насельніцтва і падсправаздачнасць дзяржаўных органаў; 2) палітычная стабільнасць і адсутнасць гвалту; 3) эфектыўнасць работы ўрада; 4) якасць заканадаўства; 5) вяршэнства закона; 6) стрымліванне карупцыі.

Кар'ерную мабільнасць пры Сталіне забяспечваў тэрор. Яго заканчэнне пры адсутнасці дэмакратыі і спарадзіла «эпоху застою». Галоўнай умовай прасоўвання па службе стала пратэкцыя, а калі казаць прасцей — блат і сувязі.

14 верасня на сустрэчы з прэзідэнтам Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця АП заявіў, што цяперашняя пяцігодка будзе накіраваная на разнявленне ініцыятывы канкрэтных людзей, на наданне дынамікі чалавечым здольнасцям. «Маючы ў краіне стабільнасць, бяспеку і кіравальнасць, мы (г.зн. улада. — С.Н.) хацелі б даць ініцыятыўным людзям больш свабоды ў самарэалізацыі, перш за ўсё ў вытворчай сферы, у сферы паслуг», — падкрэсліў АП.

Для тых, хто даўно не перачытваў Асноўны закон краіны, нагадаю, што слова «свабода» згадваецца ў Канстытуцыі 46 разоў. Пры гэтым у артыкуле 2 Канстытуцыі правы і свабоды чалавека абвяшчаюцца «найвышэйшай каштоўнасцю і мэтай грамадства і дзяржавы», і адказнасць «перад грамадзянінам за стварэнне ўмоў для свабоднага і годнага развіцця асобы» замацавана за дзяржавай.

І трэба ж такому здарыцца — не прайшло і 21 года з моманту прыняцця Канстытуцыі ў яе цяперашняй рэдакцыі, як мы захацелі «даць ініцыятыўным людзям больш свабоды ў самарэалізацыі», але прастору свабоды абмежавалі пры гэтым вытворчай сферай і сферай паслуг. Істотная агаворка, згадзіцеся! Без яе асобныя гарачыя галовы вырашаць распаўсюдзіць свабоду і на сферу палітыкі.

## Паводле рэцэпту Канфуцыя

«Калі мы не вывучаем грамадскую думку, дык мы не маем права прамаўляць свае ўласнае меркаванне. Грамадская думка — кіраўніцтва да дзеяння». Аўтар цытаты — Маа Цзэдун. Яго словы не разыходзяцца са справай. У краіне дзейнічаюць больш за тысячу фірмаў, якія праводзяць апытанні насельніцтва, і ўлада шчодра выдаткоўвае сродкі на сацыялагічныя даследаванні.

«Мой пекінскі суседскі камітэт і мэрыя, — адзначае амерыканскі пісьменнік Джэф Браўн, — пастаянна размяшчаюць аб'явы, якія запрашаюць групы людзей — арандатараў, домаўладальнікаў, тых, каму за 70, жанчын, маладзейшых за 40 гадоў, тых, хто мае ці не мае медыцынскіх страховак, пенсіянераў — на разнастайныя апытанні».

Уявіць сабе нешта падобнае ў Беларусі немагчыма. Дзяржаўныя сацыялагічныя службы, якія праводзяць апытанні за грошы падаткаплатнікаў, не спяшаюцца даводзіць вынікі сваіх даследаванняў да тых, хто іх аплачвае. Вось такая дэмакратыя! Што да незалежных сацыялагічных службаў, дык каб іх падлічыць, хопіць пальцаў на адной руцэ.

Кітайскі варыянт пабудовы мерытакратычнай дзяржавы грунтуецца на вучэнні, распрацаваным Канфуцыем (553–480 да н. э.). Яго цэнтральны элемент — упарадкаванне адносін кіраўнікоў і падданых.

На працягу тысячагоддзяў галоўнай сельскагаспадарчай культурай у Кітаі з'яўляўся рыс. Каб яго вырошчваць, патрэбная была не толькі ўпартая праца сялян, але і эліты найвышэйшага ўзроўню, без чаго было немагчыма стварэнне складаных ірыгацыйных збудаванняў. Таму сістэма адбору дзяржаўных службоўцаў пры дапамозе адмысловых экзаменаў — адзін з найбольш вядомых інстытутаў традыцыйнага Кітая. І ўжо паўтары тысячы гадоў яна функцыянуе ў амаль нязменным выглядзе.

Беларусь жа была і застаецца прыкладам ручнога кіравання. «Гэта не індывідуальны стыль, — тлумачыць філосаф Аляксандр Рубцоў, — а аснова рэжыму». Нездарма ж АП называе кіраўнікоў раённых адміністрацый «гаспадарамі», якія маюць «салідныя індульгенцыі, салідныя прыкрыццё» з боку АП. Гэта прыкрыццё абараняе «гаспадароў» не толькі ад губернатараў, але і ад насельніцтва.

***

Кітайскі спосаб фармавання мерытакратыі дрэнна адлюстроўваецца звыклымі для еўрапейцаў методыкамі. Толькі гэтым можна растлумачыць неадпаведнасць рэйтынгу якасці дзяржаўнага кіравання, які разлічылі эксперты Сусветнага банка, і тэмпаў развіцця кітайскай эканомікі. Аднак і ўнікальнасць радзімы Канфуцыя не варта перабольшваць. На стадыі індустрыялізацыі яе суседзі (Японія, Паўднёвая Карэя) таксама дэманстравалі высокія тэмпы эканамічнага росту, але пераход да постіндустрыяльнай эканомікі запатрабаваў пашырэння палітычнай прасторы свабоды паводле заходняга ўзору.

# Румянцаў: «Патрыётам Беларусі мяне зрабіў бацька-расеец»

**Што такое дзедаўшчына і ці змяняецца беларускае войска? Як быць патрыётам, маючы рускае паходжанне і дыплом Вышэйшага каманднага вучылішчы ў Маскве? Мы працягваем серыю «непалітычных» размоваў з фігурантамі «Справы патрыётаў».**



Лёс 28-гадовага Уладзіміра Румянцава вельмі шчыльна звязаны з войскам, якому хлопец аддаў 10 гадоў свайго жыцця. Пры гэтым выдатны жаўнер і камандзір у пэўны момант трапіў у пастку сістэмы: быў абвінавачаны фактычна ў... выкананні статутных абавязкаў!

Пасля арыштаў і пачатку гісторыі са «Справай патрыётаў» ягонае жыццё радыкальна змянілася: сёння Румянцаў памяняў камуфляж на цывільную вопратку, а замест аўтамата трымае ў руках кампутарную мышку — засвойвае мову праграмавання.

## Ад «Патрыёта» да вайсковай вучэльні ў Маскве

*— Большую частку свайго свядомага жыцця ты звязаў з войскам, чаму?*

— Я б не сказаў, што з дзяцінства марыў акурат пра вайсковую кар'еру, пры гэтым з дзяцінства мяне цікавілі ўсходнія адзінаборствы, халодная зброя... Бацька такія зацікаўленасці падтрымліваў, таму некалі запісаў у секцыю па каратэ. Яшчэ школьнікам я займаўся ў клубе «Патрыёт» у Бабруйску. На той момант прыйшло разуменне, што мой імпэт трэба неяк рэалізоўваць. У дадатак, я такі чалавек, што буду займацца адно тым, да чаго душа ляжыць, аднак аддавацца гэтаму цалкам.

*— Твой бацька — вайсковец?*

— Не, але наўпрост падтрымліваў мае зацікаўленні. Ён лічыць, што калі нешта падабаецца — трэба гэтым займацца, нягледзячы ні на што, нават калі цяжка: стаў перад сабой мэты і дасягай!

*— Як пачалася твая вайсковая кар'ера?*

— Як і для большасці юнакоў, усё пачалося з прызыву ў войска. Перад гэтым я спрабаваў паступіць у Вайсковую акадэмію Беларусі двойчы, але не паступіў. Пасля тэрміновай службы, я здаў іспыты і паступіў у Вышэйшае каманднае вучылішча ў Маскве, якое рыхтуе спецыялістаў па профілі «ўжыванне мотастралковых падраздзяленняў». Скончыў з чырвоным дыпломам, быў адным з лепшых на курсе. Пасля трапіў у адну з вайсковых частак Мінска, называць яе не буду. На працягу пяці гадоў служыў кантрактнікам.

## Па штаце ва ўзводзе быў... адзін чалавек

*— З чым ты сутыкнуўся ў войску пасля вяртання з вучэльні?*

— Я лічыў, што ставіўся да вучобы належным чынам, таму і да мяне стаўленне на новым месцы службы будзе адпаведным: дадуць нармальную пасаду. У выніку я прыйшоў на пасаду камандзіра ўзвода, дзе была тэхніка, але не было людзей. Там быў адзін чалавек па штаце, але дэ-факта нават яго не было... Зразумела, мне гэта не спадабалася.

*— Як так можа быць?*

— Можа быць. Магчыма, вышэйшае кіраўніцтва лічыць, што адзін жаўнер і камандзір узвода ў стане абслужыць тры адзінкі тэхнікі, пры гэтым яшчэ займацца баявой падрыхтоўкай... Гэта ў мяне не ўкладалася ў галаве.

*— То бок да цябе як да камандзіра быў такі давер, што кіраўніцтва палічыла: узвод з двух чалавек можа выканаць любую баявую задачу?*

— Ага, канешне *(смяецца)*. І смех, і грэх.

## Хлопцы баяцца казаць праўду, каб не быць «стукачамі»

*— Зараз шмат размоваў пра дзедаўшчыну. У роце, якой ты камандаваў, былі падобныя выпадкі?*

— Давайце разбяромся ў паняццях. У тых ці іншых праявах з дзедаўшчынай чалавек сутыкаецца паўсюдна: на працы, у двары, у школе. Калі пра маю роту, дык старэйшыя хлопцы маглі злёгку жартаваць з маладзейшых — гэта нармальна, жывыя чалавечыя стасункі. Але крыўдзіць сур'ёзна — не, бо я прывучыў да адваротнага: дапамагаць і навучаць моладзь. Калі прыходзіць навабранец, я да яго прыстаўляў стараслужачага, які тлумачыў паўсядзённыя моманты, падцягваў па пытаннях падрыхтоўкі.

*— А нейкае цкаванне, «настойлівыя просьбы» аддаць грошы, ежу, папраць шкарпэткі — было такое?*

— Не. Я камандаваў вельмі спецыфічным падраздзяленнем, дзе гэта не віталася па простай прычыне: трэба быць шчыльна прыцёртымі адзін да аднаго. У прынцыпе, не важна нават, якое падраздзяленне. Калі сёння ты пасвараны з чалавекам, а заўтра разам вам ісці ў бой — ці зможаш ты яму падставіць спіну? Менавіта праз гэта дзедаўшчына непрымальная.

Маладыя хлопцы часцяком баяцца сказаць пра выпадкі ўціску, бо на іх вешаецца кляймо «стукача». Я тлумачыў: уявіце сабе сітуацыю, што вы не ў войску, а «на гражданцы», вас падманулі, скажам, «кінулі» з кватэрай — вы ж звернецеся ў міліцыю? Так. Дык а ў чым розніца? Калі ты носіш пагоны, ходзіш з кароткай стрыжкай — гэта яшчэ не значыць, што ты жывеш у нейкім іншым свеце. Закон адзіны для ўсіх. А дзедаўшчына — гэта выключна азнака нізкай дысцыпліны ў падраздзяленні.

## «Трагедыя ў Печах — недахоп афіцэрскай працы»

*— Гэта бяда камандзіра ці тых хлопцаў, якія служаць, — мяркую, гэта ўсяго толькі зрэз хворага грамадства?*

— Найперш сам камандзір мае падвесці падначаленых да таго, што падпарадкоўвацца правілам — гэта норма. Таму гэта бяда камандзіра. З іншага боку, сам феномен дзедаўшчыны родам не з войска, людзі ж не ў казармах нараджаюцца — яны туды прыходзяць з «гражданкі». Калі прыходзяць, то нясуць усе хібы грамадства, у тым ліку крымінальныя памкненні. Але няправільна, калі камандзір развядзе рукамі ў такой сітуацыі і скажа: «Ну што я магу зрабіць?..» Не можаш — вызваляй пасаду.

Увесь час з жаўнерамі трэба працаваць. Зразумела, каб камандзір атрымліваў ужо падрыхтаваны чалавечы матэрыял, было б прасцей. Але Радзіма выдала табе тое, што «вырасла», — няма іншага. Умоўна кажучы, усё што на вуліцы злавілі — табе далі *(смяецца)*. Рэшта — праца афіцэра, на тое ён і носіць пагоны.

*— Дык як выкараніць дзедаўшчыну?*

— З дапамогай прафесійнай працы афіцэраў. Служба — гэта няспынная праца. Не мае быць так, што сёння камандзір пашыхтаваў байцоў, пакрытыкаваў, пахваліў, а пасля на тыдзень ці два знікае. А што з байцамі? Гэта недапушчальна. Афіцэр увесь час мае быць у курсе ўсяго, што робіцца ў ягоным падраздзяленні з людзьмі, якіх яму даверылі.

Таму, мне здаецца, што трагедыя ў Печах — гэта недахоп найперш афіцэрскай працы: на дзедаўшчыну альбо заплюшчвалі вочы, альбо нават заахвочвалі. Я вельмі блізка да сэрца ўспрыняў гэтую сітуацыю, часта думаю пра гэта. Шчыра жадаю, каб вінаватыя былі вельмі сурова пакараныя, як кажа кіраўнік нашай дзяржавы: «Жэстачайшэ».

## Беларус па пашпарце і па духу

*— Наколькі я ведаю, паводле генаў і паходжання ты не беларус...*




— Мой бацька — расеец (карані недзе з-пад Цвяры), а маці — чувашка.

*— Ёсць меркаванне, што ўсе «рускія» ў нашым войску — патэнцыйныя агенты Крамля, а ты яшчэ і ў Маскве вучыўся... Наўпроставы «партрэт здрадніка»!*

— Хай мяне нехта называе здраднікам, мне гэта не важна. Я паехаў у Маскву па простай прычыне: не хачу вучыцца ў беларускіх вайскоўцаў. Які сэнс вучыцца ў шаўца, што не шые боты? Таму я паехаў да шаўцоў, якія шыюць, — да вайскоўцаў, якія ваююць. Была б магчымасць павучыцца і пераняць досвед NATO, магчыма, паехаў бы туды. Але быў той выбар, які быў: Беларусь ці Расія. Я паехаў, каб стаць прафесіяналам у сваёй справе: вучыцца ў тых, хто мае рэальны досвед ужывання сваіх узброеных сілаў.

*— Калі кажуць, што «не патрыятычна», калі на афіцэрскіх пасадах у Беларусі людзі расійскага паходжання альбо з расійскімі дыпломамі, што б ты адказаў такім «экспертам»?*

— Я так не лічу. Мяркую, што патрыятычна будзе, калі на вышэйшых пасадах будуць патрыёты, незалежна ад іх прозвішча ці паходжання. Нашмат горш, калі гэтыя пасады займаюць этнічныя беларусы, якія дагэтуль лічаць Беларусь ледзь не часткай нейкага эфемернага СССР, з якога, нібыта, «усе мы родам».

Са мной служыў хлопец, скажам так, азіяцкай знешнасці. Дык я яго лічу сапраўдным патрыётам: ён паважае беларускую мову, ведае гісторыю. Памятаю, ён неяк падыходзіць да мяне і кажа: «Ведаеш, які сёння дзень?» Пацiскаю плячыма. А ён: «Дзень прыняцця Статута ВКЛ!» Таму, не істотна, хто ты па паходжанні, важна — хто ты па духу. Я — беларус толькі па духу і па пашпарце.

*— Калі няма «кроўнай» сувязі з гэтай зямлёй, адкуль цікавасць да мовы, гісторыі, патрыятызм?..*

— Мяне так бацька выхаваў. Ён сказаў: «Калі ты нарадзіўся і жывеш на гэтай зямлі — ты ёй належыш. Таму вучы мову, гісторыю, трымайся законаў і традыцый гэтай краіны». Усё проста да немажлівасці! Я не хаваю, што ў дзяцінстве, гадоў у 10, я не хацеў вучыць беларускую мову... Чаму? Бо не ўмеў прыгожа і пісьменна размаўляць на ёй. Як кажуць: «Я не люблю ездзіць на ровары, бо не ўмею». Але бацька мяне прымушаў вучыцца, гэтым момантам я таксама абавязаны яму.

*— Дарэчы, ці прымаў ты прысягу, калі вучыўся ў Расіі?*

— У Расіі — не. Да гэтага я праходзіў тэрміновую вайсковую службу ў Беларусі, дзе і прысягнуў сваёй Радзіме. Памятаю нават дату: 11 лютага 2007 года.

Працяг на стар. 6 »



**Нягледзячы на ўсё, што адбылося, я стараюся трымацца тых жа правілаў, што і раней. Па-ранейшаму люблю Беларусь, сябе асабіста падтрымліваю ў форме. Не збіраюся нікуды з'язджаць, што б мне хто ні раіў, бо ўжо казалі: «Валі лепш адсюль, бачыш, як тут бывае?..» Не, гэта не пра мяне. Калі зараз раптам паклічуць на вайсковыя зборы — пайду і адпрацую напоўніцу**

# Румянцаў: «Патрыётам Беларусі мяне зрабіў бацька-расеец»

**« Працяг. Пачатак на стар. 5**

А ў Расіі не было ніякага абавязку ўсім навучэнцам вучэльні прымаць прысягу. Там жа навучаліся хлопцы з Нікарагуа, Абхазіі, Паўднёвай Асеціі, Нігерыі, Палесціны... Навошта ім прымаць прысягаць РФ, праўда?

### Мы надалей жывём вопытам ВАВ і Афганістана

***— Маючы за спінай 10 гадоў у беларускім войску, мабыць, ёсць думкі пра нейкія рэформы ці аптымізацыю?***

— Усе нававядзенні ў нас зводзяцца да таго, што калі ты нешта прапаноўваеш, то маеш абкласціся купай папераў. Табе павінен напісаць рэцэнзію старэнькі палкоўнік, які жывога жаўнера апошні раз бачыў гадоў 20 таму, і ад гэтай тлумачальнай запіскі будзе залежаць лёс нававядзення. Таму, калі нейкія змены ідуць, то страшэнна марудна. Гэта мая асабістая думка, але я практык: служыў і навучаў вайскоўцаў.

Не трэба выдумляць ровар, ёсць замежны досвед. Трэба, напрыклад, стварыць часовае падраздзяленне, навучыць па пэўнай методыцы — не важна, ізраільскай, французскай ці расійскай, — і паглядзець, ці падыходзіць нам. У нас жа назіральнікі прыязджаюць на вучэнні за мяжой — паглядзелі, пагаварылі, пастралялі — цудоўна! Але трэба трэніравацца, усё паспрабаваць — гэта зусім іншае.

Калі мы бачым, што амерыканская сістэма вядзення бою ў горадзе эфектыўная — яе трэба браць. Там кожны жаўнер ведае, як дзейнічаць у чацвёрцы, тройцы, двойцы, што рабіць па камандзе «лесвіца» альбо «калідор»... У нас жаўнеры гэтага банальна не ведаюць, а ў падручніках па бой у горадзе адводзіцца адна старонка. Затое шматслоўна прапісана, «што камандзір узвода мае ўлічыць падчас прыняцця рашэння...». Але ж гэта для афіцэраў — як кіраваць. А як выконваць, што рабіць шараговаму? Гэтага няма.

***— То бок, гэта праблема сучаснай метадалогіі?***

— Што казаць, калі мы не маем нават сучасных падручнікаў, перапісваюцца старыя. Просты прыклад: бярэм наш падручнік па падрыхтоўцы выведчыка, артыкул «Выжыванне», а пасля гартаем аналагічны падручнік 1985 года — адзін да аднаго! Толькі ў нашым выпадку падпісана, што падрыхтавана палкоўнікам N пад рэдакцыяй генерала X. Атрымліваецца, яны нічога не дадалі — наўпрост перапісалі! У падручніках па тапаграфіі надалей пішуць, маўляў, дзе больш моху на кары дрэва, там поўнач. Але гэта не працуе, колькі ні спрабуй! Дык навошта жаўнеру забіваць галаву лухтой?

Мы, на жаль, надалей жывём савецкай тэорыяй і практыкай у войску. Пагартай любы вайсковы падручнік — і знойдзеш: «вопыт Вялікай Айчыннай», «вопыт Афганістана»... А дзе рэшта? Пасля Афганістана, які скончыўся ў 1989-м, былі яшчэ ці не сотні ўзброеных канфліктаў, іх варта было вывучаць.

***— Але ёсць хоць нейкія пазітыўныя зрухі?***

— З апошняга, што мне спадабалася, гэта рэакцыя нашага вайсковага кіраўніцтва на досвед Украіны, тэндэнцыя на аптымізацыю мабілізацыі ў такіх выпадках. Важна, што яны хаця б пачалі варушыцца, паглядзеўшы на памылкі суседзяў. Добрая спроба была ўвесці практычную стральбу ва ўзброеных сілах — часткова гэта прыжылося. Але чаму б гэта не вывучаць усім падраздзяленням, а не толькі спецназу і выведцы? Усе жаўнеры ж трымаюць зброю і павінны быць гатовыя яе выкарыстаць...

### «Фарбаванне нямытага БТР, у якім няма дзвіжка...»

***— А ці ўсе жаўнеры ў нашым войску трымаюць у руках зброю?***

— У тэорыі, навучыцца павінен кожны, насамрэч — не. Але ж не павінна быць тэорыі ці практыкі, мае быць адзіны стандарт! Адзін са старшых афіцэраў, які камандаваў маёй часткай, некалі ўвёў правіла, каб нават сувязісты і кухары стралялі раз на тыдзень. Я ім захапляўся, малайцом! Ён наўпрост сцвярджаў стандарт: страляць раз на тыдзень — гэта норма. Праз слёзы і пот усё выконвалася. Такія выпадкі даюць надзею, што афіцэрскі корпус у нас не згублены, ёсць людзі, якія нечага хочуць і дасягаюць, іх можна назваць прафесіяналамі.



***— Ты згадаў пра тэрытарыяльную абарону і досвед Украіны. Ці будзе падобная сістэма ў нас эфектыўнай?***

— На жаль, у нас занадта шмат папераў і правяраючых, каб задушыць любую добрую ініцыятыву. Некалі падчас вялікіх камандна-штабных вучэнняў да нас прыехалі два аўтобусы палкоўнікаў, падпалкоўнікаў і маёраў, каб правяраць. Вучэнні нібыта агульныя, датычацца кожнага... Мы нават жартавалі, маўляў, калі ўжо зробяць так, каб правяраць не было каму, калі ўсе будуць удзельнічаць?

Які прыярытэт падчас праверкі? Каб была ахова, каб ніхто не ўлез, не падклаў выбухоўку — гэта правільна, так мае быць. А калі палкоўнік выгаворвае за няправільна пастаўлены намёт — гэта смешна. Няўжо гэта ўзровень палкоўніка, правяраць крывізну намёту?.. Маскіроўка, выведка, абарона ад паветранага назірання і іншае — гэта сапраўды важна, ад гэтага залежыць вынік бою. Нават своечасовы падвоз ежы — важна. А ад таго, як пастаўлены намёт, не залежыць нічога.

Гэта з рубрыкі фарбавання ходнікаў ці складання снегу кубікамі, што не ўплывае на баяздольнасць і пераўтварае службу ў фікцыю. Падобныя «працы» патрэбныя адно для таго, каб пры адсутнасці рэальнай баявой падрыхтоўкі нечым заняць жаўнераў. Гэта як фарбаванне нямытага корпусу БТР, у якім няма дзвіжка... Апошні прыклад, дарэчы, з рэальнага жыцця, але і як метафара для ўсяго войска падыходзіць няблага.

### Пасля службы здымаў фота начнога гораду, каб адпачыць

***— Што наконт хобі?***

— Найперш, фота. Камеру набыў цалкам выпадкова — нейк вырашыў зрабіць сабе падарунак на Новы год. Падумаў, а раптам і ў мяне атрымаецца цікава здымаць. Было гэта яшчэ падчас вайсковай службы: пасля напружанага дня трэба было пераключыць увагу на эстэтычны бок жыцця...

***— Ты так адпачываў?***

— Так. Прыходзіў дахаты, вячэраў і бег з фотаапаратам у горад. Магчыма, таму асноўнай маёй тэмай быў начны горад на здымках з доўгай вытрымкай *(смяецца)*. Хацеў пасля папрацаваць са студыйным фота, але там ужо неяк не склалася.

***— Што зараз?***

— Калі я звольніўся з вайсковай службы, мне трэба было пераключыць энергію і памкненні на нешта іншае. Так я вырашыў перавучыцца і паспрабаваў праграмаванне. Яшчэ да войска захапляўся гэтым, шмат часу праводзіў за камп'ютарам. Войска ўсё змяніла, часу не хапала ні на што... Зараз, атрымліваецца, я вяртаюся да вытокаў, даўно забытага, але праз гэта не менш любімага занятку.

З гэтым звязаныя мае планы на будучыню: дасягнуць таго ўзроўню, з якім можна будзе працаваць у кампаніі, рабіць цікавыя праекты, атрымліваць ад гэтага задавальненне. Мяне тут ніхто не будзе абмяжоўваць, рамкі будзе ставіць адно сама мова праграмавання і здольнасці інтэлекту. Як кажуць, лепшая праца — гэта добра аплачваемае хобі.

***— Што наконт асабістага жыцця?***

— У мяне ёсць дзяўчына, але нейкіх грандыёзных планаў пакуль няма. У артыкуле можаш напісаць: «I'm single!» *(смяецца)*. Дарэчы, зараз таксама вывучаю англійскую мову, хаджу да рэпетытара.

### «Можа трэба было піць піва і расціць пуза?..»

***— Пасля гісторыі са «Справай патрыётаў» і звальненнем з войска, ці змяніліся погляды на тэму патрыятызму?***

— Не. Нягледзячы на ўсё, што адбылося, я стараюся трымацца тых жа правілаў, што і раней. Па-ранейшаму люблю Беларусь, сябе асабіста падтрымліваю ў форме. Не збіраюся нікуды з'язджаць, што б мне хто ні раіў, бо ўжо казалі: «Валі лепш адсюль, бачыш, як тут бывае?..» Не, гэта не пра мяне. Калі зараз раптам паклічуць на вайсковыя зборы — пайду і адпрацую напоўніцу.

***— Цябе, вайскоўца, вінавацілі ў вайсковай падрыхтоўцы, ці гэта не абсурд?***

— Гэта падвойныя стандарты, якія я адчуў на сабе. Паводле ўставу ўнутранай службы, кожны вайсковец абавязаны ўвесь час удасканальваць сваю вывучку і вайсковае майстэрства. То бок, я маю трэніравацца, чытаць адмысловую літаратуру, ставаць мацнейшым, каб у любы момант здолець прыйсці Радзіме на дапамогу, выканаць загад.

Апынулася, што ўсе гэтыя заняткі і захапленні мяжуюць са злачыннымі дзеяннямі — так гэта трактавалі следчыя... Адсюль пытанне: можа, устаў трэба чытаць неяк паміж радкоў і разумець па-іншаму? Камусьці свае абавязкі трэба выконваць, а камусьці — не? Можа, трэба было нічога не рабіць, піць піва, расціць пуза, чакаць крэдыт на кватэру, як гэта рабіў шмат хто з маіх саслужыўцаў, — і ўсё? Я так не хацеў — і паплаціўся за гэта.

**Фота з асабістага архіву Уладзіміра Румянцава**

Літаратурная Беларусь

Выпуск №10 (134)
(кастрычнік)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by

## Змест

**НАВІНЫ:** асноўныя падзеі грамадска-літаратурнага жыцця Беларусі ..с. 2
**ЮБІЛЕЙ:** эсэ Васіля ЖУКОВІЧА «Трывалае трыадзінства» — да 50-годдзя Вадзіма ЖЫЛКО ........ с. 3
**ПРОЗА:** апавяданне Анатоля САНАЦЕНКІ «Сталіна Піліпаўна» ........ с. 4
**ПАЭЗІЯ:** новыя квантэмы Алеся РАЗАНАВА «акраец макаецца ў малако» ........ с. 5
**ЧЫТАЛЬНЯ:** «Плач ваўчыцы» Міхася ЗІЗЮКА ........ с. 6–7
**ПЕРАКЛАДЫ:** сучасная польская паэзія ў перастварэнні Андрэя ХАДАНОВІЧА ........ с. 8
**ЗАПІСЫ:** Алесь ЕМЯЛЬЯНАЎ-ШЫЛОВІЧ, «У сямейным жыцці — як у моры...» ........ с. 9
**ЭСЭ:** «Кананне мамы» Сяргея РУБЛЕЎСКАГА ........ с. 10
**КРЫТЫКА:** Алена КАРП пра беларускамоўнае выданне кнігі Тумаса ТРАНСТРОМЕРА і «праект рэвалюцыі ў літаратуры» Ціхана ЧАРНЯКЕВІЧА ........ с. 11
**СВЕТ:** асноўныя падзеі і цікавосткі літаратурнага замежжа ........ с. 12

# Таццяна Барысік: «Вольны час — ноч ці раніца»

**Жыць за кошт пісьменніцкіх ганарараў у Беларусі немагчыма. А што рабіць, калі яшчэ трэба выхоўваць дзіця? Пісьменніца з Магілёва Таццяна Барысік ужо каля 14 гадоў працуе на заводзе ачышчальных збудаванняў апаратчыкам-машыністам. А ў вольны час піша прозу.**



Пра дарогу ў літаратуру і працу, якая ў свядомасці большасці чытачоў слаба сумяшчальная з высокім мастацтвам, Таццяна распавяла tut.by.

На завод ачышчальных збудаванняў Таццяна Барысік трапіла, адпрацаваўшы па размеркаванні ў сельскіх школах (у тым ліку і ў вячэрняй). Як мінімум яе выбар быў абумоўлены годнай зарплатай.

— Ад працы ты мусіш мець альбо маральнае задавальненне, альбо грошы, альбо жытло. А калі ты займаеш тры пасады па паўстаўкі, і няма ні задавальнення, ні грошай... Мы хадзілі з кватэры на кватэру — жылі то ў п'яніцы, то ў нежылым доме, — успамінае пісьменніца гады абавязковай адпрацоўкі па размеркаванні. — Потым засталіся дзве паўстаўкі, і я зразумела, што трэба ісці. Да таго ж я не люблю, калі мяне трымаюць за дурня. Я зраблю, што патрэбна, і бясплатна, і ў вольны час, але ж...

Разважаць пра сваіх герояў Таццяна можа і па дарозе на працу, і падчас працы. Але піша яна толькі ў вольны час «на свежую» галаву. Вольны час у яе — не вечар, як гэта звычайна бывае, а ноч і нават раніца — у залежнасці ад працоўнага графіка.

Па графіку пісьменніца працуе па 12 гадзін. Яна абслугоўвае працэс ачысткі вады: сочыць за абсталяваннем, адбірае пробы вады. Кажа, чалавеку іншаму растлумачыць свае абавязкі цяжка. Зразумела адно: праца з тэхнікай і бруднай вадой цяжкая. А графік не дазваляе «працаваць пісьменнікам па-сапраўднаму»: сустракацца з чытачамі ў бібліятэках, школах, ездзіць на сустрэчы ў іншыя гарады.

Па словах Барысік, для празаіка патрэбныя самадысцыпліна і час, каб сесці і напісаць:

— І свежы розум патрэбен. Бо, адпрацаваўшы начную змену, ты не здатны ні на што, апроч выканання простых дзеянняў на ўзроўні рэфлексаў сабакі Паўлава.

Піша Таццяна толькі па-беларуску.

— Па-руску я толькі справаздачы добра пісаць магу. І асабістую характарыстыку нават на незнаёмага чалавека магу такую «намаляваць» — «люба дорага» глянуць. Гэта яшчэ са школы ў мяне такі «талент», — смяецца яна.

Ва ўніверсітэце імя Куляшова Барысік атрымала адукацыю сацыяльнага педагога-метадыста дашкольнай адукацыі. Паралельна наведвала літаратурнае аб'яднанне «Натхненне», пісала вершы і байкі. Але пасля вучобы ў Магілёве Барысік размеркавалася ў Бабруйскі раён, каб быць бліжэй да дзядулі з бабуляй.

Пісьменніцай Барысік шмат у чым зрабіла жыццё ў вёсцы. З 4 класа яна даглядала дзядулю і бабулю, а таксама малодшую сястру. Там жа, у Дурынічах (цяпер гэта пасёлак Леніна Бабруйскага раёна), Таццяна праводзіла кожнае лета. І нават цяпер пісьменніца лічыць сябе больш вяскоўкай, чым гараджанкай.

Магіляўчанка перакананая, што любоў да сельскага жыцця ў яе — ад дзядулі з бабуляй. Яны памерлі ўжо, але не праходзіць і дня, каб Таццяна не ўспамінала іх:

— Яны ніколі мне не хлусілі — казалі, як ёсць. Мне часам нават здаецца, што я гляджу на свет іх вачыма. Дзядуля быў маім лепшым сябрам і настаўнікам.

Другі раз Барысік трапіла ў вёску пасля размеркавання. Як сацыяльны работнік Таццяна «наглядзелася на другі бок жыцця» і цяпер думае, што, магчыма, такія ўражанні і не патрэбныя ў маладосці. Напрыклад, магіляўчанка даведалася,



што прыёмнае бацькоўства часта бывае спосабам заробку. Сустракаліся і пазітыўныя моманты, яны таксама знайшлі сваё адлюстраванне ў апавяданнях, але запомніліся не яны.

Таццяна Барысік параўноўвае прымусовае размеркаванне з «хіміяй», на якую людзей адпраўляюць таму, што яны скончылі ўніверсітэт. Пры гэтым яна лічыць, што размеркаванне ў сельскую мясцовасць карысна «маленькім прынцэсам», якія глядзяць на людзей зверху ўніз і «тыкаюць» старэйшым, бо ў яе забяспечаныя бацькі ці высокапастаўленая пасада ў мужа.

— Ім трэба зразумець, што такое жыццё — назаўсёды асэнсаваны выбар людзей, а часта — сіла акалічнасцяў, — тлумачыць пісьменніца.

Для карэннага гараджаніна апавяданні Барысік адкрыюць іншы свет, у якім вёска — гэта не дачны дамок у пасёлку N, дзе можна ў выходныя падсмажыць шашлык, схадзіць на возера ці ў лес — зрабіць сэлфі са знойдзеным мухаморам. У апавяданнях Таццяны — вёска, дзе суседзі ведаюць пра цябе ўсё, а грамадская думка — важней уласнай.

Сапраўдная жыцця няма ні ў сацсетках, ні ў кіно, яно — на вуліцы, перакананая Барысік. Напрыклад, вакол шмат людзей, у якіх не склалася жыццё не па іх віне. За адну хвіліну чалавек не становіцца ні алкаголікам, ні бамжом.

**По графіку пісьменніца працуе па 12 гадзін. Яна абслугоўвае працэс ачысткі вады: сочыць за абсталяваннем, адбірае пробы вады. Кажа, чалавеку іншаму растлумачыць свае абавязкі цяжка**

— Калі біўся галавой аб сцену, шукаў выйсце, ніхто не бачыў. А калі скаціўся, тады ўсе пачалі павучаць, забараняць. І дзяржава фактычна нічога не прапануе — толькі адміністратыўныя метады, — прыводзіць прыклад пісьменніца. — Ведаеце сітуацыю, калі да шматдзетнай маці прыходзіць апека ці настаўнікі і раяць зрабіць рамонт? І тая маці адказвае: "Я вам кожны год здаю на рамонт школы, а мне не здае ніхто". Парады даваць лёгка, а вось падтрымаць чалавека... Таму людзі цяпер і кантактуюць у асноўным з тымі, ад каго можна атрымаць нейкую выгаду: ты мне — я табе.

Літаратурная кар'ера Таццяны складалася няпроста. У першыя гады працы пасля ўніверсітэта яе вершы і кароткія апавяданні — «зацемкі» — публікавалі ў бабруйскай раённай газеце. Першай кнігай быў зборнік вершаў у самвыдатаўскім фармаце «Гаркну ў бліскучы мацюгальнік». У 2003 годзе яго надрукаваў у лабараторы Асіповіцкага грамадскага цэнтра вядомы бард і грамадскі актывіст Ігар Сімбіроў — на жаль, яго ўжо няма сярод жывых.

Пазней Таццяну друкавалі на «Свабодзе» і ў «Нашай Ніве». А потым Таццяна ўступіла ў Саюз беларускіх пісьменнікаў, дзе ёй прапанавалі выдаць кнігу. Для Барысік гэта было свята: надрукаваць нават невялікую кнігу цяпер цяжка. А калі ты пісьменнік з правінцыі і ў цябе не самае лепшае матэрыяльнае становішча, то гэта — ці не адзіны варыянт.

У 132-старонкавы зборнік «Жанчына і леапард», які выйшаў у 2013 годзе, увайшоў 21 аповед. У бібліятэках Магілёва кнігу вельмі хвалілі і рэкамендавалі як «даведнік па сельскім жыцці і людскіх лёсах». Гэтага магіляўчанка чакала 20 гадоў.

У 2015 годзе кніга пісьменніцы ўзяла «срэбра» прэстыжнай літаратурнай прэміі імя Ежы Гедройца. Праўда, пасля гэтага ў жыцці Таццяны нічога сур'ёзна не змянілася: па-ранейшаму працуе на заводзе ачышчальных збудаванняў, выхоўвае дачку, ездзіць да бацькоў у вёску і працягвае пісаць.

**Анжаліка Васілеўская, tut.by.**
**Частковы пераклад з рускай — «ЛБ».**



## Леанід Дранько-Майсюк:

# «Шкадую, што не пайшоў у партыю»

**Да такога прызнання, трэба сказаць, нечаканага, падштурхнуў паэта не хто іншы, як Максім Танк. Але пачнем з пачатку…**




У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры прайшла прэзентацыя кнігі «…Натуральны, як лінія небасхілу». Леанід Дранько- Майсюк выступіў як аўтар-дакументаліст, напісаўшы «архіўную аповесць» пра маладога Максіма Танка. Уласна, словы самога Максіма Танка і сталі назвай для прэзентаванага выдання. Так ён сказаў пра сябе самога, калі выйшаў на вуліцы Вільні з турмы.

Аповесць ахоплівае час, калі малады Яўген Скурко жыў у Вільні (пачатак 1930-х гадоў), супрацоўнічаў з падпольнымі камуністамі Заходняй Беларусі і быў даволі хуліганістым юнаком. Як зазначыў Васіль Дранько-Майсюк, аповесць нагадвае прыгодніцкі серыял: праз 27 раздзелаў кнігі чытач сочыць, як антаганіст-пракурор намагаецца злавіць героя. За ім сачыла польская паліцыя, а ён быў бясстрашны, рамантычны герой. Такіх маладзёнаў хапала. Многія з іх зведалі астрог, паплаціліся хто жыццямі, хто здароўем.

Размова, якую вялі ў гэты вечар аўтар кнігі і госці — Фелікс Баторын, Анатоль Вярцінскі, Анатоль Сідарэвіч, Васіль Зуёнак — датычыла не толькі Максіма Танка, але ўвогуле тае эпохі. Выступоўцы пагадзіліся з меркаваннем, што сёння азначэнне «камуніст» тоеснае злодзею, нечаму заганнаму, аднак тады, у 1930-я, беларусы «пад Польшчай» бачылі ў гэтым палітычным руху магчымасць яднання з усходнімі беларусамі. То была магчымасць супраціву, апазіцыя паланізацыі.

Асобна Леанід Дранько-Майсюк адзначыў: сёння камуністычнае юнацтва Максіма Танка разглядаецца як памылка маладосці, недарэчнасць, але Танк сапраўды верыў у гэтую ідэю, спаганеную пасля несумленнымі «таварышамі».

Такая выснова выспела не ў голым полі: даследчык шмат часу аддаў працы ў мінскіх і віленскіх архівах, перачытаў усе магчымыя даследаванні папярэднікаў, прысвечаныя Максіму Танку.

Да напісання аповесці Леаніда Дранько-Майсюка падштурхнула жаданне «пабачыць» Максіма Танка маладога, невядомага. Ён жа ведаў толькі сталага паэта, быў рэдактарам апошняй кнігі Максіма Танка «Errata», бываў у паэта дома. І той распавядаў маладому калегу пра свае юнацкія прыгоды: уцёкі ад шпегаў, хітрыкі з польскім судом і паліцыяй, захапленні і мары маладосці… Калі Максіма Танка не стала, спадар Леанід блукаў па віленскіх мясцінах паэта, зануряўся ў архівы, размаўляў са старымі віленчукам, якія памяталі «часы Пілсудскага».

Нагодай для святочнага вечара стаўся таксама юбілей аўтара: Леаніду Дранько-Майсюку споўнілася 60 гадоў. Віншаванне ад Саюза беларускіх пісьменнікаў перадаў юбіляру старшыня арганізацыі Барыс Пятровіч. З музычнымі нумарамі выступіла Таццяна Грыневіч-Матафонава.

Да слова, за дзействам сачыў сам Максім Танк: у залі, дзе адбылася прэзентацыя згаданай кнігі, працуе выстава, прымеркаваная да 105-годдзя паэта. Дырэктар музея Зміцер Яцкевіч нагадаў, што сёлета музею 30 гадоў, што для ўстановы пасля доўгага адпачынку пачынаецца другое жыццё і што ў юбілейны год варта чакаць адкрыцця першай пасля рэстаўрацыі сталай экспазіцыі. Што да прэзентаванай кнігі, яе спадар Зміцер лічыць годным падсумаваннем творчай працы Леаніда Дранько-Майсюка.

**Наста Грышчук**

# Новы сезон у Школе маладога пісьменніка

**У мінскай прасторы «Тартак» 7 кастрычніка адбылася першая сустрэча з выкладчыкамі новага набору навучэнцаў Школы маладога пісьменніка, якая працуе пры ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**



Талент кожнага з аўтараў-пачаткоўцаў пацверджаны конкурсам, які яны вытрывалі, каб трапіць сюды: сёлета на адно месца ў школе прэтэндавалі чатыры чалавекі!

Школа маладога пісьменніка арганізавана для празаікаў, якія пішуць па-беларуску і па-руску, і працуе ўжо шосты год. Каб трапіць туды, трэба аформіць заяўку, укласці ў яе матывацыйны ліст і адзін з уласных тэкстаў.

Праграму, па якой вучацца аўтары-пачаткоўцы, многія лічаць перанасычанай, але карыснай і перспектыўнай. Адзін дзень у школе — гэта тры заняткі ад дасведчаных выкладчыкаў і майстар-клас вядомых літаратараў. Для навучэнцаў, якія паспяхова прайшлі першы курс, але не пажадалі на гэтым спыняцца, існуе і другі, на якім яны будуць працаваць ужо над канкрэтным праектам: рыхтаваць да выпуску ўласную кнігу.

Маладых аўтараў, якія сёлета прайшлі сур'ёзны конкурс і пачалі навучанне, з паступленнем павіншаваў старшыня СБП Барыс Пятровіч.

«Сёння вы — лепшыя з лепшых: спадзяюся, гэта пацвердзіцца падчас вучобы. Жадаю вам поспехаў і спадзяюся, што літаратура з часам ператворыцца ў вашу прафесію. Ад сябе асабіста я шчыра і па-добраму зайздрошчу вам, таму што ў часы маёй маладосці такой школы не было. Калі я ўпершыню пабываў на занятках, то нават падумаў, што вучыцца ніколі не позна… Школа маладога пісьменніка асаблівая, падобных на постсавецкай прасторы няма. Таму нашы выкладчыкі і кіраўнікі пабывалі за мяжой, паглядзелі, як адбываецца праца такіх навучальных установаў у Еўропе, і стварылі цікавую праграму. Мы маглі б назваць Школу маладога пісьменніка інстытутам, таму што адукацыя тут даецца сур'ёзная. Калі вытрываеце — у наступным навучальным годзе у вас ужо будзе свая кніга. А гэта падстава, каб стаць сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў!»

Сур'ёзную адукацыю навучэнцы Школы маладога пісьменніка атрымліваюць не толькі дзякуючы інавацыйнай праграме, але і добрым выкладчыкам, сярод якіх — загадчыца кафедры замежнай літаратуры БДУ, літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук Ганна Бутырчык, пісьменніца, журналістка, літаратурны крытык, паэтка Людміла Рублеўская, кандыдат філалагічных навук, літаратуразнаўца, пісьменніца, ілюстратарка Наталля Паваляева.

У кожнага выкладчыка свой падыход. Напрыклад, Ганна Бутырчык практыкуе «пісьмо праз чытанне»: патрабуе, каб навучэнцы не толькі прыносілі на абмеркаванне свае тэксты, але і чыталі тэксты сваіх калег. Людміла Рублеўская палохае тым, што пісаць трэба будзе ажно на занятках, але адразу супакойвае: на самой справе такі падыход вельмі плённы, да таго ж ён ужо практыкуецца і мае поспех у аналагічных школах Швецыі.

«Напачатку гэта шок: як можна на занятку проста сесці і напісаць фрагмент твора? Мы таксама былі здзіўленыя, пакуль не з'ездзілі ў Швецыю і не паглядзелі, як там арганізаваныя заняткі. Навучэнцы там 2-7 хвілін пішуць — і ўсё атрымліваецца! Як і ў любой мастацкай дзейнасці, у літаратурнай трэба «набіць руку». Таму я абяцаю на занятках шмат інтэрактыву, будзем вучыцца незвычайна бачыць свет і знаходзіць у ім матэрыял для творчасці. Праграма ў нас інтэнсіўная, але той, хто вытрывае навучанне ў гэтай школе, да выпуску будзе мець каля ста тэкстаў, якія ўжо можна публікаваць», — распавяла Людміла.

Куратаркі школы Алена Казлова і Юлія Цімафеева растлумачылі навучэнцам арганізацыйныя моманты. Яны распавялі, што для зручнасці кантактавання аўтараў-пачаткоўцаў існуе закрытая фэйсбук-суполка школы і блог, дзе навучэнцы могуць вывешваць свае тэксты і атрымліваць фідбэк. І папярэдзілі, што працы лепш здаць у апошні дзень, чым не здаць увогуле — але ў выпадку ігнаравання аўтарам дэдлайну якаснай крытыкі ён атрымаць не зможа.

Кожны з навучэнцаў школы прыйшоў сюды па сваіх прычынах. Хтосьці мае філалагічную або журналісцкую адукацыю, нямала публікацый і вырашыў «падвастрыць» майстэрства. Хтосьці пісаў у стол, але вырашыў праявіць сябе — і прайшоў адбор. Нехта толькі робіць першыя крокі ў літаратурнай дзейнасці, а нехта мае пэўны досвед, але не ведае, што рабіць далей. Адна з вучаніц, Юльяна Пятрэнка, жыве ў Гомелі, але дзеля заняткаў у Школе маладога пісьменніка гатовая ездзіць у Мінск.

Падчас знаёмства некаторыя з маладых літаратараў адзначылі, што жадаюць стаць не толькі добрымі аўтарамі, але і чытачамі. Бо каб адчуваць твор і разважаць над ім, патрабуюцца асаблівыя веды. Гэтую тэму падтрымала Юлія Цімафеева, якая адзначыла: пасля заканчэння курсу сярэдняй школы ў некаторых увогуле застаецца ўражанне, што ўсе беларускія пісьменнікі ўжо даўно памерлі.

«Карысна пазнаёміцца з сучаснымі беларускімі пісьменнікамі, даведацца, хто яны, і з чаго складаецца сучасная беларуская літаратура. Акрамя пашырэння светапогляду гэта можа даць вам таксама і сувязі ў літаратурным асяроддзі, дзякуючы якім вы зможаце атрымаць дапамогу і водгукі на свае творы, калі гэта вам спатрэбіцца», — рэзюмавала куратарка.

Пасля знаёмства навучэнцаў з выкладчыкамі і перапынку на каву Школа маладога пісьменніка пачала свае першыя заняткі.

**Алена Босава**

# Расстраляная літаратура

**У Галерэі TUT.BY (Мінск, праспект Дзяржынскага, 57, ст.м. «Міхалова») адбудзецца незвычайная вечарына….**

У ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года ў сутарэннях мінскай унутранай турмы НКУС (г.зв. «амерыканкі») былі расстраляныя больш за 100 дзеячоў культуры, мастацтва і навукі, а таксама грамадскіх дзеячоў Беларусі. У ліку расстраляных былі 22 беларускія пісьменнікі. У гэтыя дні рэпрэсіі, якія працягваліся з 1920-х да смерці Сталіна ў 1953-м, у СССР дасягнулі ў нашай рэспубліцы свайго піку.

30 кастрычніка Саюз беларускіх пісьменнікаў, арганізатар згаданай вечарыны, запрашае ўшанаваць памяць усіх ахвяр сталінскага грамадска-палітычнага тэрору.

Удзел у вечарыне бяруць:
Радзім Гарэцкі
Алесь Пашкевіч
Марат Гаравы
Ірына Багдановіч
Анатоль Сідарэвіч
Міхась Скобла
Аксана Данільчык
Марына Шыбко

Музычная частка: бард Таццяна Грыневіч.
Час: 18:30

# Трывалае трыадзінства

**Вадзіму Вітальевічу Жылко дадзена многае (відаць, не толькі яе вялікасцю матухнай прыродай, а й заўсёднаю працаю, нястомнымі крокамі да самаўдасканалення): ён — таленавіты паэт, адораны журналіст, паспяховы шахматыст.**



Літаратура, журналістыка і шахматы — творчыя стыхіі, якія зрабілі неспакойным, але неардынарным жыццё сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, сябра Беларускай асацыяцыі журналістаў і чатырохразовага чэмпіёна СБП па шахматах. І ў гэтых ягоных захапленнях мне бачыцца трывалае трыадзінства.

З творамі В. Жылко я пазнаёміўся ў 2006-м годзе. Прачытаў адразу тры выданні: «Две музы» (1996), «Ассорти» (1995) і «Оборванную нить» (2006). Прыемна быў уражаны першым з іх: знайшоў там нямала арыгінальных ды змястоўных вершаў. Добрыя вершы і дасціпныя пароды прачыталіся ў зборнічку «Ассорти», а ў «Оборванной нити» — вершы і апавяданні.

Сваім уражаннем падзяліўся з Нінай Мацяш, яна акурат ачольвала Берасцейскую абласную філію Саюза беларускіх пісьменнікаў і была зацікаўленая не ў колькасным, а ў якасным яе росце... У выніку ў траўні 2007 года мы з Нінаю віншавалі калегу з уступленнем у Саюз беларускіх пісьменнікаў.

У Жылко-журналіста мне вельмі падабаецца яго пазіцыя. Піша пра тое, што не можа не хваляваць людзей. Прытым падзеі, што адбываюцца ў Беларусі, факты нашага жыцця паказвае не ізалявана ад свету, ад суседніх краінаў. Умела валодаючы вострым пяром і апіраючыся на выказванні выдатных палітыкаў, прафесійных палітолагаў, айчынных і замежных, смела закранае самыя надзённыя, гарачыя праблемы сучаснасці. Развенчвае рабалепную палітыку, сістэму выбараў без выбару, выкрывае правалы ўбогае эканомікі, фантазіі вярхоў па яе рэанімацыі і ажыўленні ў надзеі на працягнутую руку.

У такога журналіста не грэх павучыцца...

Пра Вадзіма-шахматыста можна распавядаць і распавядаць. Як толькі ён быў прыняты ў СБП, мы з ім пачалі шукаць магчымасць ладзіць чэмпіянаты ў асяроддзі пісьменнікаў. Да нашага кіраўніцтва па дапамогу працягглы час не звярталіся. Пару гадоў памагаў знайсці памяшканне В. Рубінчык. Ён і сам браў удзел у спаборніцтве, але па-за конкурсам, бо яшчэ не быў сябрам СБП. Пасля самастойна ўдавалася адшукаць больш-менш зручны куток — у ПЭН-цэнтры ці ў рэдакцыі «Нашай нівы». Натуральна, арганізацыйна-кардынацыйныя клопаты я ўзяў на сябе. Самым складаным пытаннем штогод было склікаць мацнейшых шахматыстаў, сяброў СБП, якія хацелі б апрабаваць свае сілы ў першынстве. Некаторым заміналі неадкладныя справы. Хтосьці з'язджаў у вёску ці яшчэ куды. Камусьці не дазвалялі высокія амбіцыі. Многія скардзіліся, што даўно не гулялі, таму знаходзяцца «не ў форме». Памятаю, адзін пісьменнік аднойчы заявіў так: «Прыеду, калі толькі выйграю ў кампутара»... Некаторыя вагаліся, таму даводзілася шмат разоў тэлефанаваць, угаворваць, дакляраваць, што будзе цікава. Ёсць і такія, хто абяцаюць, ды не з'яўляюцца. А вось В. Жылко ні разу не прапускаў спаборніцтва, хоць дарога ад Лунінца, дзе ён жыве, да сталіцы — няблізкая, і спраў неадкладных у яго процьма.

Аднаго разу ў памяшканне рэдакцыі «Нашай нівы», дзе я чакаў удзельнікаў чэмпіянату, з'явіўся адзін толькі Вадзім Вітальевіч. Тады мы з ім вырашылі правесці між сабою матч з чатырох партыяў. Але, паколькі лік атрымаўся нічыйны (2:2), дамовіліся гуляць да першае перамогі. Толькі восьмая партыя выявіла пераможцу. Той чэмпіянат мне запомніўся лепш, чым усе папярэднія і наступныя. Не таму, што тады зусім трошкі больш пашанцавала мне, а таму, што надзвычай цікава было змагацца з роўным па сіле і не менш азартным шахматыстам.

Не можа не радаваць Вадзімава вытрымка. Наўрад ці хто чуў ад яго скаргі кшталту: «Не высыпаюся, здарожыўся, баліць галава...» ці нешта да таго падобнае. Між тым дабірацца начным цягніком да Менску, каб раніцаю быць у прызначаным месцы і ў прызначаны час, — гэта патрабуе самадысцыпліны. Не выпадкова я неаднойчы прысвячаў Вадзіму Жылко свае вершы. Адзін з такіх вершаў, дзе я звяртаюся да шахматаў, завяршаецца, як мне падаецца, нечакана: «Бедны той чалавек, // Што не выхоўваўся вамі». Відаць па ўсім, В. Жылко выхоўваўся не толькі шахматамі, а й добрымі кнігамі, а перадусім — клапатлівaю сям'ёй. Пэўна не памылюся, калі скажу, што ўсе добрыя чалавечыя якасці закладзеныя ў ягонай душы пераважна матулю, Галінай Пятроўнай. Яна шмат працавала ўсё сваё жыццё, і цяпер, у сталым узросце, не цурэецца працы, шчыруе на градах...

Завяршаючы гаворку пра Вадзіма-шахматыста, з радасцю адзначу: ужо некалькі гадоў запар прыхільнікі шахматнай гульні, якія з'яўляюцца сябрамі Саюза беларускіх пісьменнікаў, адчуваюць падтрымку з боку СБП, у офісе якога штовосень праходзіць бліц-турнір па шахматах, а кожную вясну, перад Днём волі, — асноўны чэмпіянат. Думаецца, Вадзім Жылко, які амаль ні разу не выходзіў з прызавой тройкі і, паўтаруся, чатыры разы быў пераможцам, зведае яшчэ не раз смак перамогі.



Цягам многіх гадоў, пачынаючы з 2002-га, ён збірае, рэдагуе і выдае бюлетэнь «Выток», у якім распавядаецца пра жыццядзейнасць Брэсцкай абласной філіі СБП, пра кнігі пісьменнікаў, юбілеі, літаратурныя падзеі; змяшчаецца хроніка творчага жыцця лунінецкага клуба «Муза» ці даецца слова камусьці з лунінецкіх творцаў. Хачу пацвердзіць сказанае прыкладам. «Тэма нумара: Янка Брыль і Уладзімір Калеснік», — гаворыцца на густоўна аформленай вокладцы аднаго з «Вытокаў». Абсалютная бальшыня старонак гэтага выпуску прысвечана ім, выбітным асобам нашага прыгожага пісьменства. Не паскупіліся на пранікнёныя словы беларускія паэты. А Кузьма Чорны ці мала каго здзівіў адзіным радком пра Янку Брыля: «Гэты хлопец — Брыль-Ян-т беларускай літаратуры». Штосьць падобнае да афарызму знайшлося і ў Мікалая Улашчыка: «Бачыце, які чалавек — адзін, а колькі Беларусі на сабе трымае. Талент!» Гэта — пра Уладзіміра Калесніка. Трэба ж знайсці, адкапаць такія залацінкі! В. Жылко для гэтага ж нумара падабраў і актуальныя выказванні таленавітага лунінчаніна Віктара Філатава (на жаль, памерлага ўжо): «Скажы мне, у чым твой кайф, і я скажу табе, хто ты», «Колькі свабоднага журналіста ні кармі і ні паі, ён усё роўна напіша праўду», «Не шукай лёгкіх шляхоў. Шукай свой шлях», «Час — не толькі лепшы лекар, але і суддзя».

Розгалас той ці іншае падзеі пачынаецца з першай старонкі «Вытоку». Скажам, сталася Нобелеўскай лаўрэаткай Святлана Алексіевіч — і ў бліжэйшым нумары разам з віншаваннем змяшчаюцца фотаздымкі, на якіх яна поруч з сябрамі СБП. Адбыўся ў кастрычніку 2016 года ў Лунінцы сёмы штогадовы рэгіянальны круглы стол літаратараў і журналістаў — і ў бюлетэні №37 за 2016 год на тытульнай старонцы бачым адпаведнае фота з паведамленнем: удзельнікі круглага стала абмяркоўвалі стаўленне да мовы ў сучасным грамадстве... Атрымаў пінскі пісьменнік Павел Ляхновіч «Мядовую прэмію-2015» ад яе заснавальніка паэта Міколы Папекі — і чарговы «Выток» упрыгожыла фота: на фоне кніжных стэлажоў інтэлігентна ўсміхаецца шчаслівы лаўрэат з высока паднятым поўным вядром мёду.

Думаю, што ўдзячных В. Жылко людзей багата. Узяць хоць бы аўтараў альманаха «Лунінецкая муза». Некаторыя ў гэтай серыі, ім распачатай і дагледжанай, выпусцілі не адну кніжку, а некалькі. Напрыклад, у №36 за 2016 год надрукаваная ўжо восьмая кніга Сцяпана Нефідовіча, яе назва — «Цесцеў кажушок».

...Колькі словаў пра Вадзіма-арганізатара. Сумесна з мясцоваю бібліятэкаю і музеем (у якім калісьці адпрацаваў 13 гадоў) ладзіць краязнаўчыя чытанні, літаратурныя вечарыны. Як гісторык (якім, дарэчы, ён і ёсць па адукацыі) і краязнавец удзельнічаў амаль у двух дзясятках разнастайных канферэнцый: рэгіянальных, рэспубліканскіх, міжнародных... Выступаў з дакладамі і паведамленнямі як асобна, так і разам з калегам Васілём Туміловічам. З'яўляецца частым госцем і ўдзельнікам літаратурных сустрэчаў у Мікашэвіцкай гімназіі імя Уладзіслава Нядзведскага, дзе выступаюць паэты і празаікі з Мінску, Берасця ды з іншых гарадоў...

— Як ён усюды паспявае? — здзіўляецца мая жонка, якая ў свой час, настаўнічаючы, таксама шмат у чым паспявала.

— Такі чалавек, — кажу. — Апроч таго што адораны — ініцыятыўны, клапатлівы, чалавечны.

Пра яго чалавечыя якасці добра распавядаюць ягоныя лісты. Працытую два. Адзін з іх датаваны 23 красавіка 2013-га года:

«Добры дзень, шаноўны Васіль Аляксеевіч! Апошнім часам лісты нашы «сустракаюцца» ў дарозе, але галоўнае, каб усё даходзіла. Я наўздагон за «Альбино плюс» №59 выслаў Вам «Альбино» №105. Выпусціў іх за пару дзён, а яшчэ амаль адначасова — спецвыпуск «Лунінецкага сшытка» з гістарычным нарысам А. Ільіна (пінскі гісторык, муж Алены Ігнацюк). Паціху рыхтую і чарговы «Л.С.» №13 — набраў два артыкулы мінскага краязнаўцы Льва Коласава, адсканаваў ілюстрацыі да іх і г.д. У траўні мяркую выпусціць «А+» №60, які, вядома ж, Вам дашлю.

Апрача «выдавецкіх спраў» — больш-менш па-ранейшаму. 19.04 быў у Мікашэвічах з М. Ільючыкам, Вольгай Грыдзюшка і Віктарам Філатавым на сустрэчы ў гарадской бібліятэцы. Народу было няшмат, але сустрэлі прыязна. На 26 красавіка запрасіў мяне Аляксей Філатаў у Берасце на прэзентацыю сваёй новай кнігі, але дадаў, што хоча прыехаць трохі пазней з кнігай у Лунінец і Ганцавічы. У Берасце я не паеду, а тут буду рады вітаць яго.

Шахматамі не займаўся пасля першынства СБП (не лічачы выпуску «Альбино»).

На гародзе каля хаты пасадзілі бульбу і частку градаў з гароднінай».

І яшчэ аднай навіной падзяліўся: днямі перачытаў мой «Цудадзейны вітамін». «Гэтым разам больш увагі звярнуў на дасціпнасць пародый». Прачытаеш ліст — і ўражанне такое, быццам не існуе ў яго ў рэдакцыі бясконцага канвеера напружанай журналісцкае працы.

Перачытваю электронны ліст за 30 кастрычніка 2016 года. У ім Вадзім Вітальевіч паведаміў, што пасля бліц-турніру ў СБП хутка даехаў дамоў. Тут я павінен апярэдзіць далейшы эпісталярны расповед, каб сказаць, што перад турнірам, як толькі мы сустрэліся, шаноўны госць падараваў мне элегантны блакітны шалік і прыгожы белы кубачак. Я на дарогу яму перадаў шакаладку і грушы, а з дому паслаў на яго электронны адрас штрыхпункцірны лісток, у якім яшчэ раз падзякаваў за падарункі і запытаўся, дзе вырабляюць такія прыгожыя шалікі ды выказаў намер пару дзён пабыць на лецішчы. Цяпер — працяг і заканчэнне ліста: «Сувеніры (кубкі, шалікі, майкі, яшчэ розную драбязу) вырабіла наша газета, маё дачыненне ўскоснае. Насіце на здароўе шалік! Добра, што хоць трохі адпачнеце на лецішчы. Сёння ў нас быў сельгаскірмаш. Купілі морквы, капусты, потым я яшчэ купіў яблыкаў, кавуна. Чытаю «Дзеясловы». Прачытаў Вашу падборку вершаў у «Дзеяслове», а таксама паэму Дранько-Майсюка пра Г. Выліваху. Трэба мне яшчэ напісаць у газету «сваю старонку» за сёння. Ад суботы ў мяне добрыя ўражанні... Дзякуй Вам і Вашым родным ад нас з мамай за шакалад і грушы! З павагай — В. Жылко».

З дарогі Вадзіма Жылко чакала тэрміновая работа. А ён яшчэ праверыў пошту, бо стасункі з людзьмі — неад'емная частка яго шматграннай дзейнасці.

31 кастрычніка Вадзім Вітальевіч адзначае поўдзень веку. Творчага плёну юбіляру і радаснага жыцця!

**Васіль Жуковіч**

# Сталіна Піліпаўна



Анатоль САНАЦЕНКА

Нарадзілася ў 1917 годзе, у рабоча-сялянскай сям'і. Адпаведна, у 1937 годзе ёй было 20 гадоў.

Даты кажуць самі за сябе, можна і памаўчаць.

Пры хрышчэнні ёй далі імя Таццяна. У 16 гадоў, афармляючы пашпарт, яна папрасіла чыноўніцу з пашпартнага стала дазволіць яго замену. Дазволілі.

Сталіна — такое імя забараніць было немагчыма.

У вышэйзгаданым годзе яна скончыла правінцыйнае педагагічнае вучылішча і паступіла ў распараджэнне Уклейскага аддзела народнай адукацыі. Затым яе накіравалі настаўніцай пачатковых класаў у сярэднюю школу. Далі асобны пакой у камуналцы — былым даходным доме купца Фрыдмана, які займаў цэлы квартал.

Каго там толькі ні было! Нібы Ноеў каўчэг, фрыдманаўскі дом плыў па хвалях савецкага часу — новага старазапаветнага патопу, — і кожны яго жыхар марыў выратавацца, ацалець, а, калі пашчасціць, нават добра ўладкаваць сваё жыццё.

А галоўнай славутасцю дома і галоўным яго раздражняльнікам была — страшна сказаць! — графская сям'я Куміновічаў: састарэлы граф, графіня, іх трыццацігадовая дачка і ціхі ветлівы графёнак дзевяці гадоў. Куміновіч, праўда, неўзабаве памёр, «збег» усё ж ад савецкай улады, а іншыя засталіся...

Аднойчы восеньскім вечарам да графаў прыйшоў госць — станісты такі мужчына, ужо ва ўзросце, з незнішчальным адбіткам шляхетнага паходжання на твары. Яны замкнуліся ў сваім пакоі і доўга пра нешта па-змоўніцку шапталіся па-французску.

Тое, што гэта была французская, патлумачыла Сталіна, якая, вядома, падслухоўвала пад дзвярыма.

— Гэта што ж такое?.. — булькатаў ад гневу заўсёдна п'яны матрос сярод такіх жа ўгневаных грамадзян на камунальнай кухні. — У нашай сацыялістычна-ўзорнай хаце — рассаднік контррэвалюцыі! Пад корань гэтую гідру! — і ён рабіў рэзкі рух рукой, які сімвалізаваў мах сякерай.

Ноччу па тытулаваных жыхароў прыехалі. Асабліва крычаў, надрываўся маленькі графёнак (яго потым накіравалі ў прытулак, і, як мы можам здагадацца, нікога з родных ён больш не ўбачыў).

Пасля гэтага жыццё стала раўнейшым, жыццё стала больш зразумелым. Справядлівейшым. Хоць заставаліся яшчэ былыя нэпаўцы, якія калісьці ўдосталь папілі народнае крыві. Так, яны жылі ціха, але — жылі! Тут, побач, за сценачкай. Абуральна!

Пры садзейнічанні Сталіны Піліпаўны быў складзены ліст жыхароў у НКУС. Праз тыдзень па нэпаўцаў і купецкіх шчанюкоў прыехалі. Высокі чалавек у чорным скураным паліто і модным шыракаполым капелюшы, пастукваючы цыгаркай аб партабак, тлумачыў прысутным, што яны малайцы: выканалі свой грамадзянскі абавязак, а дзякуючы іх пільнасці горад выканае план па затрыманні ворагаў савецкай улады.

А яшчэ праз месяц Сталіну Піліпаўну выклікалі ў той самы вялізны жоўты дом. Пахадзіўшы па цёмным калідоры, яна знайшла патрэбныя ёй дзверы. Памарудзіла, затым пастукала.

«Заходзьце!» — раўнулі за дзвярыма.

У кабінеце было шмат, вельмі шмат сонца. Яно было паўсюль: у зашклёных дзверцах шафы, на лакіраванай паверхні стала, на дубовым паркеце, на галаве і круглых акулярах лысага чалавека, надзвычай, як ёй здалося, падобнага на наркама ўнутраных спраў СССР.

— Следчы Конеў... Мы доўга назіралі за вамі, Сталіна м-м-м Піліпаўна, і прыйшлі да высновы, што вы — наш чалавек. Вораг не дрэмле, ён рыхтуецца, ён вострыць зуб на савецкую ўладу. І мы павінны працаваць на апярэджанне. Душыць ворага, так бы мовіць, у зародку. Дзеля гэтага нам патрэбныя людзі. Правераныя. Такія, як вы.

Ён зрабіў паўзу. Пракашляўся і прадоўжыў:

— Мы прапануем вам, Сталіна Піліпаўна, стаць нашым супрацоўнікам. Служыць сваёй Радзіме, выяўляць ворагаў народа. Што вы аб гэтым думаеце?

Сталіна Піліпаўна глядзела, як варушыліся вусны следчага Конева, і зусім не адчувала страху.

Следчы пачаў выклікаць яе кожны тыдзень. Потым — двойчы на тыдзень. Затым... Затым прапанаваў працягнуць размову ў мясцовым рэстаране.

«Дзеля дзелавога збліжэння», — растлумачыў Конеў.

Рэстаран быў багаты, стараржымны: са швейцарам каля ўваходу, гардэробам, люстэркамі, фатэлямі ў фае, мэбляй з чырвонага дрэва і велізарнымі крышталёвымі люстрамі ў зале.

Сталіна Піліпаўна зніякавела.

«Не бянтэжцеся, — сказаў Конеў, заўважыўшы яе рэакцыю, — калісьці тут сядзелі буржуі, а цяпер усё гэта належыць нам, працоўнаму народу і яго слугам. Маем права. Заслужылі!

Сядзелі доўга. Елі фаршыраванага шчупака, чорную ікру. Пілі віно і шампанскае. Скончылі круасанамі з гарбатай. «Хоць назва і хранцузская, а смачна!» — здзіўляўся п'яны следчы, аблізваючы запэцканыя крэмам пальцы.

Напрыканцы вечара ён знік на пяць хвілін, а вярнуўшыся — паваліўся на канапку побач са Сталінай Піліпаўнай і рашуча вымавіў: «Ну што, будзем жыць разам?»

І сталі яны жыць разам. Перад гэтым, вядома, адзначыліся ў Палацы абрадаў, каб не гнявіць ведамства Конева. Побыт старшага следчага наладзіўся.

Усё задавальняла і Сталіну Піліпаўну ў цяперашнім яе жыцці. Толькі за мужавае здароўе яна надта хвалявалася.



Сыходзіў ён на працу раніцай, вяртаўся позна ўвечары. Бывала, затрымліваўся да паўночы. Дома стомлена тлумачыў: «Шмат допытаў. Вакол ворагі народа».

Яна разумела. Яна ўсё разумела. Нават калі сталі знікаць яе калегі па школе — спачатку дырэктар, потым намеснік, завуч... «Ворагі народа ўмеюць маскіравацца, прыкідвацца сябрамі савецкай улады», — разважала Сталіна Піліпаўна.

Чым больш праходзіла часу, тым пазней вяртаўся дадому яе муж. Захапленнем яго былі допыты. І вынік, які яны давалі. Добрым вынікам Пётр Іванавіч лічыў поўнае прызнанне арыштаванага, з выдачай ўсіх саўдзельнікаў. Прычым не аднаго-двух, а, мінімум, дзясятак. З яго допытаў арыштаваных звычайна выносілі, паколькі рухацца самастойна яны ўжо не маглі.

Любіў Пётр Іванавіч прысутнічаць і на начных расстрэлах, якія адбываліся за дзесяць кіламетраў ад горада, на лясной паляне.

«Ва ўсім патрэбен кантроль», — тлумачыў ён.

Неўзабаве яго павысілі, далі аўто з кіроўцам. Жыццё іх сям'і стала яшчэ багацейшым. Частку каштоўнасцяў, сканфіскаваных пры ператрусах, следчыя цяпер прыносілі Пятру Іванавічу. Срэбныя лыжкі, залатыя манеты, дыяментавыя кальe, антыкварыят розны...

Пётр Іванавіч запіхваў прынесенае ў карычневы саквояж і хаваў яго пад замок у склепе. Але багацце, якое спачатку напаўняла цяплом душу Сталіны Піліпаўны, цяпер не радавала яе. Яна хацела дзіця. Дзеці ж у іх з Пятром Іванавічам не атрымліваліся...

Потым пачалася вайна, і смуткаваць ужо не было калі. У Пятра Іванавіча працы дадалося, дадому ён заязджаў толькі каб выспацца і павячэраць. А бывала, што і наогул не заязджаў: па горадзе гойсалі шпіёны, свяцілі начамі ў неба ліхтарыкамі, і трэба было іх лавіць. Калі ж шпіёны былі знішчаны, да справы далучыліся гаражджане (не прастойваць жа карнаму механізму без працы!), сярод якіх нават апынуліся двое знаёмых Сталіны Піліпаўны, — ціхія, паслухмяныя, вонкава добранадзейныя людзі.

Вайна, якая крывавай касой прайшла па людзях, іх сям'ю не закранула. Пётр Іванавіч нават паправіўся і завёў у падвале другі саквояж. Медалі, ордэны сыпаліся на яго грудзі адзін за адным, — ён быў вечным перадавіком у сваім ведамстве. Яго зноў заўважылі і перавялі, з павышэннем, у абласны горад. Кватэру ім выдзелілі добрую, трохпакаёвую, з сонечнага боку, непадалёк ад цэнтральнай гарадской плошчы.

Сталіна Піліпаўна любіла шпацыраваць па цяністых скверыках, сядзець на лаўцы, любуючыся вялізным прыгожым партрэтам Іосіфа Вісарыёнавіча на будынку выканкама, і марыць, марыць...

А потым Іосіф Вісарыёнавіч памёр, і партрэт знялі. На тым месцы застаўся цёмны квадрат, які выклікаў у яе душы непрыемныя пачуцці і асацыяцыі.

У школе яна займала пасаду завуча па выхаваўчай працы і, карыстаючыся выпадкам, старалася растлумачыць дзецям, што развянчанне культу асобы — гэта нейкая часовая памылка, што Сталін — вялікі гістарычны дзеяч, які паказаў савецкаму народу шлях у будучыню, што без яго, без яго генія, мы б прайгралі вайну... Але дзеці слухалі яе няўважліва.

Набліжаліся да канца пяцідзясятыя. Ворагаў савецкай улады адпусцілі з турмаў і лагераў, і цяпер іх можна было сустрэць на вуліцы, у чарзе, у кіно... У грамадстве рабілася бог ведае што. Дазвалялася гаварыць і пісаць такое!

«Сабачыя гады», — казаў, нібы ставіў пячатку, Пётр Іванавіч, наліваючы сабе па трэцяй. Потым дадаваў: «Няма на іх Сталіна», — і пагражаў кулаком у акно, у бок выканкама.

Затым змянілася і гэтая ўлада. Прыйшоў малады чарнабровы кіраўнік, які ўзяўся за справу правільна, з патрэбнага боку. Але размах ужо быў не той, і саквояжы ў падвале худнелі з кожным месяцам.

На пенсію Пятра Іванавіча адправілі з пашанай, у званні палкоўніка. Ён вельмі хутка стаў улюбёнцам піянераў, ганаровым старшынёй аб'яднанай піянерскай дружыны горада. Распавядаючы пра вайну, Пётр Іванавіч, бывала, так захапляўся, што да канца сваіх успамінаў раптам апынаўся ў тыле ворага, у ролі камандзіра партызанскага атрада, які ліха знішчыў усіх фашыстаў у радыусе ста кіламетраў.

Затым яго абралі старшынёй гарадскога грамадскага аб'яднання ветэранаў вайны, зрабілі дэпутатам (яўка на выбары дзіўным чынам склала 110 працэнтаў). Так ён дацягнуў да пачатку 70-х, а затым — памёр.

Сталіна Піліпаўна да таго часу таксама выйшла на пенсію і засталася зусім адна.

Што тут зробіш? Трэба жыць...

Але жыццё было не радаснае. Жылося не ў жадобу, па інэрцыі. Піянеры, па старой памяці, яшчэ некалькі гадоў пахадзілі да яе, напаўняючы дні хоць нейкім сэнсам, а потым перасталі.

Яна завяла сабе бялявае сабачанё, якое мела злосны нораў і надрыўна брахала на мінакоў.

Было ёй зусім сумна, зусім самотна. Ніхто не зваў у госці, ніхто не хадзіў да яе. Тэлефон маўчаў: не было каму тэлефанаваць. Здавалася, увесь свет забыўся на яе, пра яе існаванне. Ды яшчэ пенсія... Пенсіі на годнае жыццё не хапала, і Сталіна Піліпаўна з жахам думала пра тое, што было б з ёй, калі б не саквояжы Пятра Іванавіча.

Забаўкай былі толькі частыя паходы да лекараў, ад якіх яна патрабавала выявіць неіснуючыя ў яе хваробы. Яны не выяўлялі, і Сталіна Піліпаўна хадзіла скандаліць да галоўнага лекара.

Урэшце ў паліклініцы яе зненавідзелі, пачалі — за вочы — называць «старой падаграй» («старая падагра прыйшла», «старая падагра сёння не прыходзіла?») — ды ігнараваць. У выніку прагледзелі сапраўдную хваробу — сардэчную.

Сабачанё таксама пачало хварэць і неўзабаве здохла. А потым наступілі зусім страшныя часы. Нават казаць пра гэта не хочацца...

Новы генеральны сакратар, паўнамоцны прадстаўнік апакаліпсісу, дазволіў, цьфу, свабоду! На свет божы палезла ўсякая антысаветчына. Газеты, часопісы, кнігі, перадачы па тэлебачанні, размовы ў чэргах... Усё гэта было жахліва, жахліва... Суцяшэнне давалі толькі старыя фота, якія яна раскладвала па вечарах, як пасьянс. Вось малады Пётр Іванавіч сярод зацягнутых у чорную скуру супрацоўнікаў ЧК; вось — у прыгожай форме НКУС, пасля падвышэння. А вось яны разам на адпачынку ў Крыме, марская хваля падбягае да самых ног... Праводзіны на пенсію... На Парадзе ў гонар 9-га мая... Сустрэча з піянерамі...

Закрываючы альбом, яна адчувала сябе ўлагоджанай, амаль шчаслівай. Быццам бы старыя фатаграфіі таямнічым чынам аднаўлялі даўно памерлую рэчаіснасць... І ў такія хвіліны ёй здавалася, што ў Крамлі па-ранейшаму — Іосіф Вісарыёнавіч, што па вуліцах павольна ходзяць міліцыянты ў белых кіцялях, а з дынамікаў гучаць радасныя песні пра тое, як добра ў краіне савецкай жыць...

Але раніцай даводзілася ісці ў краму ці па пенсію, і час рабіўся іншым.

Аднойчы, вяртаючыся з пошты, яна ўбачыла каля свайго пад'езда вялікую чорную машыну. Старое сэрца яе затрымцела, затрымцела, затрымцела; яна села на лаўку, валідол з цюбіка рассыпаўся, пакаціўся ў розныя бакі; чамусьці ўспомнілася дзяцінства: заліты сонцам вясковы луг, духмяная трава, вянок з палявых рамонкаў, голас маці, якая кліча снедаць, — і лекарам хуткай дапамогі заставалася толькі канстатаваць смерць...

# акраец макаецца ў малако

## Квантэмы



Алесь РАЗАНАЎ

Квантэмы — немагчымыя вершы: іхняя граматыка алхімія, іхняя логіка здагадка, яны выклікаюць з утоеных абсягаў быцця зместы, што не выяўляюцца, а ёсць.

Словы ў іх дзейныя асобы, і, кажучы пра нешта, што ім вядома, усякі раз адкрываюць тое, што не мае ні вобразу, ні наймення, — ні што, але гэтае нішто істотнае.

*

*ядловец ловіць*
*сіняе*
*сны лекі*
*я доля для*
*далёкае сюды*

*

*надвор'е над*
*у меру мець*
*ныраюць*
*у цемру норы*
*нораў з нырва*

*

*у людзях дзень*
*падзеняцца дахаты*
*пытацца ў дрэў і птахаў*
*раптам сам*

*

*лепей калісьці*
*каса*
*клеплецца*
*гук*
*лякаецца ліку*

*

*ці шамаціць чарот*
*ва ўчора вецер*
*вяртаецца з дарогі*
*твараў шмат*

*

*высноўваюцца словы*
*цела ці*
*у ніве ацалелы*
*сны наяве*

*

*гартае грамада*
*ад брамы да*
*вартуюцца грымоты*
*статут тутка*

*

*дым адымае*
*латае лаўжы*
*крыж залаты*
*ў мінулым невядомы*

*

*радовішча відушчае*
*дадому*
*іду з вадою*
*вады ад мяне*

*

*сухое паслухмянае*
*салому*
*захоплівае полымя*
*сама*

*

*згасаюць ліхтары*
*ў пасагі сонцы*
*парадкуюцца літары*
*і ты*

*

*вагаецца прастора*
*дуб стары*
*адужвае праґал*
*знаходжу жолуд*

*

*чытаюць акалічнасці*
*што клічу*
*ці шчыт ці меч*
*ці шчыліны ні з чым*

*

*спыняюся спаўняюся*
*ўсцяж лета*
*ўсцілаецца цяплынню*
*цела плынь*

*

*з хвіліны ў век*
*да ліку дадае*
*кій хадака*
*у выніку ніякі*

*

*дзіўлюся з-пад кары*
*недаспатканы*
*у статку пасткі*
*людзям у карысць*

*

*няма калі*
*спазняюцца сляды*
*усюды выклік*
*пазнаюць малюнкі*

*

*ад ворага жалеза*
*ці залежны*
*ад ежы гавару*
*нарог арэ*

*

*адлегласці данекуль*
*даўніна*
*адтульваецца ў долі*
*ў скібах глеба*

*

*мясціны перайначваюцца*
*нанач*
*іду ў калісьці*
*ў одуме касцёл*

*

*паразы празарлівыя*
*у заўтра*
*вяртаюцца разы*
*з травою праз*

*

*маланка вымалёўвае*
*карэнне*
*у цемры церам*
*пацеры цяпер*



*

*жаданні перагортваюцца*
*дождж*
*ушыр і ўдоўжкі*
*шчырая гаворка*

*

*у розуме замкнёнае*
*пазыкі*
*чапаюць звычай*
*зумкае пчала*

*

*адзенне ўголас*
*ведае іголка*
*дагэтуль згода*
*голы неспадзеў*

*

*знадворку стоды*
*праўдзіцца абрад*
*сад дастае*
*спадыспаду дарункі*

*

*наўколле кворум*
*свецяць галасы*
*лёс каляровы*
*акварэль вясёлка*

*

*ні ў гэты бок ні ў той*
*са світкі нітка*
*іду ў адлюддзе*
*з вынікам клубок*

*

*хаваюць хвілі вобразы*
*ўхваляе*
*базар выявы*
*ў зборы гарбузы*

*

*тлумачыцца разлом*
*замала разам*
*у змогах скарга*
*крыгі без чаргі*

*

*ад водступу адлеглае*
*што нельга*
*угадвае нагода*
*ступа тут*

*

*ні голы ні босы*
*нябёсы па-за*
*пазыку*
*ўсім аддае дзьмухавец*

*

*затульваюцца зоркі*
*ўзнагароды*
*ўзнімае горад*
*золата ў агні*

*

*пільнуюць спілаванае*
*пні*
*ў плыні*
*парушанае*
*хвілі ўпершыню*

*

*адшукваюцца коды*
*ў кшталтах мур*
*марудзяць мурашы*
*шкло ў парашкоду*

*

*напісанае памятае*
*смага*
*выпытвае пясок*
*ці залаты*

*

*гутару з рунню*
*староннi*
*струны*
*настройваюцца знутры*

*

*аддаць і ўзяць*
*у завязі*
*з я з'ява*
*заўсёды зноў*
*зноў і заўсёды сад*

*

*захоплены сабой*
*абое лопух*
*пух адпускае*
*выпадак спалох*

*

*разгадваю таямніцу*
*сюды-туды*
*гайдаецца маятнік*
*суд адсутны*

*

*стараецца трава*
*старая праўда*
*ўтварае востраў*
*ростань навырост*

*

*сябе табе*
*без цела след*
*бяседа*
*вядзе далей*
*суседзі адусюль*

*

*мінулае аджывае*
*джала*
*знаходзіць утоенае*
*дастаю*
*з памяці жолуд*

*

*высноўваецца сон*
*нясу драбіну*
*убрад дзе буду*
*рыбіна ў вадзе*

*

*маскі знаўкола*
*смак раіць*
*акраец*
*макаецца ў малако*

*

*ручай струменіцца*
*змены*
*тлумачыць страла*
*трымаю*
*чару ў руцэ*

*

*адлюстраванні сляпыя*
*лепшы*
*ўсяляюся ў лёсы*
*з травою*
*гутарыць гурт*

*

*снамі відушчы*
*вяду абсягі*
*самі ізгоі*
*гояцца пісягі*

*

*павекі расплюшчваюцца*
*пастухі*
*з вякоў выступаюць*
*на плошчы пуста*

*

*мінулае аджывае*
*джала*
*знаходзіць утоенае*
*дастаю*
*з памяці жолуд*



**Яму не хапала чыстага паветра, гукаў і пахаў лесу і, галоўнае, — раздолля, прасторы, той самай, што песціла яго ўсё дзяцінства і юнацтва. Мабыць таму і не склалася ў яго гарадское жыццё, сям'я, праца. Ён крыху яшчэ патуляўся па іншых мясцінах ды ўрэшце вярнуўся ў родную вёску. І пайшоў працаваць туды, куды і павінен бы ісці адразу, куды і цягнула — у лясніцтва. Толькі цяпер яму было пад трыццаць пяць, вучыцца, думаў ён, запозна**

# Плач ваўчыцы



Міхась ЗІЗЮК

**...Яна вылезла з логава і асцярожна прынюхалася. Гэтую старую закінутую барсуковую нару вайдэра[1] прыкмеціла даўно. І таму, калі прыспеў той момант, каб шчаніцца, дапяла сюды, дзе і апрасталася.**

Гэты выпадак быў толькі другім на яе мацярынскім лёсе — шасцёра здаровенькіх пісклявых ваўчанят. Яны, здаецца, гатовы былі смактаць яе суткамі. Нават смочкі балелі, але ёй давялося пакідаць іх адных не толькі з гэтай прычыны. Пошукі здабычы — справа няпростая, тым больш цяперашнім часам, калі ўпаляваць становіцца ўсё складаней. Дзеля бяспекі разам з басерам[2] яны некалькі разоў пераносілі малых. Першы раз пакінулі іх пад вялізным яловым выварацнем, праз нейкі час перахавалі шчанят пад разлапістае карэнне іншай яліны. Пасля зноў вырашылі перанесці ў барсуковую нару. І вось учора, вярнуўшыся першай з не вельмі ўдалага палявання, учула: каля логава туляўся хтосьці з людзей. Людскі пах не зблытаеш ні з якім іншым. Гэта выклікала ў яе глыбокі непакой і трывогу.

Непадалёк, за гэтым самым узгоркам, вайдэра прыкмеціла добрую глыбакаватую і змрочную яміну. Менавіта туды вырашыла перанесці прыплод. На некалькі дзён перахаваць малых у яміну, а пасля можна вярнуцца і ва ўтульную нару — калі ўсё будзе ціха. Тут ёй зручна, і шчанюкам добра і бяспечна. Яна не стала чакаць басера, які яшчэ з ночы выправіўся па здабычу. Трэба, прыплод падрос, яны пачалі ўжо далучаць дзяцей да дарослай ежы. Шчаняты круціліся, спрабуючы дабрацца да смочкаў, але яна рашуча распіхала іх, аднаго схапіла ў зубы і панесла да яміны. Праз нейкі час малыя былі ўладкаваныя. Вайдэра, заспакоеная новаю хованкаю, вярнулася да старога логава, абнюхала яго, пазначыла, вярнулася да шчанят і прылегла. Тыя адразу ж узяліся смактаць, задаволена павіскваючы. Яна разумела: калі малыя будуць сытыя, то будуць спакайней ляжаць, а яна будзе менш перажываць за іх на паляванні. Малака бракавала, станавілася ўсё менш, і шчаняты высмакталі яе дазвання. Яна вылізала іх, спіхнула ў гурт, пасля пацягнулася, прынюхалася і, не адчуўшы небяспекі, выбралася наверх.

Не так даўно разднелася. На розныя галасы заліваліся і шчабаталі птушкі. Ад ляснога травянога покрыва і моху цягнула волкім, густа насычаным прэласцю, пахам. Дрэвы і кусты паспелі адшчыкнуцца клейкаю зялёнаю лістотаю, набрынялі пасля нядаўняга дажджу вільгаццю. Аднекуль здалёк цягнула ледзь улоўным пахам дыму. Але гэты пах не выдаваў ані каліва хоць якой пагрозы. Заспакоеная, вайдэра патрусіла ў напрамку недалёкага березняку — там спадзявалася ўпаляваць зайцоў. Тым больш, што ў хуткім часе можа вярнуцца і басер.

...Ён даўно нагледзеў гэтую нару. Куды падзеўся барсук — невядома, але ён зразумеў, што нара пуставаць не будзе. І не памыліўся. Бо вырас тут, у гэтай мясцовасці, змалку хадзіў сюды па грыбы з дзедам, і ўрочышча гэтае добра ведаў. Увогуле яму падабалася блукаць па лесе, знаходзіць у старых мясцінах нешта новае, прыкмячаць сляды звяроў, іх адзнакі, адшукваць іхнія логавы і лежкі. Нябожчык-дзед паспеў навучыць яго сяму-таму: разблытваць звярыныя хітрасці, чытаць сляды, ведаць галасы лясных жыхароў, як і што знаходзіць у лесе. Ён падумваў пра тое, каб працаваць у лесе, але бацькі былі настроены па-іншаму. Яны выправілі ў горад вучыцца на інжынера, бо ў вёсцы, вядома ж, няма аніякай перспектывы. Ён не стаў пярэчыць, а дарма: у горадзе не прыжыўся. Там усё было чужое, непрывычнае і халоднае. Яму не хапала чыстага паветра, гукаў і пахаў лесу і, галоўнае, — раздолля, прасторы, той самай, што песціла яго ўсё дзяцінства і юнацтва. Мабыць таму і не склалася ў яго гарадское жыццё, сям'я, праца. Ён крыху яшчэ патуляўся па іншых мясцінах ды ўрэшце вярнуўся ў родную вёску. І пайшоў працаваць туды, куды і павінен бы ісці адразу, куды і цягнула — у лясніцтва. Толькі цяпер яму было пад трыццаць пяць, вучыцца, думаў ён, запозна (дый, па шчырасці, не хацелася), таму на пасаду раслічваць не выпадала, а ён і не хацеў кабінетнай працы. Склеілася нейкая сям'я з развядзёнкаю, усё як у людзей, — так лічылі бацькі. Але, галоўнае, што ён пры лесе. І на працы, любую вольную хвіліну праводзіў там.

Лес карміў яго сям'ю, у добрую часіну на ягадах яны прыстойна зараблялі. Яшчэ і сушаныя грыбы добра ішлі, іншым разам адшукваў і збываў ласіныя рогі. Таму і жонка ніколі не дакарала за частыя і працяглыя лясныя вандроўкі. Сюды ж ён наведаўся, зноў-такі, па чыста прагматычных меркаваннях. Яшчэ некалькі месяцаў таму патэлефанаваў даўні сябар і сказаў, што ў Расіі ў яго ёсць знаёмы бізнэсмен, які хоча завесці сабе ваўкоў у загарадным катэджы. І сябар, ведаючы яго здольнасці, прапанаваў адшукаць малых ваўчанят — нават сам меў намер прыехаць за імі, тым самым зарабіць сабе капейчыну. Доўга не вагаўся. Пра ваўчыную зграю, што атабарылася ў наваколлі, ён ведаў яшчэ з восені. І гэтую па́ру, што вывела прыплод, таксама прыкмеціў яшчэ раней. Якія б ні былі разумныя і хітрыя ваўкі, яны яго не падмануць. Ён ведаў, што тыя ўжо некалькі разоў перахоўвалі малых, нават бачыў хованкі. Шчаняты падраслі, пераходзяць на прыкорм, акурат цяпер іх можна ўзяць. Браць вырашыў увесь вывадак, тады будзе нейкі заробак. Галоўнае — не нарвацца на абодвух ваўкоў. Хоць наўрад ці яны накінуцца, хіба толькі ў безвыходным становішчы, але засцерагчыся ніколі не залішне. Ваўкі, верагодней, могуць ахвяраваць прыплодам, а не сабою: на наступны год вывядуць яшчэ. Ён меў пры сабе і паляўнічы карабін, і добры нож у похвах, але дзікі звер ёсць дзікі звер. З адным яшчэ справішся, а з двума можа й не пашанцаваць. Таму да логава вырашыў ісці на самым досвітку, тады амаль стоадсоткава басер будзе на паляванні. А вайдэру, калі раптам што, утаймуе.

Краем мінуў поле з азімінаю, прайшоў асіннікам, перасёк вузенькую ручаіну і выбраўся на пушчанскую ўскраіну. Тут адчувалася дзікая неруш прыроды. Паўсюль векавечныя дзеравіны, месцамі зарослыя старыя буraломы, густы травастой. Чужаніца ў такіх мясцінах лёгка можа разгубіцца і згубіцца. Таму ў гэты бок мала хто хадзіў. Ён глянуў на гадзіннік, паправіў карабін на плячы і таропка пакрочыў у зараснікі арэшніку. Часу ў яго не так і шмат.

...Ён няспешна трусіў уздоўж поля — падцягнуты, спрытны, асцярожны, малады і поўны сіл басер. Паводзіў сябе спакойна і ўпэўнена. Тут ён меў спадзеў упаляваць казу ці казулю, пасля зімы тыя нярэдка ўзбіваюцца на поле, засеянае азімінаю. Так, як было гэта з тыдзень таму, калі пашанцавала завaліць невялікую казулю. Хоць схуднелая была тая пасля галоднай зімы і зацяжной халоднай вясны, але ж здабыча неблагая. Якраз на світанні яны могуць вытыркнуцца з лесу. І басер хацеў заняць зручную мясцінку з падветранага боку. Ён добра ведаў палахлівы нораў коз, якія кідаюцца ўпрочкі ледзь не ад кожнага парыву ветру. Таму і прыйдзецца хітраваць, прыхавацца, каб тыя пасля падпусцілі яго як мага бліжэй.

Басер стаіўся, чуйна ўслухоўваючыся ў лёгкі пошум вясновага лесу. Усё звыклае і будзённае. Яны няблага перазімавалі. Не сказаць каб заўсёды былі сытыя, але ж не было такога, каб прыліпалі жываты да хрыбта ад голаду. Дый людзі гэтаю зімою іх асабліва не

турбавалі, што заспакойвала. Вайдэра ўдала ашчанілася, усе малыя, як на падбор, здаровыя і жвавыя. Таму ёсць неблагі шанец захаваць і падгадававаць ці не ўвесь прыплод.

Ён добра памятаў свой першы год жыцця. Іх у вывадку было дзевяць. Але першым разам маці няўдала схавала шчанят пад вываратнем, пакінула на нейкі час, і дзік, які натрапіў на іх, парваў ікламі траіх, астатнія ад страху паспелі зашыцца глыбей і ўратавацца. Пасля ад нейкай хваробы скалела яшчэ трое. І ўжо пазней, калі яны добра падраслі, сястра неабачліва прапарола сабе нагу і загінула ад гнойнай раны. Так з усяго вывадку засталося двое.

У цёмных абрысах гонкага маладога беразняку ён заўважыў ледзь улоўны рух. Басер настырыў вушы, падаўся крыху наперад. Пацягнула адметным казіным пахам. Ён прыціснуўся да зямлі, асцярожна пасунуўся некалькі метраў і падрыхтаваўся да кідку.

...Яны валтузіліся ў яміне, бясклапотна куляліся і дурэлі, злёгку пакусваючы адзін аднаго. Сонца не так даўно пазалаціла зазелянелыя верхавіны, і яго касыя промні ледзь-ледзь дакраналіся цёмнай яміны. Шчаняты пакуль не паспелі прагаладацца, таму гулялі ды задаволена павісквалі ў чаканні бацькоў. Маці сыйшла нядаўна, здавалася, што нават яе ласкавы цёплы малочны пах яшчэ вісіць у паветры. Адзін з іх, самы дужэйшы, расштурхаў астатніх і паспрабаваў вылезці са схованкі, але выбраўшыся амаль наверх, скаціўся па крутым схіле назад у яміну. Яны яшчэ не бачылі нічога і нікога ў гэтым свеце, акрамя бацькоў, логава і гэтага лесу з яго такімі роднымі і блізкімі пахамі ды гукамі. І калі нейкі незнаёмы чужы цень навіс над імі, малыя насцярожана сціхлі. А дзіўны двухногі чужынец спусціўся да іх, паклаў на зямлю вялікі шэры мех, спрытна пахапаў ваўчанят і пакідаў туды. Напалоханыя шчаняты завішчалі, жаласліва заскуголілі, шукаючы выйсця, а выратаванне не прыходзіла. Тады са страху яны прыціснуліся адзін да аднаго і збіліся ў клубок. Чужынец нёс іх у невядомасць.

...Яна цягнулася, незадаволеная сабою. З паляваннем зноў не вельмі пашчасціла — толькі адзін заяц. Але бавіцца не выпадала: не хацела надоўга пакідаць малых адных, таму і не стала шукаць якую іншую здабычу. Надзея была толькі на басера, ён у сіле, амаль заўсёды ўдала палюе і забяспечвае іх мясам. Яе ж тачыла нейкая незразумелая трывога. Тое, што хтосьці хадзіў каля логава, выклікала зразумелы неспакой. Яна не ведала, што гэта, але пакінула надзею здабыць яшчэ што-кольвечы і вырашыла вярнуцца да малых.

Людскі пах адчула здалёк, на падыходзе. Устрывожаная, вайдэра зрабіла некалькі кругоў вакол хованкі, каб не патрапіць часам на чалавека, але зразумела, што яго тут ужо няма. Тады яна кінулася да шчанят. У яміне іх не было, аніводнага. Разгубленая, вайдэра збегла ўніз, абнюхала лежку, закруцілася на месцы, пасля выскачыла наверх, зноў забегала. Вывадак знік. Яна кідалася ў адзін бок, у другі, хоць і разумела, што нікога ўжо не знойдзе. Заставаўся толькі адзін выразны след, які пахнуў тым самым чужынцам і вёў некуды ў лес.

Вайдэра стомлена прысела. Бяда прыйшла нечакана, а што рабіць з гэтаю бядою — яна не ведала. Што ёй рабіць без дзяцей, як жыць далей, як зжыцца з думкаю, што гэтых маленькіх, калматых, вісклівых клубочкаў ужо не будзе? Здаецца, нават смочкі набухлі малаком ад такіх страшных думак. Безвыходнасць невыносным цяжарам, як абцугамі, сціснула яе за шыю, жудаснае выццё само прарвалася наверх. Яна задрала галаву, завыла ва ўсю моц, нібыта толькі так, толькі гэтым магла вярнуць свой вывадак. Выццё, ад якога ўздрыганулі пераляканыя зайцы, настырылі вушы ласі і казулі, устрывожана рохнулі дзікі, панеслася па лесе. Выццё часам нібы заціхала, захлёбвалася, пераходзіла ў нейкі плач, пасля зноў узнімалася, разварэджвала дзікім жывёльным гучаннем сонныя пушчанскія нетры. Вайдэра аплаквала сваю горкую мацярынскую долю.

...Ён адцягнуў важкую здабычу ў глыбіню лесу, і толькі пасля ўзяўся за казу. Патрэбна, як мага шчыльней набіць трыбух, каб было што адрыгнуць малым. Наеўшыся, басер адгрыз ад казы заднюю нагу з кумпяком — гэта для вайдэры. Ён агледзеў мясціну, адцягнуў астатняе пад куст арэшніку, разгроб старое перапрэлае лісце і крыху папрацаваў кіпцюрамі. У тую неглыбокую яміну прыхаваў здабычу, ссунуў наверх лістоту. Задаволены і сыты, схапіў кумпяк і патрусіў да логава.

Яшчэ здалёк пачуў страшнае выццё вайдэры. Басер здрыгануўся: ён зразумеў — адбылося штосьці непапраўнае. Не зважаючы на перашкоды, ірвануўся наперад. Вайдэра, як толькі заўважыла яго, падхапілася, кінулася да людскога следу. Але цяпер і для яго ўсё стала зразумелым. Адчай сціснуў глотку — басер злосна і працягла загырчаў. Толькі чалавека ўжо не дагнаць, адабраць малых немагчыма. Застаецца толькі адно: перажыць цяжкую страту і, па магчымасці, адпомсціць ненавісным двухногім. Вайдэра ж забегала вакол яго, зазіраючы ў вочы. Яна імкнулася кінуцца па следзе, паспрабаваць адваяваць шчанят у чужынца, клікала басера за сабою. Ён злосна гыркнуў на яе, адгаворваючы, але вайдэра не супакойвалася. Жаласліва заскавытаўшы, яна ўзяла след і знікла за пагоркам. Басер нерухомай постаццю застыў на зялёным імшаніку.

...Ён ішоў паглыбіўшыся ў свае думкі. У лесе заўсёды добра думаецца — тут ніхто не замінае, неназаляе, на душы спакойна, думкі плывуць павольна, нетаропка, як па чарзе, не блытаюцца. Мех важка адцягваў плячо. Ваўчаняты супакоіліся, паводзяць сябе ціха. Ён добра ўсё пралічыў, заспеў іх адных. Тую новую схованку, у якую вайдэра перанесла вывадак, ён знайшоў даволі лёгка — усё ж не навічок у лесе. Цяпер заставалася дайсці дадому, патэлефанаваць сябру (той яшчэ ўчора папярэджаны) і выехаць на сустрэчу. Больш паловы дарогі ён ужо мінуў, хутка пакажацца поле, а там да вёскі лічаных два кіламетры. Здаецца, не так хутка ідзе, а спіна ўпрэла. Ён перакінуў мех на правае плячо і застыў: здалёк данеслася жудаснае і працяглае ваўчынае выццё. Так, хутчэй за ўсё гэта вайдэра, якая вярнулася да пустой хованкі. Што ж, нічога не паробіш, сёння ёй не пашанцавала. На нейкае імгненне ён задумаўся, стоячы на месцы, пасля ўздыхнуў і рушыў далей.

Дзеці былі ў школе, жонка на працы, і яму ніхто не назаляў непатрэбнымі пытаннямі. Ён занёс мех у дрывотню, паклаў яго ў металічную бочку. Пасля патэлефанаваў сябру, памыўся, пераапрануўся і паснедаў. Вось цяпер ён гатовы ехаць. Як толькі падняў мех, ваўчаняты завалтузіліся, жаласліва заскуголілі. Нават неяк шкада іх, малыя, амаль нічога яшчэ не разумеюць. Хоць яно, зрэшты, да лепшага: чым раней адабраць, тым хутчэй звыкнуцца з новым жыццём. Легкавічок мякка выкаціўся з двара, выехаў на пустую вясковую вуліцу і шпарка панёсся па гравейцы.

Ён збавіў хуткасць. Добрай дарогі ўсяго нічога, бо вёска акружаная лясамі і да заасфальтаванай шашы патрэбна яшчэ мінуць кавалак няўдобіцы. Колькі не скардзіліся жыхары, а гэты ўчастак дарогі, што ідзе праз лес, так і не зрабілі больш-менш прыстойна. Пройдзе грэйдэр — як бы нічога, а праз нейкі час зноў такія няроўнасці, што зубы ляскаюць. Ён задумаўся: а мо і мае рацыю жонка, насядае на яго, каб перабрацца ў мястэчка? Там і школа, і да біраццa ўсюды зручна, дзецям ёсць з кім сябраваць. Толькі не хочацца яму да людзей, лес для яго — як родныя маці і бацька. Штосьці мільганула наперадзе. Ён нават не паспеў нічога ўсвядоміць, як нага сама націснула на тормаз. На дарозе, перад машынаю, сядзела вайдэра. А тое, што гэта была яна, ён не сумняваўся.

...Яна імчала па следзе. Пах яшчэ свежы, яго не згубіш. Што б ні было, але яна не кіне дзяцей. Хай сабе басер застаецца, а яна, калі спатрэбіцца, накінецца на гэтага чалавека і паспрабуе адабраць малых. Аб адной думцы пра дзяцей яна паскарала бег. Дзе яны, што з імі?

След вывеў да поля, затым, праз лагчыну, — у бок вёскі. Тут яна спынілася. Нешта стрымлівала яе, чужыя пахі і палохалі і абнадзейвалі адначасова. Рашучасць на нейкі момант пакінула вайдэру. І ўсё ж вярнуцца назад яна не магла. Усё яе тулава трымцела ад нецярпення і хвалявання, з глоткі вырываўся брэх, з хрыпам і паскугольваннем. Наструнeная, яна рыхтавалася да рашучага кідку туды, куды чужынец панёс яе дзетак. У гэты момант з вёскі выехала нешта страшнае, смярдзючае і вурклівае, ад аднаго выгляду якога хацелася схавацца ў лесе. І ў той жа момант з ветрам адтуль тхнула знаёмым пахам. Такі хвалюючы, такі родны і блізкі пах — пах яе дзетак. Вайдэра нейкі час, нібы ў роздуме, сачыла позіркам за машынаю, а затым кінулася напярэймы ў гушчар. Цяпер ужо нішто не магло яе стрымаць. Як вецер, хутка, лёгка і спрытна, яна праляцела кавалак ляснога абшару, пратараніла прыдарожны ядловец і выскачыла на дарогу.

...Яны застылі ў маўчанні, утаропіўшыся адзін у аднаго. Ваўчыца, вайдэра, маці, і малады хударлявы русявы мужчына, вясковец. Ён заглушыў рухавік. Карабіна ён з сабою не браў. Не разлічваў на такую сустрэчу. Але ці стаў бы страляць? Дый па вялікім рахунку, нішто не замінае яму паехаць, скіраваць на яе. Проста праехаць некалькі метраў — і ўсё. Вайдэра не рухалася, яна сядзела і глядзела на яго. Што было ў яе позірку, пра што яна думае ў гэтае імгненне? Ён сядзеў, сціснуўшы рукамі стырно. Дзед расказваў яму пра ваўкоў, пра іхнюю помсту. Некалі, яшчэ да вайны, ляснічы гэтак жа, як і ён сёння, забраў з логава малых ваўчанят і аднёс да пана. Той заплаціў яму колькі злотых. А ўжо назаўтра сярод белага дня, на пашы, воўчая зграя выразала галоў з дзесяць авечак, а ноччу ваўкі прыдушылі яшчэ нейкую колькасць жывёлы ў хлявах вяскоўцаў. Так, цяпер часы іншыя, ваўкі ў вёску наўрад ці палезуць, а худоба каля лесу не пасвіцца. Толькі ці ў гэтым справа? Яму, раптам, успомнілася бабуля, яе зморшчаны, як печаны яблык, твар. У вайну немцы забралі на прымусовыя работы двух яе дзяцей, дачку і сына. Ягонаму бацьку было тады чатыры гады. Што зрабілася там з падлеткамі — невядома, але з Германіі яны не вярнуліся, згінулі на чужыне. Так у бацькі не стала брата і сястры, а ў яго — дзядзькі і цёткі. І бабуля заўсёды, калі ўспамінала іх, плакала, шкадавала, што яны склалі свае галовы, а яна жыве. Калі ён быў малы, нярэдка садзіла на калені і расказвала пра сваіх дзетак, дакараючы сябе, што дазволіла немцам іх забраць.

Некалькі імгненняў ён вагаўся. Пасля выцягнуў з кішэні тэлефон.

— Слухай, прабач. Я не змагу выканаць тваю просьбу. Перадай таму чалавеку, што ў мяне не атрымалася. Хай пашукае ў іншым месцы.

— Чаму? Ты што гэта?.. Што здарылася?

— Так выйшла. Магчыма, некалі патлумачу. Прабач. Пакуль...

Ён выбраўся з машыны, падышоў да багажніка, адчыніў яго, выцягнуў мех і пайшоў наперад. Спыніўся на ўзбоччы за некалькі крокаў ад вайдэры, развязаў мех і асцярожна вызваліў ваўчанят. Шчаняты, разгубленыя і напалоханыя, гучна скуголілі, круціліся на месцы і тыцкаліся носам у траву. Ён вярнуўся да машыны. Вайдэра паднялася, не зводзячы з яго наструнeнага погляду, павольна рушыла да малых. Калі яна наблізілася, шчаняты заскуголілі яшчэ гучней. Не зважаючы на гэта, вайдэра стала пысаю падпіхваць іх у кусты, аднаго за другім. У гэты момант ён інстынктыўна адчуў нейкі рух за спіною. Павярнуўшыся, убачыў з другога боку дарогі ваўка. Басер стаяў метраў з трыццаць ад іх, — нерухома, угнуўшы галаў, сачыў за вайдэраю...

Праз некалькі хвілін усё аціхла. Вайдэра з ваўчанятамі і басер зніклі ў лесе. Лёгкі ветрык кудлачыў зазелянелыя верхавіны старадрэвін, а сонца, што ўзнялося над лесам, разлівала млявае цяпло на дарогу. Ён пастаяў яшчэ некалькі хвілін, як бы пра нешта думаў. Пасля ўсміхнуўся сам сабе, сеў у машыну, развярнуўся і паехаў у вёску.

Дарога зноў апусцела. Толькі на ўзбоччы, на пяску, застаўся выразны адбітак воўчай лапы.



1 Вайдэра – воўчая маці (нар.).
2 Басер – воўчы бацька (нар.).

# «Неразумны, бяздомны мой верш»: чатыры польскія паэты

## Ежы Кронхальд

### Ты сташ у мяне за спінаю

*Ты сташ у мяне за спінаю
ведаю, каб я хуценька азірнуўся
ты пакінула ў дар на падлозе б
маленькую кроплю расталага снегу
за спінаю шэпча
вогненны лес успамінаў
нібы гітара камусьці
хто кратае струны пустэчы*

### Ціша ў доме

*Ціша ў доме
як прас без душы
ля прасаваных спадніцаў і нагавіцаў
сонная
быццам вітраж з касачамі
у францішканскім касцёле
шчыльная й цесная
нібы
непрамакальны плашч*

### Ліст

*Ты сікала
размаўляючы
са мною па тэлефоне
гэта было так пяшчотна
так блізка
і так чароўна
быццам
любоўны ліст
з фантанам*

### Усё лета

*Ёанне Зах*

*Усё лета я плаваў
і пісаў табе мэйлы
часам здавалася
што ўсё наадварот
што я пішу камусьці іншаму
а да цябе — плыву*

### Арэлі

*У попельна-шэры дзень,
калі іх разгойдвае вецер, яны падаюцца
арфай
што на замову нябачных духаў
цыруе саван.*

## Марцін Сэндэцкі

*

*Добрая кніжка
можа палягаць на тым
што не вядома
пра што ў ёй
гаворка
Дрэнная кніжка
можа палягаць
на тым што не
вядома
пра што ў ёй
гаворка*

*Бачыце розніцу?*

*

*На бацькавым пахаванні Томак спытаў
далакопа,
што корпаўся ў магіле: «Вы ж выйдзеце
стуль, праўда?».*

*Я прыгадаў гэта перад Томкавым пахаваннем.*

*

*Было
як было*

*але мужчыны
не шасталі па вуліцы
ў шлёпанцах*

*раварысты
не гойсалі
па ходніках*

*татуіроўкі былі
ў маракоў
бандытаў
і Бэкхэма*

*не існавала
словаў трэндавы
блогерка
ютубер*

*цывілізацыя смерці
толькі рабілася
цывілізацыяй смецця*

*

*Ваенрук у званні падпалкоўніка
даў нам чароўнага пендзеля
і пасля абмену кампліментамі
перайшоў да ўнушэнняў:
«Ну, а што было б,
каб наш Баляслаў Ягайла
таксама касіў ад войска?
Што было б
пад Глюнвардам?».*

*

*Гэта важнае, тое няважнае.
Няважнае, бо адбылося са мной.*

*

*Чым даўжэй я пішу, тым менш.*

## Томаш Ружыцкі

### Крызіс польскага чытання

*А на вялікай сцэне — творчая вечарына
Чытача,
заля паўнюткая — прыйшлі аўтары
кніжак,
некаторым нават не хапіла крэслаў.
Нарэшце ён уваходзіць, крыху спазніўшыся,
няцвёрдым крокам,
бо ў гардэробе трохі прыняў для смеласці.
Фотаспалахі. Бурныя авацыі. Жывая
трансляцыя.*

*Чытач згадвае дзве-тры ўлюбёныя назвы,
коратка пераказвае сюжэт.
У залі крыкі захаплення, стогны расчаравання.
Пісьменнікі задаюць пытанні:
Як вы гэта робіце?
Як знаходзіце на ўсё час?
На канапе? Перад сном?
У дарозе? На паперы ці на чытальцы?
Што вы любіце?*

*Я хачу, каб чытанне
было для мяне святам, адказвае ён.
Каб усё адбывалася ўрачыста.
Я выбіраю дзень, гадзіну і строй,
патураю сваім дробным слабасцям.
Бо чытаць — злёгку ўсміхаецца ён — трэба
рэдка
і неахвотна.
Ці не стаміліся вы? — пытаюць яго.
Падзяліцеся творчымі планамі,
што вы прачытаеце наступным?*

*Тур трывае ўжо другі тыдзень.
Чытач незаўважна выцірае з ілба пот.
Перад ім чарга пісьменнікаў, усе па аўтограф,
кожны са сваёй кніжкай.
Некаторыя вельмі назольныя,
а ён жа ў іх адзін.
Усім хочацца быць сярод абраных.
Ці не баіцеся вы? — гучыць апошняе
пытанне.
Так, гэта цяжкае хобі, калі не сказаць
пакліканне.
Самі паспрабуйце.*

*Ёсць у гэтым нешта ад святасці.
Не ведаю, адкуль гэта ўзялося.
Спачатку я штосьці такое адчуваў.
Мне сніліся літары.
Потым пазнаёміўся з адной паэткай, не
ведаю,
ці гэта самаадрачэнне.
Каб не ганарары і сотні фанатак —
жартуе ён —
я даўно б усё гэта кінуў.*

*Часам бывае вельмі цяжка,
наведваюць чорныя думкі.
Прыходзяць лісты з пагрозамі, хтось
пакідае мне
на дзвярах цытаты.
Мяне разбураюць шкодныя звычкі.
Я ператвараюся ў шкілет.
Мае сны сюжэтныя.
Я жыву ў суцэльным кашмары.*

*Гэта быў жарт — кажа ён, моцна
сціскаючы
пластыкавую бутэльку з-пад мінеральнай
вады.
Давайце заканчваць.
Бо тут вельмі душна.
А наперадзе яшчэ
інтэрв'ю для ілюстраваных часопісаў.*

### У кусты

*Над кустамі рой жамяры.
Знак, што лета ўжо на двары.*

*Прапаную ў тое кустоўе.
Бо жыццё трэба жыць з любоўю.*

*Пра другое жыццё марыць цяжка.
Буду помніць. Адкрытая пляшка.*

*І маё вымаўляеш імя ты.
У траве, з гэтым лісцікам мяты.*

## Эўгеньюш Ткачышын-Дыцкі

***

*дзе твая бацькаўшчына і дзе
тваё выгнанне паэце
птахі з табою ці супраць
цябе пішчаць птушаняты*

*куды ты пойдзеш калі
зямля табе здрадзіць першая
як адвярнуўся ўчарашні
сябра (падобна заўсёды*

*няўпэўнены быў) як птушка
ва ўласным дрыготкім голасе*

***

*нам нічога не пагражае
калі мы выбіраем мінулае
якое можна складаць
у вершы найлепшым чынам*

*мы ёсць або нас няма
калі занураемся ў словы
бо словы можам таксама
збіраць у радкі і слупкі*

*адно аднаго расчуліць
пакуль нас ніхто не прытуліць*

### Песенька пра маніякальна-дэпрэсіўны псіхоз

*а перадусім трэба ўзяць
пад увагу той факт што паэзія
(не раўнуючы маніякальна-
дэпрэсіўны псіхоз) працякае*

*па коле й ніколі яе не бывае
замнога куды ж ты цячэш
неразумны бяздомны
мой верш («Нікому, нікому*

*мы цалкам тут не патрэбны»)
найлепей табе было б
у Лісіных Ямах а яшчэ лепш
у школьным падручніку*

### Палац

*то пойдзем да цёткі Марынкі
сястры Букіты не забываючы пра
хваробу яе (пра стужачкі і сцяжочкі
наўкола дома ў вокнах палацу)*

*бо перадусім трэба ўзяць
пад увагу той факт што з хваробы
бывае карысць і шмат чаго прыдаецца
ў паэзіі што працякае па коле*

*куды ж ты цячэш неразумны
бяздомны мой верш (куды цябе памяць
нясе) бо найлепей было б табе
ў школьным падручніку а яшчэ*

*лепш на вакзале ў Любліне*

***

*хлопец што корміць з рукі
двух уяўных сабачак
будучыню і мінулае
хто з іх дваіх бліжэйшы да праўды*

*бліжэйшы да цела? заўсёды
бяздомны дварняк у каросце
той хлопец павінен быць вечна адзін
адзінюсенькі хоць анічога пра гэта*

*не ведае ён з вачэй маіх знікне на вуліцы
Езуіцкай і сёння напэўна залізвае раны*

***

*цемра напэўна магла быць
маёю хатняй жывёлаю (прывітанне
кудлацік) я больш не дам табе знікнуць
хоць ты абсалютна па-іншаму*

*разумееш няўлоўнасць
і абсалютна па-іншаму ставішся
да рэчаіснасці (прывітанне
мой верш) я не дам табе скончыцца*

*без псіхатропнай пуэнты й тае бяды
што таблеткі не прасвятляюць нам
тэксту*

**Пераклаў з польскай Андрэй Хадановіч**

# У сямейным жыцці — як у моры…



Алесь ЕМЯЛЬЯНАЎ-ШЫЛОВІЧ

### Прафесія

Пісьменніку, пагатоў паэту, для таго, каб пісаць, хаця б час ад часу варта здзіўляцца, а журналісту — абурацца.

### Блізарукасць беларускіх памежнікаў

Пашанцавала нам сёлета з доўгім уікендам. Цэлых чатыры дні! Адзін за адным, пачынаючы з суботы сёмага мая і ажно па дзясятае. Вырашылі паехаць у Львоў. Даўно марылі, шмат на гэты конт гутарылі. І вось нарэшце…

Адзінае, квіткоў на прамы аўтобус не было. З пачатку года нашая прыватная кампанія-перавозчык абвясціла новы рэйс Мінск–Львоў праз Роўна. Рэкламавалася гэта ўсё вельмі актыўна. Купляць білеты можна было за два месяцы да адпраўлення. Але ўжо двaццатага сакавіка вольных месцаў не засталося. Не разумею, навошта крычаць пра новы маршрут, калі за паўтара месяца квіткі дарэшты распрададзеныя, а дадатковых рэйсаў ані знаку. Карацей кажучы, давялося брацца да Роўна.

Едзем. Перасякаем беларуска-ўкраінскую мяжу. А мая жонка са школы ходзіць у акулярах, але на фотаздымку ў пашпарце, дый увогуле на большасці сямейных фота, яна без іх. Рэч у тым, што зрабіць добрае фота для чалавека, які носіць акуляры, цэлая праблема, бо часта на здымку застаюцца блікі ад шкельцаў. Гэта праверана і не падлягае сумневу… Але вернемся на мяжу. Колькі б мы з жонкай не ездзілі ў іншыя краіны, толькі нашыя памежнікі просяць яе тыя акуляры зняць. Ані палякі, ані ўкраінцы, ані літоўцы ніколі нічога не кажуць. З гэтага я магу зрабіць толькі адну выснову: у беларускіх пагранцоў вочы ад пільнага ўтаропліваня ўвесь час напружаныя, і, як вынік, у іх псуецца зрок. Я нават сказаў бы, што гэта такая своеасаблівая прафесійная хвароба. Вы толькі ўявіце сабе, колькі рэчаў і тавараў ім трэба пераглядзець, перамацаць, абцупаць, колькі штампаў праставіць у пашпарты розных грамадзянаў. Папраўдзе, мне іх шкада, няшчасных слабавідушчых беларускіх памежнікаў. Трэба ім за шкодныя ўмовы даплочваць. Ці там талончыкі на малако даваць. Дакладней, на чарніцы, бо яны для зроку вельмі карысныя. І абавязкова раз на паўгода, а то нават часцей у мэтах прафілактыкі прызначаць курс вітамінатэрапіі і кансультацыю афтальмолага.

А мы са свайго боку можам толькі падзякаваць гэтым цудоўным самаахвярным людзям, якія рызыкуюць сваім здароўем, несучы сваю цяжкую службу, абараняючы наш спакой і рубяжы. За пільнасць і прафесіяналізм беларускіх пагранцоў — ура!

### Карлік Нос

Я заўсёды любіў казкі Гаўфа, чытаў іх у дзяцінстве, перачытваў у юнацтве, але ніколі не думаў пра іх глыбінны сэнс. І толькі цяпер, дзякуючы дачцэ, я ўпершыню паглядзеў на казку «Zwerg nase» з іншага боку. Рэч у тым, што нашая сяброўка падарыла Васіліне кніжку з казкамі Гаўфа ў перакaзе для самых маленькіх. Але, перачытаўшы адзін твор, другі… я ўбачыў, што яны вельмі далёкія ад арыгіналу і, у дадатак, напісаныя кепскай мовай. У прынцыпе, чаго можна чакаць ад прыватнага выдавецтва, якое штампуе гэтыя кніжунькі адну за другой шматтысячнымі накладамі і пра якасць тэкста мае толькі аддаленыя ўяўленні? Купляць іншыя кніжкі такога ж кшталту — шкада грошай, да «дарослага» тэкста малятка яшчэ не дарасло, таму застаюцца мультфільмы. На гэтым і спыніліся.

Ці трэба дадаваць, што ўжо праз некалькі дзён мы ледзь не ванітавалі ад гэтай стужкі? Не, спачатку мне вельмі спадабаўся нямецкі маляваны мульт 1989 года. Усё астатняе, што я час ад часу знаходзіў у сеціве, каб хоць ненадоўга пераключыцца на іншую карцінку, было, на мой погляд, горшым ад першага. Вядома, любы твор мастацтва, нават вельмі якасны — карціна, верш, песня, пэўная мелодыя, спектакль — ператвараецца ў вельмі кепскі, калі глядзіш, бачыш, чуеш яго ў дзве тысячы першы раз. Тое самае было і ў нашым выпадку.

Але аднойчы, відаць, у дзве тысячы сто пяты раз для мяне адкрыліся нейкія іншыя грані гэтай казкі, я паглядзеў на яе з другога, нерамантычнага боку. Па сутнасці, галоўны герой, Якаб, ён жа насаты карузлік, павінен быць удзячным той бабцы, феі Кротэрвайс. Па-першае, ён сам вінаваты ў тым, што раззлаваў старую чараўніцу. Ці ветліва гэта з боку прадаўца абражаць пакупніка, якога ты бачыш упершыню, хай бы ён і быў табе тысячу разоў несімпатычны? Хто ў цябе будзе што купляць, калі ты хам і задзіраеш нос? Да таго ж… жанчына старая і заслугоўвае павагі хаця б з гэтае прычыны. На пачатку аповеду сказана, што шавец і ягоная жонка Ганна жылі вельмі бедна, хоць тая і гандлявала на рынку з раніцы да вечара. Значыць, ахвочых што-небудзь у яе набыць было не надта многа. А хлопчык, які вельмі падабаўся багатым пакупнікам і атрымліваў ад іх добрыя падарункі за паслугі, відаць, заганарыўся, разбэсціўся і ў выніку атрымаў па справе. Але ж разам з тым юнак, дзякуючы такому збегу акалічнасцяў, стаў адмысловым кухарам, гэта значыць: фактычна атрымаў



спецыяльнасць і стабільны высокі заробак. Кім бы ён быў пры мацеры з бацькам? Чыніў бы боты за капейчыны альбо вырошчваў і прадаваў зяляніну? А цяпер — ён галоўны кухар, гатуе самому герцагу! Некаторыя пра гэта мараць усё жыццё. Знаходжанне ў ведзьмавым доме і выпрабаванне, якое пасля выпала на долю Якаба, можна сказаць, зрабіла яго чалавекам, асобай. Цікава, пагадзіўся б сын зеляняркі быць выродлівым і нязграбным, калі б ведаў, што ў перспектыве стане найлепшым у свеце кухарам? Можа і не, але твор не пра гэта, а пра тое, што трэба шанаваць старасць і быць цярплівымі адно да аднаго, не ганарыцца залішне, бо больш страшна быць пачваРай знутры, чым звонку. Невядома, як паводзіўся Якаб пасля таго, як стаў звычайным чалавекам, але мне думаецца, што галоўны ўрок ён засвоіў.

### Херня

— Дык шо табе брацъ, гэ? — у краме каля лядоўні з піражнымі чую тэлефонную размову маладога чалавека, верагодна, з сяброўкай.

— Хер яго знае. Ды тут херапень нейкая ціпа эклераў з нейкай хернёй зверху, — працягвае ён вельмі «змястоўнае» апісанне.

Апрануты хлопец прыстойна і нятанна, выглядае ахайна, а з вуснаў спрэс «херы» і іншая дрэнь. На гэта можна было б не звярнуць увагу, калі б такая лексіка не засмечвала мае вушы штодня.

Не хацелася б падаца звягай і снобам, але апошнім часам гэта стала вельмі муляць слых. Відаць, таму, што гэтыя выразы ўсё часцей можна пачуць з вуснаў абсалютна розных, у тым ліку і інтэлігентных людзей.

А вось прыклад прыватнай размовы двух літаратараў:

— Як маешся?

— Херова.

— А чым цяпер займаешся?

— Х..ней.

Засмечванне мовы — адмета нашай рэчаіснасці. Калі раней малодшыя школьнікі для сур'ёзнасці мацюгаліся направа і налева, каб быць падобнымі да старэйшых, а пасля школы перарасталі гэта, дык цяпер лаянка ў транспарце, на вуліцы, у крамах — нармальная з'ява. Лаюцца афганцы, вайскоўцы, будаўнікі, сантэхнікі, электрыкі — спіс можа быць доўгім. Аднойчы давялося быць сведкам па адной справе і паслухаць, як камунікуюць між сабой следчыя. І я зразумеў, што тут матам гавораць.

А што ў нашых суседзяў? У Польшчы слова «zajebiście» ўжываецца досыць часта і азначае «афігенна» ці нешта такое. Летась быў у Торуні, і на вуліцы мяне перанялі двое маладых людзей, якія рэкламавалі нейкую касметыку ці аптэку, часу ў мяне было дастаткова, і я вырашыў трохі з імі пагутарыць. Пры канцы размовы яны спыталіся, ці праўда, што ў Беларусі і Расіі (для іх гэта штосьці кшталту дзвюхгаловага цмока) слова «zajebiście» непрыстойнае. Я адказаў, што так, — і яны былі вельмі здзіўленыя гэтаму факту. Не кажу пра бясконцыя варыянты слова kurwa, якімі афарбавана тамтэйшая мова. Сёння ў мяне мацнее адчуванне, што неўзабаве мы нагонім суседнюю краіну ў сэнсе ўжывання абсцэннай лексікі.

Калісьці стрыечная бабуля казала так: «Хто ругаецца, дык у таго пад нагамі зямля гарыць». Разам з тым яна не губляла моманту паўшчуваць унукаў моцным слоўцам. Не хочацца быць толькі ў ролі абвінаваўцы, сам грэшны. Не скажу, што не ўжываю брыдкіх слоў, гэта ў наш час проста немагчыма, але людзі, якія падкрэсліваюць, што не ўжываюць мат нават у думках, усё-ткі хітруюць. Для мовы важная ўсякая лексіка, у тым ліку пісьменнік можа ўжываць і лаянку, але робіць гэта эпізадычна, калі гэта неабходна для «поўнай карціны». Але цяпер для таго, каб адлюстраваць сучаснасць, давядзецца мацюгацца часцей і «смачней».

### Астатняе літаратура

Да літаратуры нельга ставіцца ўсур'ёз, дакладней, да сваёй прысутнасці і значнасці ў ёй. Лічыць, што робіш нешта сур'ёзнае, — вельмі кур'ёзна.

### Попка басіцьком

— Лінка, чаму ты без трусікаў?

— Хацу басіцьком, попка басіцьком! — заявіла двухгадовая дачка…

### Прыкрасць

Па просьбе жонкі павалокся ў краму па пракладкі. Падыходжу на касу, перада мной мужыкі бяруць тры пляшкі «Дикой утки», а ў мяне ў руках — о, ганьба! — «Ола», тры кроплі. Наступным разам трэба хоць піва «для прыліку» ўзяць.

### За здароўе

Дажыліся — за сняданнем чаркаемся ўтраіх пластыкоўкамі хто з «Бронхіпрэтам», хто з «Амбраксолам», хто яшчэ з якой трасцай…

### Мора

У сямейным жыцці — як у моры: калі два камяні б'юцца адзін аб адзін, робяцца яны вострымі, шорсткімі, чэрствымі, а калі труцца — атрымліваецца аточак, мяккі, гладзенькі, але ўсё адно — камень застаецца каменем.

* * *

Дзеці геніяльныя ў сваёй непасрэднасці і вынаходлівасці. Сёння Васілінка выйшла на праходку з новым парасончыкам, купленым намі ў Львове. Прыгожы, блакітна-сіні, з марскімі рыбкамі, памерам быў трохі меншы ад яе. Гэта ўскладняла наш рух, бо дзіця не ведала, куды яго падзець, у выніку яна паклала парасон на ходнік і патлумачыла гэта так:

— Каб не ўпаў.

### По

У нас пасяліўся По. Не дух, не партрэт, а самы што ні ёсць жывейшы ад усіх По. Не верыце — прыходзьце, пакуль ён яшчэ тут. Рэч у тым, што тыдзень таму нашыя сябры перад ад'ездам у Ізраіль не ведалі, каму аддаць свайго коціка з паэтычнай і смачнай мянушкай Шпрот. Наша двухгадовая дачка яшчэ не ўмее вымаўляць шыпячыя і санорныя, адпаведна з яе вуснаў імя Шпрот гучыць як По. Сёння яна павіталася з ім: «Пек, По!», што значыць: «Прывітанне, Шпрот!»

Мушу сказаць, што коцік вуркоча нутром, як сапраўдны крумкач з аднайменнага верша амерыканскага класіка. Атрымліваецца штосьці кшталту: «Мор-мор-мор». Амаль як Nevermore. А яшчэ кот умее з'яўляцца нечакана, нібыта з-пад зямлі, а ўлічваючы, што ягоная міса стаіць ля ванна, то ён часцей падае голас менавіта адтуль. Бюста Палады ў нас, на жаль, няма, але яе выдатна замяняе лядоўня з мульціваркай. Шкада, што неўзабаве гэтая гісторыя скончыцца, але мы можам без перабольшвання распавесці ўсім, што ў нашай сям'і, хоць і нядоўга, але жыў самы сапраўдны По.

### Арандатары

На сваёй зямлі мы — заўсёдныя і пажыццёвыя арандатары, як Купалаў бацька, так і мы ўсё жыццё туляемся па найманых кватэрах і кутках нашай неабсяжнай Радзімы…

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 10 (134) | 27 кастрычніка 2017 | № 40 (554) Новы ЧАС



**Калі мне бывае зусім цяжанька і душу высмоктвае хобатам пачвара чорнага страху, пазбаўляе апірышча, мне хочацца прыхінуцца да мамы, каб адчуць, што мы яшчэ абое жывыя. Яшчэ ёсць! Калі я адчую гэта, дык ціхі спакой разліваецца па маіх жылах і здаецца, што мама вось-вось народзіць мяне нанова**

# Кананне мамы



Сяргей РУБЛЕЎСКІ

**Зусім састарэлая, на дзясятым дзясятку гадоў, слабеючая дзень за днём мама — аціхаючая песня пра мяне. Здзіўляюся гэтай песні: няўжо ўсё яшчэ пра мяне? Даўно завучаная і незабыўная...**

***

Калісьці я напісаў вось гэты абразок:

«...І тады я ўспомніў Такубоку: дзеля жарту маці на спіну сваю пасадзіў, але такой яна была лёгкай, што я не мог без слёз і трох крокаў прайсці.

А ўсяго і здарылася: матуля наступіла на хвост нашага шэрага катка, які, улагоджаны пачастункам, усеўся на шырокай маснічыне пасярод трысцену. І коцік заенчыў, але неяк ацішана, не так адчайна, як патрапіць яго хвост пад мой абцас ці калі трапляў пад бацькаў...

– Я, сынок, заўважыла, — гаворыць маці, — што і вада ў лазні да мяне ўжо не прыліпае».

Мінула колькі гадоў, і літаратурнае прымерванне выявілася з новай сілай. Сёння ў маёй мамы ўжо не стае моцы, каб хадзіць. Нават сядзець ёй цяжка, абапіраецца лакцямі на ложку. Каб усё ж пасядзела якую гадзінку, усаджваю яе ў глыбокі фатэльчык, прыстаўлены да ложка. А тады ўзнімаю з фатэля зноў паляжаць...

І мне цяжка, дужа цяжка, што і кроку не магу ступіць...

***

Мне ніколі не трэба будзіць раніцай маму, бо калі ні зайду ў яе пакойчык, яна не спіць. І ноччу, калі ні зайду, каб паправіць коўдру, яна ніколі не спіць. А калі спіць — не ведаю, мусіць, непрыкметнымі ўрывачкамі. А можа, маці проста так хуценька абуджаецца, калі ўваходжу, і ўзіраецца ў мяне сваімі сумнымі вачыма. Можа, думае, што ўвайшоў не я, а яна, тая, што прыходзіць усяго адзін раз у жыцці і ў якой няма імя, адна толькі прыкрая назва...

***

Цяпер мама, мусіць, і сны свае пераглядвае ўрывачкамі. Раней, бывала, прачнецца дый кажа: «А-я-яй, усю дзярэўню сваю перагледзела, з усімі пабачылася...». А цяпер не пачуеш такога. Можа, палову «дзярэўні» бачыць, можа, толькі суседзяў блізкіх.

***

Маму перавёз я да сябе ў горад шэсць гадоў таму.

Напачатку, узяўшы падручкі, выводзіў яе на двор на невялікія прагулянкі. Прыдбаў для яе кавеньку, каб лягчэй было хадзіць...

А цяпер гэтая кавенька нерухома стаіць у кутку каля ложка. Гляну — і галава гудзе ад прыкрай перамены, што з мамай адбылася.

Якая гэта тужлівая рэч — незапатрабаваная кавенька. Надта тужлівая.

***

Калі я абуваю маму ў спецыяльна купленыя цёплыя дамашнія барлёшы, яна абавязкова пастукае нага аб нагу. Ні то пераконваецца, што ногі цэлыя, ні то сведчыць аб гатоўнасці да вялікага паходу. І так штодзень. Непазбыўная звычка.

А мне і весялей на душы, калі бачу, як мама падбадзёрвае сябе — і міжволі сам трохі падбадзёрваюся. Зусім трохі.

***

Апранаючы маму, больш за ўсё люблю завязваць ёй свежую хусцінку: накрываць ёю галаву, а тады, загінаючы вялікімі пальцамі краі рагоў, абцісказь імі тварык, абкружваць шыю і завязваць рагі са спіны невялічкім, але даволі цесным вузельчыкам. Мама адразу робіцца зграбнай, нібы падпераэалася, і больш прыгожай. Вось жа ўвобміг я зрабіў яе прыязнай беларускай. І нават трошкі, зусім-зусім трошкі — беларускай дзяўчынкаю.

***

Калі я забраў маму ў горад, думаў, што цяпер пацешу маю даражэнькую ласункамі, прысмакамі, разнастайнай ежай, якой ёй не ставала ў вёсцы. І нічога ў мяне не атрымалася. Бананы, напрыклад, мама зусім не палюбіла і калі-нікалі з'ядала заморскі плод амаль што цераз сілу.

Для мамы смаката — бульбачка. Праз яе я ўвачавідкі пераканаўся, наколькі гэта культавы для беларусаў прадукт. А я ж вару яе для матулі так, як варыла яна мне ў дзяцінстве. Адно што не ў грубцы, не ў саганку і адпаведна без духмяных прыгарачак верхніх бульбін ад полымя. А ўсё астатняе — як у нас заведзена! З невялічкай цыбулінкай, з усыпаным у кіпень шчодрым нюшком кмену, а то і куды больш сыпану... Кменам смак не сапсуеш!

Падсыпаў я аднойчы кмен у кіпень і жагнула мяне згадка: а гэты ж кмен яшчэ з мамінага даўнейшага збору! Анягож! Бывала, мая нястомная руплівіца торбачкамі нам яго перадавала. Дык і знайшоўся! Кмен не псуецца з гадамі.

Помню, як купляючы на рынку цыбулю, я вазьмі ды скажы пад руку маладзіцы: «А мне і добра, што вашая цыбуля драбнаватая, лацвей бульбу прыпраўляць будзе». Жанчына здзівілася: «А хіба яе дабаўляюць у вараную бульбу?» «Натуральна. Адну цыбулінку. А вы, мусіць, не беларуска, калі не ведаеце». «Напалову, — адказала прадаўшчыца. — Тата ў мяне рускі, доўга на яго радзіме жыла. Паспрабую ваш рэцэпт».

Калі я кажу маці, што паставіў варыць бульбу, вочкі яе ясняцца маладым васільковым святлом, а ў ім — цёплая радасць.

Вось які ён, беларускі нацыяналізм!

***

Іншы раз я засярдую, зазлую і трохі ўзвышу голас на маму. Напрыклад, калі яна залішне доўга пережоўвае ежу, а я спяшаюся... Жонка ўчуе і сарамаціць мяне пачынае. Ой, нялюба! Тут і сам ужо апамятаўся, прыкрасцю сэрца перапоўніў, а яшчэ яна...

Нядаўна перакладаў на беларускую мову адну духоўную кніжачку і сустракаўся з айцом Аляксандрам, каб ён патлумачыў мне некаторыя выразы малітваў, што на царкоўна-славянскай мове. Калі разгаварыўся з айцом пра жыццё, дык дазнаўся, што і яму ў свой час давялося, як мне сёння маці, даглядаць сваю нямоглую бабулю. «Не заўсёды я годна выконваў свой абавязак, іншы раз засярдую, занерваюся і такім нікчэмным раблюся... Даруй мне, Госпадзі...»

І тады я, напоўнены ўражаннем ад кнігі пра жыццё манахаў, каб хоць трошкі прынізіць сваю вінаватасць, падумаў выратавальна, што гэта мяне бесы круцілі... Але на якое імгненне падумаў. Ні кропелькі няма мне даравання і за імгненне злоснага настрою перад маці! Кусай сябе балюча за рукі, язык прыкусвай! Хоць мама і даравала табе адразу, у той жа момант. Яшчэ балючэй кусай!

***

З першага дня жыцця ў горадзе мама ніводнага разу ні аб чым мяне не папрасіла, не паклікала мяне, вымаўляючы найлепш за ўсіх імя Сярожа... Ведаю, не хоча лішні раз дакучаць. А так хочацца, каб паклікала... «Маўчыць камяньком», як сама аднойчы сказала. Усё адно як лічыць, што дужа глыбокую старасць лепш перамаўчаць.

***

Бывае, мама раз-пораз пачынае дзякаваць мне, часцей, чым звычайна. Канфеціну дасі — дзякуй, ногі пледам накрыеш — дзякуй... Міжволі згадваеш незабыўнае выслоўе бабулі Праскоўі, мамінай маці: «Ай, бяжы здароў, унучак, сваім родным «дзякуй» не кажуць». Яно і праўда: мамін дзякуй трошкі астуджае паветра, здаецца зусім недарэчным.

– Не дзякуй мне, мама!

А яна ўсё адно дзякуе. Неслухмяніца.

***

У свае познія гадочкі мама захавала даволі тонкае пачуццё гумару. На гумар яна рэагуе лёгенькай стрыманай усмешкай, а ў мяне ўсё адно душа радуецца. Калі чалавек у добрым гуморы, дык і смерць трошкі аддаляецца.

Гумар і боль — вечна маладыя пачуцці.

***

Мама да нядаўняга часу карміла мяне, як немаўлятку — з кужэльнага ражка, напханага салодкім мякішам. Салодкім мякішам свежых, сагрэтых цеплынёй мамінага дыхання беларускіх слоў. Але апошнім часам яна маўчыць, як перад дальняй дарогай.

Канае мама — канае мова.

***

Сёлета на Вялікдзень засталіся з мамай удваіх у хаце — жонка з'ехала ў Мінск да малодшай дачкі. Праўда, перад ад'ездам яна, традыцыйна выкарыстоўваючы шалупінне цыбулі, пафарбавала ў помны з дзяцінства колер колькі яек.

І вось надыход свята паглынальна накрыў нас з мамай вялізнай хваляй абяцанай радасці. Я схадзіў у самую старажытную ў Віцебску Дабравешчанскую царкву і пасвяціў падрыхтаваныя яйкі. Назаўтра ранічкай зладзіў каля мамінага ложка імправізаваны Вялікодны стол. А каб быць у святле промняў нязгаснай Хрыстовай славы, паставіў тут жа і прынесены з чырвонага кута абраз Божай маці. Узняў, апрануў маму, схадзіў у лазенку, намачыў ручнік і выцер ёй тварык. А тады з лёгкага, невядома як імгнення ўзніклага памкнення выцер, асвяжыў шкло прынесенага абраза. І хоць стараўся зусім не бачыць у гэтым якой-кольвечы сакральнай дзеі, якой-кольвечы асацыятыўнай знітаванасці, тым не менш, міжволі ўбачыў. І не сумеўся, на душы маёй стала, як ніколі, лёгка. Світанкава.

***

Калі мне бывае зусім цяжанька і душу высмоктвае хобатам пачвара чорнага страху, пазбаўляе апірышча, мне хочацца прыхінуцца да мамы, каб адчуць, што мы яшчэ абое жывыя. Яшчэ ёсць!

Калі я адчую гэта, дык ціхі спакой разліваецца па маіх жылах і здаецца, што мама вось-вось народзіць мяне нанова.

Гэты спакой і ёсць цудадзейнае нараджэнне!

А нованароджаныя і іх парадзіхі не памятаюць адразу...

У нас ёсць яшчэ колькі імгненняў!

# Крышталічныя структуры Тумаса Транстромера

**Навошта паэзія? Паэзія — гэта мармытанне. Тое, што прамаўляецца сам-насам. Здзіўленае назіранне, якое ў момант свайго здзіву і прамаўлення не шукае слухача. Паэзія неабавязковая, бо ненадзённая, непрагматычная.**



Спакойны голас Тумаса Транстромера здзіўляе, загойдвае і закалыхвае беларускую мовaю (праца Уладзіміра Арлова, Алесі Башарымавай, Андрэя Хадановіча і Лявона Баршчэўскага). Выбранае нобелеўскага лаўрэата — the best of the best і must have, як гэта маглі б назваць маркетолагі, калі б паняцце «беларускі кніжны рынак» было крыху больш рэальным. Насамрэч, гэтая кніга — тое, што мусіла здарыцца ў нашым культурным полі.

Праз Транстромера можна спазнаць Швецыю. Здаецца, прыедзеш упершыню — і адчуеш, згадаеш атмасферу гэтых пейзажаў: подых мора, халоднае паветра, вельмі шмат сіняга. Прыродны свет у вершах Транстромера дзеліцца па гарызанталі — ад нябёсаў да прадоння. І ў ім — птушкі, людзі, багі. Іерархія тут не працуе. Краявіды Транстромера — як некалькі слаёў фотастужкі, накладзеныя адзін на адзін: праступае невідавочнае. Паэт піша не банальны пейзаж, але паветра гэтага пейзажу, яго дыханне, а разам з тым дрыготкі фон чалавечага жыцця: прыглушаныя стогны і ўскрыкі.

«Той, хто малюе на паўдарозе карціну, едучы ў ёй», — найдакладнейшыя вызначэнні паэзіі Транстромера можна знайсці ў ёй самой. Ён піша тое, што тут і цяпер рухаецца, цячэ, змяняецца: «Мы стаялі пад дрэвам, адчуваючы, як час ападае і ападае». Карціна, схопленая ў самых дакладных і нечаканых вобразах, змяніцца, як толькі будзе пастаўленая кропка. Паветра дрыжыць, патэнцыя да змянення закладзеная паміж радкоў.

Праз Транстромера можна спазнаць сябе.

Яго паэзія чыстая. Не толькі ў тым сэнсе, што нагадвае ідэальна падабраныя адна да адной крышталічныя структуры. І не толькі таму, што дакладна адпавядае ўласным жа радкам: «...ніякіх шырокіх жэстаў і непатрэбнай рыторыкі. Так, менавіта: рыторыка тут немагчымая». Самае дзівоснае — гэта тое, як яму атрымліваецца прыбраць, выключыць усе вонкавыя шумы, пісаць свет прыроды і культуры, у якім няма лішняга. Сутнасць нічым не зацемненая.

Пры гэтым Транстромер не апалітычны. Ён чуе «здушаны гвалт», бачыць боль і несправядлівасць. Яго паэзія ціхая, але ў ёй напоўніцу вірue, дзеіць жыццё. У ёй поўна культурных кодаў, многа музыкі, — мастацтва, для Транстромера важнага і гаючага, ачышчальнага. Разам з тым у ёй мала асобы аўтара.

У нейкіх прыватных і ўнікальных сваёй прыватнасцю гісторыях Транстромер сам сабе як аб'ект не надта і цікавы. Яго рэфлексія сыходзіць на ўсё большую і большую глыбіню. Падаецца, галоўнае ўменне (і чараўніцтва) Транстромера — растварыцца ў прасторы і часе, адчуваць іх у той жа меры, што і сябе. Быць чалавекам наогул, быць універсаліям. Ён шукае, як уладкаваны свет, як уладкаваны чалавек. І знаходзіць для чалавека самыя суцяшальныя словы.

*Не саромся, што ты чалавек –*
*ганарыся тым!*
*Унутры цябе скляпенне над скляпеннем,*
*і няма ім канца.*
*Цябе не скончаць ніколі,*
*і гэта слушна.*

Прыкладна так заходзіш у верш Тумаса Транстромера — як пад галавакружныя скляпенні, якія не заканчваюцца.

Паэзія неабавязковая, але хто яшчэ нагадае, што ўсё ў аснове сваёй нязменна: недзе абавязкова граюць Шуберта.

**Алена Карп**

# «Нарвежскі вецер»

**Новы нумар беларускага электроннага часопіса перакладной літаратуры «ПрайдзіСвет» незвычайны.**

Па-першае, большасць перакладных тэкстаў у ім — празаічныя творы (ці хутчэй урыўкі з твораў) сучасных аўтараў, па-другое, яны былі адмыслова абраныя дзеля гэтага нумара нарвежскім выдаўцом і рэдактарам




Крысціянам К'ельструпам і перакладзеныя Лідыяй Ёхансэн. Але таксама ў нумары гучыць паэзія Лінды Клакен (пераклад Вольгі Гапеевай), эсэістыка сусветнай зоркі літаратуры Карла Увэ Кнаўсгара (пераклад Ганны Макаравай). Знайшлося ў нумары месца і старажытнай скандынаўскай літаратуры: урывак са «Старэйшай Эды» пераствараў Ігар Кулікоў, а класічная літаратура прадстаўленая вершамі Сігб'ёрна Обстфэльдэра (пераклад Лявона Баршчэўскага). Гэта творы, розныя па жанрах, змесце, закранутых тэмах і, натуральна, па стылі, аднак усе яны разам ствараюць своеасаблівы калейдаскоп нарвежскай літаратуры...

У нумары падрыхтаваная не толькі цікавая і разнастайная літаратурна-мастацкая частка, але і крытычная. Пісьменнік Ян Руар Лейквол, чые кнігі і сталі штуршком да стварэння «нарвежскага» нумара «ПрайдзіСвета», у перакладным інтэрв'ю 2012 года дзеліцца сваім бачаннем літаратуры і ролі пісьменніка. Ганна Янкута аналізуе дзве кнігі сучасных нарвежскіх пісьменнікаў, якія нядаўна выйшлі па-беларуску. Гэта «Сафіін свет» Юстэйна Гордэра і «23-я палата» Інгвара Амб'ёрсэна. У жанры мастацкага эсэ Альгерд Бахарэвіч разглядае жыццё нарвежскага набеліята Кнута Гамсуна і ягоны раман «Голад», а таксама рэфлексуе з нагоды кнігі «Мая барацьба» Карла Увэ Кнаўсгара. Літаратуразнаўчыя артыкулы Марыны Казлоўскай і Наталлі Ламекі прысвечаны самым яскравым прадстаўнікам нарвежскай драмы (Генрык Ібсэн) і жывапісу (Эвард Мунк).

І па-за тэмай нумара публікуюцца самыя цікавыя пераклады фіналістаў конкурсу Саюза беларускіх пісьменнікаў «Экслібрыс». Аўтары, да якіх звярнуліся маладыя перакладчыкі і перакладчыцы, — Кларк Эштан Сміт, Аксана Забужка, Фланэры О'Конар, Джэром Клапка Джэром ды іншыя.

# Выйсці на святло: праект рэвалюцыі ў літаратуры

**Адусюль мы чуем стогны, што наша кніга не прадаецца. «Наблатыканыя» расійскімі выдавецтвамі раскідваюць пальцы і кажуць, што вы, маўляў, не ўмееце «работаць». А мы, маўляў, умеем (па-руску пісаць) і зграбаем рыдлёўкай недаедзеныя кавалкі пірага.**

Грошы робяцца маркёрам якасці якога б там ні было культурнага праекту: калі не разнёсся ён па ўсіх кутах, не дастаў рэкламы і трафіку ды што там далей яшчэ ў англамоўных падручніках патрабуецца, то — лузэр.

Як на маё гледзішча, у гэтай крытыцы ёсць пара прапушчаных звенняў. Як ёсць і пара фатальных грабляў, уцепленых ілбамі дзеячаў найноўшай беларускай кнігі.

Калі беларуская літаратура не прадаецца, то гэта не заўжды правіна самой літаратуры.

Бо яна і сітуацыя на рынку — не адно і тое ж. Дасягненні літаратуры і кніжны рынак у Беларусі не супадаюць. Ківаць тут на Расію, Украіну ці Літву не выпадае: ва ўсіх нашых суседзяў пабудаваныя нацыянальныя дзяржавы з выразным акцэнтам на мову тытульнай нацыі. Праца па захаванні мовы і перадача яе ад пакалення да пакалення вялася стагоддзямі, таму пры распадзе СССР у нашых суседзяў не ўзнікла моцных праблем з адукацыяй, культурай, увогуле інфармацыйным полем на роднай мове. І, зразумела, з кнігай.

У Беларусі ж да нядаўняга часу на кнігу можна было глядзець як ледзь не на адзіную магчымасць бяспечна выказацца на роднай мове ў прынцыпе. Усё астатняе — адукацыя, СМІ, чынавенства, паўсядзённае жыццё горада, бальніцы, заводы, крамы, бог ведама што яшчэ, — усё функцыянавала і функцыянуе па-руску. То бок звычайная функцыя кнігі — быць адным з інструментаў культуры — абцяжарвалася гарой іншых абавязкаў. Літаратура была абавязаная несці адукацыйную функцыю (пры амёбнасці нацыянальнай адукацыі), распрацоўваць нацыянальную ідэю (пры амёбнасці нацыянальнай палітыкі) і хто ведае што рабіць, каб у беларусаў, з іх інерцыйнай прагай самазнішчэння, заставаўся хоць нейкі шанец на выжыванне.

Дык вось, выжыванне і рынак, — гэта, як кажуць, дзве вялікія розніцы. Безумоўна, і ў часы Купалы ды Багдановіча, сто гадоў таму, у імперыі быў някепскі кніжны рынак, і хтосьці з аўтараў вельмі някепска на ім «шубуршаў» асігнацыямі. Але нашыя пісьменнікі абралі беларускую мову з поўным разуменнем таго, на што яны ідуць. Гэта быў іх уласны праект Ultimate Survival, гульня на прарыў і выжыванне, дзе яны зрабілі ўсё, на што было ў іх моцы. Тую самую працу рабілі суседзі — вырываліся з абдымкаў імперыі. Перадапошняй была Украіна, дзе цяпер адбываецца сапраўдны кніжны бум ды ідзе зусім рэальная вайна.

Апошнія ў спісе — беларусы.

Праблема з беларускай кнігай сёння такая, што варта гаварыць менавіта пра выжыванне.

З улікам таго, наколькі прасунуліся сусветныя інфармацыйныя тэхналогіі, метады вядзення інфармацыйнай вайны і кніжныя рынкі суседзяў, сітуацыя (тут сферы статыстыкі) вельмі нагадвае «нашаніўскую» стогадовай даўніны. Абцяжарваюць і пагаршаюць сітуацыю цэнзурныя ды ідэалагічныя рагаткі ўлады, якая па-ранейшаму вельмі цьмяна ўяўляе важнасць папулярызацыі сваёй культуры, літаратуры, кнігі ды скіраваная на тое, каб выдаіць як найболей грошай з усіх, хто толькі трапляецца на яе шляху.

Таму ў першым набліжэнні бачыцца толькі мат. Маю на ўвазе шахматы, але шмат хто з аўтараў дадаў бы й няшахматнага. Законы кніжнага рынку, якія мы чытаем у перакладных падручніках, пад гэтымі белымі крыламі не дзейнічаюць. Няма нармальнага моўнага асяроддзя, нармальнай раскруткі, распаўсюду, школьных і ўніверсіх праграм, магчымасці свабодна выступіць па ўсёй тэрыторыі краіны, няма зацікаўленасці ў табе, аўтару, наогул. Па вялікім рахунку, застаецца толькі напіцца і ўтапіцца (please, don't try this at home).

Такім чынам, кніжка прабіваецца сёння як дзьмухавец праз асфальт. Каб з рынкам стала ўсё як у суседзяў, нашай літарацкай супольнасці трэба дзяўбсці адразу некалькі сценадначасова. І прыняць некалькі базавых пастулатаў, якія «паляпшаюць жыццё» і маральна-псіхалагічны клімат.

1. Кніжнага рынку для беларускага літаратара пакуль няма — таму ніякіх комплексаў з прычыны таго, што не маеш 10 000 тыражу, быць не павінна ў прынцыпе.
2. Не трэба чакаць заробку, прыбытку і часу, калі можна будзе жыць з продажу ўласных кніг. Можна выдаткаваць мора энергіі і часу на гэта, захраснуць у самаедстве, а лепей было б адвесці ўвесь гэты каштоўны рэсурс на нешта больш карыснае.
3. «Забіць» на снабізм і пашыраць як мага бясплатны доступ да ўласнай творчасці шырокаму колу чытачоў праз інтэрнэт. Неабходная літаратурная ірыгацыя, каб спрасціць шляхі твораў да чытача.
4. Дамагацца сталага пранікнення беларусаў у сусветныя (еўрапейскія) праграмы падтрымкі літаратараў (стыпендыі, курсы, конкурсы, літаратурныя рэзідэнцыі). Такім чынам, выбрацца з фатальнага мінусу, спрабуючы надрукаваць, а потым прадаць сваю кнігу.

Найбольш неабходным і наспелым мне асабіста бачыцца з'яўленне пляцоўкі для бясплатнага чытання твораў беларускай літаратуры ў электронным фармаце. Грошы і энергія, якія ўбуханыя ў напісанне і выданне, груба кажучы, пяці раманаў, вам могуць вярнуцца толькі адным спосабам: калі вашыя творы стануць «бачнымі» для ўсіх. Калі раманы, выдадзеныя ў трохстах асобніках дзесяць гадоў таму і зніклыя з кнігарняў, будуць знаходзіцца на адлегласці аднаго кліка «мышкай», а не ў запасніках Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Гэтак яны найхутчэй пераедуць у бібліятэкі электронных чыталак, а значыць — выйдуць з ценю на святло.

Там, на святле, хай сабе і няяркім, гаварыць з імперыяй можна будзе па-іншаму. Але заставацца далей зацінутым пад венік — да смерці падобна.

**Ціхан Чарнякевіч**




# Букер-2017

**Лаўрэатам Букераўскай прэміі 2017 года, якая прысуджаецца ў галіне літаратуры на англійскай мове, стаў амерыканскі пісьменнік Джордж Сондэрс, які атрымаў узнагароду за свой дэбютны эксперыментальны раман «Лінкальн у бардо». Да гэтага 58-гадовы пісьменнік быў вядомы толькі сваімі зборнікамі футурыстычных апавяданняў і аповесцямі.**

Акрамя Сондэрса на Букераўскую прэмію прэтэндавалі кнігі «4 3 2 1» Пола Остэра, «Гісторыя ваўкоў» Эмілі Фрыдлунд, «Выхад на Захад» Мохсіна Хаміда, «Элмет» Фіёны Мазлей і «Восень» Алі Сміт. Дарэчы, А. Сміт, якая чатыры разы трапляла ў спіс «Букера», называлася фаварытам у гэтым годзе.

Пераможца прэміі «The Man Booker Prize» быў названы на ўрачыстай цырымоніі ў Лондане. Дж. Сондэрс атрымае грашовы прыз у памеры 50 тысячаў фунтаў стэрлінгаў. Ён стаў другім амерыканцам, які атрымаў Букераўскую прэмію. У мінулым годзе пераможцам быў пісьменнік Пол Біцці (з раманам «Распродаж»). Да 2014 года на «Booker» намінаваліся толькі пісьменнікі з Вялікабрытаніі, Ірландыі і краін Брытанскай Садружнасці, але цяпер да разгляду прымаюцца любыя раманы на англійскай мове.

Дзеянне рамана «Лінкальн у бардо» разгортваецца на могілках у 1862 годзе, дзе прэзідэнт ЗША Лінкальн наведвае склеп, у якім знаходзіцца цела яго 11-гадовага сына Вілі, які памёр ад тыфу. На могілках да духу Вілі далучаецца балбатлівая, пярэстая супольнасць зданяў, якія існуюць у прамежкавым стане паміж жыццём і пераражэннем, якое называецца ў будызме бардо.

Упершыню ідэя «Лінкальна ў бардо» з'явілася ў Сондэрса ў канцы 1990-х гадоў, калі ён быў у Вашынгтоне, а стрыечны брат яго жонкі паказаў на склеп і расказаў яму гісторыю пра тое, як Лінкальн наведаў цела сына. У 2012 годзе ён прыступіў да працы над раманам…

# Літаратурны Нобель

**62-гадовы брытанскі пісьменнік японскага паходжання Кадзуо Ісігура стаў лаўрэатам Нобелеўскай прэміі па літаратуры 2017 года. Навіну аб прысуджэнні яму прэміі К. Ісігура палічыў за розыгрыш.**

Рашэнне Нобелеўскага фонда было абвешчана 5 кастрычніка. К. Ісігура стаў дванаццатым брытанскім пісьменнікам, уганараваным Нобелеўскай прэміяй.

У заяве аргкамітэта Нобелеўскай прэміі гаворыцца, што Ісігура «ў сваіх раманах неверагоднай эмацыйнай сілы агаляе бездань, схаваную за нашымі ілюзорнымі ўяўленнямі аб свеце».

Нягледзячы на японскае паходжанне і той факт, што англійская мова для яго няродная, К. Ісігура называюць аўтарам аднаго з самых англескіх раманаў XX стагоддзя, маючы на ўвазе яго самы знакаміты твор — раман «Рэшта дня».

Кадзуо Ісігура нарадзіўся 8 лістапада 1954 года ў Нагасакі. У 1960 годзе яго сям'я эміграваλа ў Англію — бацька будучага пісьменніка быў акіянографам і атрымаў прапанову працаваць у брытанскім Нацыянальным інстытуце акіянаграфіі. Брытанскае грамадзянства Ісігура атрымаў толькі ў 1982 годзе.

У 1978 годзе К. Ісігура атрымаў ступень бакалаўра англійскай мовы і філасофіі ў Кенцкім універсітэце, у 1980 годзе — ступень магістра мастацтваў ва ўніверсітэце Усходняй Англіі.



У маладосці Ісігура марыў стаць музыкам, пісаў песні, выступаў у клубах. Нават пасылаў свае запісы прадзюсарам, але поспехаў на гэтай ніве не набыў. Значна пазней, ужо ў 2000-х, некалькі яго вершаў сталі кампазіцыямі на альбомах джазавай спявачкі Стэйсі Кент.

Першыя апавяданні К. Ісігура апублікаваў у 1981 годзе. У наступным годзе выйшаў яго першы раман «Там, дзе ў смузе пагоркі», пасля якога Ісігура пачалі называць адным з лепшых маладых брытанскіх пісьменнікаў. Другі раман «Мастак невызначага свету» стаў кнігай года ў Вялікабрытаніі. Сюжэты абедзвюх кніг будаваліся на сучаснай гісторыі Японіі — удзеле японцаў у Другой сусветнай вайне і трагедыі Нагасакі.

Трэці і самы знакаміты раман К. Ісігура атрымаўся чыста «брытанскім». Апублікаваны ў 1989 годзе, раман «Рэшта дня» распавядае пра гісторыю ангельскага прыслужніка на фоне сусветнай вайны і ўздыма фашызму. «Рэшта дня» ўганараваная Букераўскай прэміяй, пры тым сябры Букераўскага камітэта прагаласавалі за раман аднагалосна.

Усяго Ісігура напісаў восем раманаў. Акрамя вышэйназваных, гэта «Няўцешныя» (1995), «Калі мы былі сіротамі» (2000), «Не адпускай мяне» (2005),«Накцюрн: 5 гісторый музыкі і наступлення начы»(2009) і«Пахаваны волат» (2015).

Раман «Не адпускай мяне» ўключаны ў спіс 100 лепшых ангельскіх раманаў усіх часоў па версіі часопіса «Тайм». У 2010 годзе па матывах гэтай кнігі амерыканец Марк Раманэк зняў аднайменны фільм.

Кнігі Ісігура перакладзены больш чым на 40 моў.

Як заявіў лаўрэат Нобелеўскай прэміі ў каментары для ВВС, «гэта неверагодны гонар, галоўным чынам таму, што гэта азначае: я іду па слядах найвялікшых аўтараў».

У адным з інтэрв'ю, прысвечаным 50-годдзю пісьменніка, Кадзуо Ісігура казаў, што з узростам ён можа «стаць адным з тых пісьменнікаў, да якіх ставяцца з павагай за тую працу, якую яны зрабілі, калі былі маладымі».

Урачыстая цырымонія ўручэння ўзнагароды пройдзе ў Стакгольме 10 снежня ў дзень смерці Альфрэда Нобеля. Памер прэміі ў 2017 годзе павялічаны да 9 мільёнаў шведскіх крон (1,12 мільёнаў даляраў ЗША).

# «Забіць перасмешніка»?

**Па паведамленні «The Guardian», раман амерыканскай пісьменніцы Харпер Лі «Забіць перасмешніка», які напісаны ў жанры выхавайўчага рамана, выключылі з праграмы 8-га класа сярэдняй школы ў амерыканскім штаце Місісіпі — з прычыны ўжывання слоў, «непрыемных для чытачоў».**




Па інфармацыі выдання «Sun Herald» (са спасылкай на электронны ліст зацікаўленага чытача), у кнізе выкарыстоўваецца слова «нігер», і занепакоеныя бацькі напісалі некалькі лістоў са скаргамі на лексіку рамана.

Раман «Забіць перасмешніка» быў апублікаваны ў 1960 годзе, а ў 1961-м Харпер Лі атрымала за яго Пулітцэраўскую прэмію. У рамане даследуюцца пытанні расізму і правасуддзя ў ЗША, ён уваходзіць у праграму большасці амерыканскіх школ. Але ў той жа час Амерыканская бібліятэчная асацыяцыя адзначыла, што «Забіць перасмешніка» ўваходзіць у спіс кніг, якія часцей за ўсё патрабуюць забараніць або выключыць са школьнай праграмы. Дарэчы, у гэтым жа спісе знаходзяцца: серыя кніг пра Гары Потэра Дж. К. Роўлінг, цыкл Філіпа Пулмана «Цёмныя пачаткі» і «Прыгоды Гекльберы Фіна» Марка Твэна.

# «Ясная Паляна»

**У Вялікім тэатры Масквы прайшла цырымонія ўзнагароджання пераможцаў літаратурнай прэміі «Ясная Паляна», якая заснавана музеем-сядзібай Л. М. Талстога і кампаніяй «Samsung Electronics».**

Лаўрэатамі 15-га юбілейнага сезону прэміі сталі Андрэй Рубанаў за кнігу «Патрыёт» у намінацыі «Сучасная руская проза» і фестываль дзіцячай кнігі «ЛитераТула» ў намінацыі «Падзея». Спецыяльны прыз ад «Samsung» «Выбар чытачоў» атрымаў Алег Ермакоў за раман «Песня тунгусаў». Усяго сёлета на прэмію намінавалі 120 твораў, апублікаваных як у выглядзе асобнай кнігі, так і ў літаратурных часопісах.

Лаўрэаты атрымалі па 3 мільёны рублёў, а аўтары, якія ўвайшлі ў кароткі спіс, падзялілі паміж сабой 1 мільён рублёў.

«Мы можам казаць пра тое, што гісторыя прэміі «Ясная Паляна» — гэта гісторыя сучаснай рускай літаратуры… «Ясная Паляна» адважылася ахапіць і ўсю сусветную літаратурную прастору», — адзначыў старшыня журы прэміі, дарадца прэзідэнта Расіі па культуры Уладзімір Талстой.

Лаўрэатам літаратурнай прэміі «Ясная Паляна» ў намінацыі «Замежная літаратура» стаў лацінаамерыканскі пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі Марыё Варгас Льёса. Ён наведаў Расію, дзе і атрымаў прэмію, а таксама прэзентаваў кнігу «Сціплы герой», апублікаваную па-руску выдавецкай групай «Азбука-Аттикус».

Аргкамітэт літаратурнай прэміі «Ясная Паляна» тры гады таму заснаваў новую намінацыю «Замежная літаратура», у якой разглядаюцца самыя важныя кнігі XXI стагоддзя і адзначаюцца іх пераклады на рускую мову.

У 2016 годзе лаўрэатам прэміі стаў Архан Памук за кнігу «Мае дзіўныя думкі», а Апалінарыя Аўруціна атрымала ўзнагароду за яе пераклад.

# Помнік Салжаніцыну

**Саюз маскоўскіх архітэктараў абвесціў творчы конкурс на лепшае архітэктурна-скульптурнае вырашэнне помніка Аляксандру Салжаніцыну.**

Конкурс прымеркаваны да 100-годдзя Нобелеўскага лаўрэата і пройдзе пры падтрымцы і па ініцыятыве Дома рускага замежжа імя Аляксандра Салжаніцына. У ім змогуць прыняць удзел як асобныя скульптары, архітэктары, дызайнеры і мастакі, так і творчыя калектывы.

Лепшую працу абярэ журы, у складзе якога прадстаўнікі Мінкульта Расіі, дэпартамента культуры Масквы, Расійскай акадэміі мастацтваў, Саюза маскоўскіх архітэктараў і члены сям'і Салжаніцына. Пераможцу ўручаць 250 тысяч рублёў і права рэалізаваць свой праект. Аўтарам, якія зоймуць другое і трэцяе месца, дастанецца па 200 і 150 тысяч рублёў адпаведна.

Помнік будзе ўсталяваны на названай у гонар пісьменніка вуліцы ў Маскве.

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# Як слухаць гімн ЗША?

Алег НОВІКАЎ

**Чаму амерыканскія ўлады і грамадскасць надаюць столькі ўвагі кампаніі афраамерыканскіх спартсменаў, якія слухаюць гімн ЗША на адным калене?**


Фота www.FOX2now.com

Адной з галоўных спартовых падзеяў у ЗША ў гэтым месяцы стаў матч паміж камандамі ўніверсітэтаў Гарварду і Паўночнай Караліны, што адбыўся 7 кастрычніка. Прычына агульнанацыянальнай увагі да гульні менш за ўсё звязаная з вынікам сустрэчы. Пра матч у Гарвардзе шмат кажуць і пішуць праз дэмарш так званых cheerleader. Падчас выканання мелодыі гімну ЗША чарнаскурыя дзяўчаты — заўзятары Гарварда, апусціліся на адно калена.

Такім чынам, акцыя, якую запусціў год таму футбаліст Колін Каперник, атрымала новы імпульс. Нагадаем, што ўсё пачалося ў верасні 2016-га, калі Каперник — гулец клубу «San Francisco 49ers» (Сан-Францыска) парушыў традыцыю. Калі на стадыёне пачаў гучаць нацыянальны гімн, ён замест таго, каб стаяць, раптам апусціўся на калена. Гэтым жэстам спартовец хацеў выказаць пратэст супраць парушэння грамадзянскіх правоў афраамерыканцаў. Лічыцца, што на дэмарш яго падштурхнула трагедыя пад Балцімарам, дзе за месяц да таго паліцыя застрэліла 23-гадовую афраамерыканку і ледзь не забіла яе дзіця.

Натуральна, такі рэзананс тлумачыцца роляй, якая адводзіцца гімну ў сімвале веры амерыканскага грамадзяніна. «The Star-Spangled Banner» («Сцяг, усыпаны зоркамі») — нацыянальны гімн ЗША — трэба слухаць не абы як. Падчас выканання гімну ўсе прысутныя павінны стаяць тварам да сцяга, трымаючы правую руку на сэрцы ў знак павагі.

Таму не дзіўна, што пасля першых пратэстаў Капернік пачаў рэгулярна атрымліваць лісты з пагрозамі. На што сам адрасат заявіў: яго гвалтоўная смерць стане доказам справядлівасці ягоных словаў. Частка грамадскасці пачала кампанію супраць футбаліста і яго паслядоўнікаў, называючы такія паводзіны «дурнымі» або «непаважлівымі». Шмат праварадыкальных арганізацый патрабуюць асудзіць спартоўцаў за знявагу нацыянальнай сімволікі. Некаторыя радыёстудыі прыпынялі трансляцыю матчаў, як толькі гульцы пры гуках гімну станавіліся на калена.

Аднак адначасова ў спартоўца з'явілася і шмат прыхільнікаў. На іх думку, акцыя Каперніка — цалкам заканамерная з улікам таго, што латэнтная сегрэгацыя і паліцэйская жорсткасць на адрас афраамерыканцаў застаюцца амерыканскімі рэаліямі. Напрыклад, падпісаўся пад акцыяй спартоўца экс-прэзідэнт Барак Абама, які пабачыў тут толькі абарону сваіх канстытуцыйных правоў.

Клуб фанатаў футбаліста папоўнілі розныя зоркі — Стыў Уандэр, Джыліян Лі Андэрсан, і нават такі дастаткова апалітычны актор, як Дэвід Духоўны.

Прычым, рытуал з гімнам пачалі парушаць не толькі футбалісты. Гэта падхапілі хакеісты, бейсбалісты, баскетбалісты. Флэшмоб падтрымалі белыя спартоўцы, у тым ліку жанчыны.

Сакрэт поспеху акцыі Каперніка выкліканы падабенствам на славуты жэст трох афраамерыканскіх прызёраў на летніх Алімпійскіх гульнях 1968-га ў Мехіка. Стоячы на п'едэстале, падчас выканання нацыянальнага гімна ЗША, яны паднялі кулакі, што азначала лозунг: «Улада чорным!». Выпадак на стадыёне ў Мехіка лічыцца адной з іконаў афраамерыканскага супраціву.


Фота www.static01.nyt.com

Цяжка сказаць, як бы развівалася дыскусія наконт флэшмобу Коліна Каперніка, калі б сваіх пяць капеек не дадаў Дональд Трамп. Яшчэ будучы кандыдатам у прэзідэнты, ён параіў футбалісту змяніць краіну. Каб паказаць Трампу дулю, усе апаненты пачалі салідарызавацца з футбалістам. Праўда, Трамп не змяніў свайго пункту гледжання, і ўжо будучы прэзідэнтам Злучаных Штатаў заклікаў дырэктараў клубаў звальняць тых, хто не жадае слухаць гімн, як гэтага патрабуе Кодэкс пра сцяг.

Пасля падзей на стадыёне ў Гарвардзе скандал вакол гімну перайшоў у новую фазу. На наступны дзень пасля выхадкі заўзятарак віцэ-прэзідэнт Майкл Пенс наведаў матч футбольных камандаў «Indianapolis Colts» і «San Francisco 49ers». Як і трэба было чакаць, перад стартавым свістком некаторыя паўтарылі жэст Каперніка, што прымусіла дзяржаўнага дзячa пакінуць стадыён. Свой сыход Пенс суправадзіў фразай: «Як і Дональд Трамп, я не буду падтрымліваць падзею, якая пагарджае нашымі салдатамі, нашым сцягам або нашым нацыянальным гімнам».

Чым скончыцца незвычайная канфрантацыя, цяжка прагназаваць, у тым ліку і праз радыкалізацыю пазіцый бакоў. Прыхільнікі Каперніка патрабуюць ад Вашынгтона як мінімум пачаць дэбаты наконт новай формулы амерыканскага патрыятызму. Аднак спачатку, на іх думку, Трамп павінен публічна папрасіць прабачэння за ўсе гістарычныя злачынствы белых перад афраамерыканцамі. Наўрад ці Трамп пойдзе на такі крок (гэта азначае зарэкамендаваць сябе слабым у вачах свайго белага выбаршчыка).

Аднак нейкі кампраміс шукаць трэба. Флэшмоб Коліна Каперніка яўна спрыяе фармаванню атмасферы міжрасавай напружанасці, што час ад часу выліваецца ў крывавыя сутычкі. Акрамя таго, як піша прэса, пытанне гімну пастаянна правакуе побытавыя бойкі сярод палітычна палярызаваных заўзятараў, якім пад руку часцяком трапляюцца звычайныя мірныя грамадзяне.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Пакуль Лукашэнка не спяшаецца перанакіроўваць экспарт у расійскія парты, але, як мяркуюць эксперты, поля для манёўру ў яго практычна не засталося, тым больш, што ён збіраецца падпісаць з Расіяй дамову на пастаўкі газу да 2025 года. Пры гэтым Мінск хоча плаціць за газ столькі ж, колькі Смаленская вобласць. Расія гатовая на гэта пайсці, але пры ўмове, што Беларусь будзе карыстацца яе партамі і падпіша адпаведнае пагадненне.

**Najwyższy CZAS! (Польшча)**

Лідар Кампартыі Украіны (Пётр Сіманенка) плануе атрымаць ад Лукашэнкі (кіраўніка Беларусі) асабісты дазвол на ўдзел яго і сваякоў у камерцыйных схемах ААТ «Раснафта» і ЗАТ «Беларуская нафтавая кампанія» (БНК), якія яны ажыццяўляюць на тэрыторыі Украіны. Украінскі палітык мае намер матываваць сваю ініцыятыву неабходнасцю фінансавага забеспячэння КПУ, падкантрольнай ёй партыі «Новая дзяржава», а таксама акцэнтаваць увагу кіраўніка Беларусі на падтрымцы з боку КПУ яго палітыка-эканамічнага курсу.

**24.ua (Украіна)**

Саміт «Усходняга партнёрства», відома ж, — важнейшы рубеж. Гэта значыць, Лукашэнка прыязджае ў Брусэль, дзе выходзіць на прамыя кантакты з лідарамі Захаду, што дазволіць яму сфармаваць новыя пазіцыі. Праблема ў тым, каб правесці гэты геапалітычны разварот на Захад, не закранаючы інтарэсы Расіі. Але тут у яго нічога не атрымліваецца — Лукашэнка мае вельмі своеасаблівую харызму з негатыўным адценнем і ў Расіі, і за мяжой, на тым жа Захадзе.

**ИА REGNUM (Расія)**

Урад унёс свае прапановы ў заканадаўства аб масавых мерапрыемствах (...) Эксперты перакананыя, што падкручыць і без таго моцна закручаныя гайкі свабоднага волевыяўлення ўлада вырашыла пасля вясновых акцый пратэсту. Праўда, практыка паказвае, што пратэстнага патэнцыялу ў беларусаў фактычна няма. На нядаўнюю акцыю «Марш абураных беларусаў», якая адбылася ў мінулую суботу, прыйшлі палітыкі і грамадскія актывісты. Шараговы абывацель на заклік не паддаўся. Улады, тым не менш, вырашылі прыняць дадатковыя меры засцярогі.

**«Независимая газета» (Расія)**

Канчатковае рашэнне Мінска пра пастаўкі Азербайджану сістэмы «Паланэз» будзе залежаць і ад пазіцыі Масквы — усё ж такі партнёры па Саюзнай дзяржаве, па АДКБ. Акрамя таго, у Масквы вельмі моцныя эканамічныя рычагі ціску. Але згубіць твар перад Азербайджанам і паказаць сваю залежнасць ад Масквы Лукашэнка наўрад ці захоча. І потым, у Беларусі і Азербайджана даўнія цёплыя адносіны. (...) Адначасова Лукашэнку не падабаецца палітычная чахарда ў Арменіі, наяўнасць там розных палітычных плыняў, некаторыя з якіх маюць празаходні характар. Улада ў Азербайджане больш сімпатычная і зразумелая Лукашэнку. Ён арыентуецца на канкрэтных людзей, на даўнія адносіны з імі. А з кім сябраваць у Арменіі, ён пакуль не разумее.

**Aze.az (Азербайджан)**

Некаторыя нацыяналістычныя лідары Беларусі ўжо змянілі сваё стаўленне да Лукашэнкі з рэзка адмоўнага да больш станоўчага. Яны лічаць, што беларускі «бацька» хоць і зло, але ён утрымлівае Беларусь на пэўнай дыстанцыі ад Расіі. У асяроддзі ўмераных беларускіх нацыяналістаў усё часцей гучыць прымаўка: «Лепш на троне Саня, чым на танку рускі Ваня». І ў гэтай сітуацыі само паняцце «Саюзная дзяржава» ўжо ўспрымаецца многімі расіянамі і беларусамі як нейкае дзіва, якое існуе выключна на паперы, а не ў рэальным жыцці. І калі не будзе буйных зрухаў у бок стварэння рэальнай, а не папяровай дзяржавы, дык праз некаторы час любыя размовы і нават згадкі пра існаванне такой фармацыі, як Саюзная Дзяржава Беларусі і Расіі, будуць выклікаць і ў Маскве, і ў Мінску адназначны кагнітыўны дысананс.

**Агентства СЗК (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТАДЖЫКІСТАН. Тэатр і барада

Як вядома, з 2009 года ў Таджыкістане ў межах барацьбы з радыкальным ісламізмам дзейнічае негалосная забарона на нашэнне барады: барадатых мігрантаў здымаюць з авіярэйсаў і затрымліваюць на вуліцах. Адрошчваць бараду дазволена толькі выкладчыкам, старэйшым за 50 гадоў, а яе даўжыня не павінна перавышаць трох сантыметраў. Незвычайны закон нараджае самыя неверагодныя кур'ёзы. Напрыклад, што рабіць акцёрам, якія на сцэне тэатраў выконваюць ролі персанажаў з барадамі? Пытанне набыло большую актуальнасць пасля таго, як 7 кастрычніка ў адным з гарадоў супрацоўнікамі МУС за нашэнне барады былі арыштаваныя трое маладых мужчын — актораў мясцовага тэатру. Аказалася, што яны задзейнічаныя ў п'есе «Смерць ліхвяра» ў ролях герояў, якія носяць бароды. У выніку артыстаў усё ж вырашылі адпусціць, і нават тыя атрымалі даведку, якая дае права насіць бараду. Аднак доўга акторам радавацца не давядзецца: паводле даведкі, індульгенцыя на нашэнне барады для артыстаў скончыцца, як толькі п'есу «Смерць ліхвяра» здымуць з рэпертуару тэатра.

**Паводле таджыкскай прэсы**

### Грузія. Біялагічная вайна з Абхазіяй?

У Абхазіі, напэўна, упершыню за ўсю гісторыю нефармальнай рэспублікі, грузіны, якія патрабуюць вяртання краю ў склад Грузіі перасталі разглядацца як вораг нумар адзін. Гэта месца заняў… клоп. Праўда, гаворка не пра звычайных клапоў, а пра так званых мармуровых клапоў, якія нейкім чынам трапілі сюды з Азіі і актыўна атакуюць мясцовую сельскую гаспадарку. У гэтым годзе, паводле ацэнак спецыялістаў, з-за пражэрлівасці гэтых казюрак Абхазія недалічылася 70% ураджаю арэхаў, аднак пад пагрозай ужо цытрусавыя плантацыі і практычна ўсе сельскагаспадарчыя культуры. І гэта толькі пачатак. Зараз клапы масава накіроўваюцца ў дамы, у сухія і цёплыя месцы, каб перазімаваць. Адзіны пазітыў — Мармуровыя клапы не смокчуць чалавечую кроў. Пакуль улады не прыдумалі эфектыўных сродкаў супраціву. Усе пагаджаюцца, што патрэбныя нейкія хімічныя прэпараты, аднак адкуль іх узяць у беднай краіне? Між тым, хтосьці кажа пра тое, што ў памежным Зугдзіцкім раёне Грузіі працуе лабараторыя, якая магла распрацаваць гэтую біялагічную зброю і выкарыстоўваць яе супраць Абхазіі…

**Паводле абхазскай прэсы**

### УКРАІНА. Шансон супраць ДНР




Як вядома, у Кіеве шансон ледзь не афіцыйна абвешчаны адной з так званых «апораў рускага свету», што мяжуе з сепаратызмам. Аднак высвятляецца, што ўлады Данбаса шансон таксама не паважаюць. На мінулым тыдні ў Данецку планаваўся канцэрт гурта «Воровайки». І мясцовая грамадскасць у сацсетках узнялася на дыбкі: «Няўжо Захарчэнка, Пушылін і іншыя лідары сепаратыстаў будуць вытанцоўваць пад песню «Хоп, мусарок»? Думка пра тое, што згаданыя асобы могуць папросту праігнараваць мерапрыемства, у галовы патрыётаў ДНР чамусьці не прыйшла. Верагодна, любое культурнае мерапрыемства, на іх думку, павінна быць ухваленае і праінспектаванае асабіста кіраўніком рэгіёну і яго бліжэйшым асяроддзем. Вынік — адмена канцэрта. Назіральнікі жартоўна адзначаюць, што пасля выпадку ў Данецку ідэйнай базай для адзінства Украіны можа стаць нелюбоў да шансону. Праўда, кошт гэтага адзінства вельмі вялікі – адсутнасць у палітыкаў пачуцця самаіроніі.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Саксонцы без працы

«Новы час» ужо пісаў, што шмат заходніх немцаў успрынялі як аплявуху вынікі апошніх парламенцкіх выбараў, на якіх жыхары Усходняй Германіі масава галасавалі за правапапулісцкую партыю «Альтэрнатыва для Германіі». Аднак далей за ўсё ў запале абурэння пайшоў адзін з бізнесменаў у Кёльне, які заклікаў калегаў не браць на працу выхадцаў з зямлі Саксонія (менавіта тут «Альтэрнатыва для Германіі» атрымала больш за ўсё галасоў). Свой заклік ён аргументаваў не толькі тым, што рэгіён трэба пакараць за яго палітычны выбар. Аўтар ідэі таксама папярэджвае, што саксонец на прадпрыемстве — гэта гарантаваныя праблемы ў працоўным калектыве, дзе, як правіла, акрамя немцаў працуюць іншаземцы. Нягледзячы на камічнасць заклiку, ужо ёсць інфармацыя, што нейкага саксонца сапраўды не прынялі ў адзін з рэстаранаў Кёльна праз яго саксонскую прапіску. Праўда, той чамусьці не абурыўся, успрыняўшы выпадак як неадэкватнасць дырэктара.

**Паводле нямецкай прэсы**




Фота www.publico.es

# Палымяныя рэакцыянеры

Алег НОВІКАЎ

**Адной з рэакцый на ўздым каталонскага сепаратызму стаў нечаканы рэнесанс іспанскага вялікадзяржаўнага нацыяналізму — Españolismo, што яшчэ больш заблытала ўнутрыпалітычную сітуацыю ў краіне.**

Чым і калі скончыцца каталонскі крызіс, цяжка сказаць, аднак свой унёсак у паліталагічную тэорыю ён ужо зрабіў. На днях каталонскі гісторык Джаан Кула (Joan B. Culla) сфармуляваў закон, згодна з якім нацыяналісты падсілкоўваюць адзін аднаго. Доказ таго — апошнія падзеі ў Іспаніі, калі актывізацыя каталонскага нацыяналізму падштурхоўвае іспанскі нацыяналізм, які, падавалася, ужо цалкам сканаў.

Сапраўды, нават у самых смелых фантазіях адэпты Españolismo не маглі ўявіць такі выбух папулярнасці іх дактрыны. У адказ на незалежніцкія пражэкты каталонцаў простыя іспанцы цяпер вывешваюць на балконах і фасадах дзяржаўныя сцягі, дыджэі на дыскатэках пачынаюць імпрэзы з выканання патрыятычных мелодый, спартоўцы нашываюць дзяржаўную сімволіку на клубныя майкі, муры будынкаў мільгацяць патрыятычнымі графіці. А нейкі тарэадор са сцягам Іспаніі нават выйшаў на арэну біцца з быкамі.

Няма сумневу, што мы назіраем сапраўды народны рух, пра што сведчыць і сацыялогія. Дадатковы драйвер тут — антыкаталонскія забабоны ў бедных рэгіёнах краіны. Заможных каталонцаў успрымаюць як нейкіх паразітаў, якія сядзяць на шыі простага люду.

Аднак ва ўсім гэтым ёсць адзін цікавы нюанс. Фішка ў тым, што ўсе кампаненты сучаснага іспанскага нацыяналізму былі сфармаваныя ў часы дыктатуры Франка. Як следства, называючы сябе іспанскімі патрыётамі, людзі так ці інакш на сімвалічным узроўні рэабілітуюць спадчыну дыктатуры і міжволі заклікаюць да яе рэстаўрацыі.

Няўжо на нашых вачах нараджаецца новая рэдакцыя масавага іспанскага праварадыкальнага руху? Прычым, калі той рух адродзіцца, то вясёлага будзе мала. Іспанская правая традыцыя, напэўна, самая моцная ў Еўропе. На Пірынеях правыя ў свой час карысталіся каласальнай народнай падтрымкай (можна узгадаць рух карлістаў). Яшчэ да таго, як у Еўропу прыйшоў фашызм, Іспанія ўжо мела досвед вайсковай дыктатуры Прыма дэ Рывера. Плюс вельмі кансерватыўны Касцёл дасюль застаецца адным з галоўных інстытутаў іспанскага грамадства.

Асобная тэма — іспанское войска, дзе дасюль паважліва ўзгадваюць спробу групы вайскоўцаў Грамадзянскай гвардыі (аналаг нашых унутраных войскаў) у 1981 годзе захапіць парламент, каб заблакаваць пераход краіны на дэмакратычныя рэйкі. Сцэны 1 кастрычніка 2017-га, калі гвардзейцы збівалі ў Каталоніі ўдзельнікаў рэферэндуму, выклікалі шмат спекуляцый наконт таго, ці сапраўды іспанскія сілавікі лаяльныя да дэмакратычных каштоўнасцяў.

У свой час правы накірунак іспанскай палітыкі ўдалося маргіналізаваць за кошт хітрага ходу пераемнікаў Франка. Чыноўнікі сярэдняга ўзросту, якія не былі асабіста датычныя да злачынстваў Каўдыльё, бачылі сябе часткай еўрапейскай эліты. Ствараны тэхнакратамі на падмурках фашысцкай партыі Фалангі правацэнтрысцкі лагер уключаў у сябе фракцыю ветэранаў і аматараў Франка, аднак вядучай ролі яны ніколі не адыгрывалі.

Дастаткова ўзгадаць, што правыя і каталіцкая царква, якая мае вялікі рэсурс уплыву, не здолелі супрацьстаяць «маральнаму рэлятывізму» ўраду сацыялістаў, які на пачатку стагоддзя прыняў пакет радыкальных рэформаў: даў іспанцам права на скасаванне шлюбу, кабетам — на аборт, заканадаўча гарантаваў гендэрную роўнасць, што ўключае павагу да правоў гомасексуалаў.

Так ці інакш, Іспанія доўгі час была ўнікальнай на фоне суседзяў па Еўропе краінай, якая не ведала феномену масавага праварадыкальнага руху. І вось фантом аўтарытарызму, дзякуючы каталонскаму сепаратызму, на вачах вяртаецца. Прычым, кіруючая краінай «Народная партыя» гэтым разам нацыяналістам асабліва не замінае.

Ілюстрацыяй новых павеваў можа быць поспех праварадыкальнай партыі VOX. Заснаваная ў 2013 годзе партыя, якая раней не набірала больш за 1,5 працэнты, трыумфальна акупіруе правы фланг іспанскай палітыкі. Літаральна за верасень яе рэйтынг узняўся на 18 пунктаў — з 2 да 20 працэнтаў.

Праект VOX можна разглядаць як іспанскі аналаг французскага «Нацыянальнага фронту» Марын Ле Пэн, у праграме якога шмат сацыяльных і ксенафобскіх лозунгаў. Ад кіруючых кансерватараў іх адрозніваюць і свой погляд на правы малых этнасаў Іспаніі. У рэчышчы Франка, спікеры VOX выступаюць за скасаванне нацыянальных аўтаномій. Праграма-мінімум — пазбавіць тых жа каталонцаў і баскаў правоў на сваю сістэму адукацыі і культурную палітыку.

Такая ўстаноўка радыкалаў супярэчыць лініі прэм'ера Марыяна Рахоя, які спадзяецца, што ў выніку датэрміновых выбараў большасць у каталонскім парламенце атрымаюць памяркоўныя партыі, схільныя да дыялогу з Мадрыдам. І гэта яшчэ без уліку таго, што Рахою патрэбная падтрымка сацыялістаў, у якіх свой арыгінальны рэцэпт вырашэння каталонскага пытання: праз федэралізацыю краіны.

Цяжка зразумець, як у Рахоя ва ўмовах радыкалізацыі атрымаецца задаволіць усе капрызы, захаваць манаполію на правы электарат, нармалізаваць сітуацыю ў Каталоніі. Пакуль відавочна толькі тое, што каталонскі крызіс рызыкуе трансфармавацца ў агульнаіспанскі. І няма сумневаў, што яго эскалацыя нададзець яшчэ больш практычных матэрыялаў для вынаходнікаў новых паліталагічных тэорый.

# Назарбаева пстрыкнулі па носе

Алег НОВІКАЎ

**Усе даўно прызвычаіліся, што высокія фразы пра братэрства не перашкаджаюць краінам СНД весці ўзаемныя гандлёвыя і інфармацыйныя войны. Аднак тое, што адбылося ў кастрычніку ў адносінах паміж Казахстанам і Кыргызстанам, выходзіць за межы звыклага.**



Фота www.ria.ru

Не так даўно ў сеціве, прычым на афіцыйным сайце, з'явілася мапа Казахстану з тэрытарыяльнымі прэтэнзіямі да суседзяў. Прынамсі, у склад казахскіх земляў картографы ўключылі расійскія Арэнбург і Омск, частку КНР і нават узбекскую сталіцу — Ташкент. Аднак апошнія падзеі прымушаюць сумнявацца ў патэнцыяле Казахстана выступаць рэгіянальным гегемонам. Нечакана для ўсіх значна больш сціплы суседні Кыргызстан годна адстаяў свой суверэнітэт у канфлікце з Астаной.

Пачалося з таго, што Елбасы без комплексаў пачаў лезці ва ўнутраныя справы Кыргызстана, хіба што не адкрыта сімпатызуючы аднаму з кандыдатаў на выбарах прэзідэнта, якія адбыліся 10 кастрычніка. У адказ прэзідэнт Кыргызстана Алмазбек Атамбаеў адкрытым тэкстам абвінаваціў Астану ў спробе ўмяшання ва ўнутраныя справы суседняй дзяржавы і ў «навязванні» краіне «свайго» чалавека, якога ў дадатак назваў «шасцёркай». Тады ж ён упікнуў і асабіста Назарбаева, нагадаўшы пра салідны ўзрост казахскага гаранта. «У нас самы старэйшы кандыдат у прэзідэнты на 20 гадоў маладзейшы за Назарбаева. А я — на 16 гадоў. Дык каму патрэбны малады прэзідэнт: нам ці Казахстану?» — заявіў Атамбаеў.

Эмацыйныя і недыпламатычныя эскапады Атамбаева накаўтавалі Назарбаеўскую эліту, якая даўно забылася, што такое крытыка. Незадаволенасць на адрас Назарбаева, калі і гучыць, дык выключна ў сацыяльных сетках і з боку Захаду, што нікога асабліва не хвалюе. І раптам у казахскае інфармацыйнае балота ўварваўся Атамбаеў, ад якога проста так не адмахнешся і не пасадзіш, як звычайнага апазіцыянера, на 15 сутак за хуліганства.

Акрамя таго, рэактыўна падтрымала Кыргызстан і мясцовая апазіцыя. «Нязменны прэзідэнт Казахстана выдатна разумее, што ад маленькага Кыргызстана, у якім адбылася першая мірная змена кіраўніка на канкурэнтных выбарах, зыходзіць небяспека для яго ўласнага трону», — пісала блізкае да казахскіх незалежных прафсаюзаў выданне «Социалистическое сопротивление».

Астана адрэагавала па тролінг з Бішкеку. Перш за ўсё, абмежавала рух на мяжы з Кыргызстанам. Унутры Казахстана пачалося цкаванне кыргызаў: за парушэнне «пашпартнага рэжыму» з краіны дэпартавалі ажно 16 тысяч чалавек! Урад Казахстана забараніў пяці заводам Кыргызстана пастаўляць у краіну сваю прадукцыю.

Ва ўнісон шалёную прапагандысцкую кампанію распачаў афіцыёз. Лейтматывам яе стала тэма барацьбы з няякаснай садавінай, якая быццам бы ідзе з Кыргызстану. Усіх пераплюнула газета «Қазақ үні», якая абвінаваціла кыргызаў у тым, што яны ў ХІХ стагоддзі забілі аднаго з казахскіх ханаў. «Хан Кенесары свяшчэнны для кожнага казаха. Апошні хан казахаў, не шкадуючы жывата свайго, змагаўся за незалежнасць Вялікага казахскага стэпу, крывёй і потам адстойваючы свабоду. Як вядома з гісторыі, Кенесары загінуў у бітве ад рук кыргызскіх манапаў, якія затым па-здрадніцку паднеслі галаву хана ў падарунак расійскаму цару», — натхнёна апісваў падзеі аўтар тэксту.

Дасталася і першым асобам Кыргызстана. Іншая афіцыйная газета, «Егемен Казахстан», абурылася тым, што «Алмазбек Атамбаеў абвінаваціў самую блізкую, самаю клапатлівую ў адносінах да кіргізаў дзяржаву». Паводле афіцыёзу, кыргызы абавязаныя Назарбаеву тым, што апошні выратаваў іх ад грамадзянскай вайны. Менавіта пасля перамоў з Назарбаевым у 2010-м зрынуты Бакіеў пагадзіўся выправіцца ў Мінск, замест таго, каб працягваць змагацца за ўладу. Як адзначала «Егемен Казахстан», «толькі за гэта прагрэсіўна думаючыя людзі свету і адкрытыя душой кыргызы павінны дзякаваць Назарбаеву».

Не дзіўна, што некаторыя выданні нават дапускалі магчымасць вайсковых інцыдэнтаў.

Аднак у выніку канфлікт скончыўся гэтак жа хутка, як і пачаўся. На гэтым тыдні мяжу пачалі паступова адкрываць. Верагодна, прымірэнню спрыяў шэраг фактараў. У якасці міратворца магла выступіць Масква, якая заклапочаная перспектывамі агульнай Еўразійскай гандлёвай прасторы. Не выключана, што Атамбаеў сам спалохаўся сваёй смеласці. Напэўна, у экс-прэзідэнта хапае сваіх шкілетаў у шафе, якія, дзякуючы Назарбаеўскім медыя, могуць стаць публічнымі. Нарэшце, выбары, на якіх перамог пратэжэ Атамбаева, прайшлі, а махаць кулакамі пасля бойкі, як вядома, сэнсу няма.

Аднак без наступстваў уся гэтая гісторыя не застанецца. Прынамсі, так мяркуе казахскі праваабаронца Андрэй Грышын. «Гісторыя засведчыла каласальную ментальную дыстанцыю простых казахаў і адміністрацыі Назарбаева. Падавалася, вульгарны нацыяналізм — вельмі зручны інструмент, каб аб'яднаць грамадства вакол рэжыму. Тым больш, што праблемы з імпартам садавіны з Кыргызстана быццам бы на руку мясцовым бізнесменам. Аднак па факце казахі не падтрымалі антыкыргызскай тэму. Калі ў побыце нехта і казаў пра канфлікт, то выключна ў рэчышчы спачування ахвярам новых правілаў памежнага руху. Таксама кепскі знак для Елбасы — пазіцыя нацыяналістычнай інтэлігенцыі, якая засталася ўбаку ад антыкыргызскай кампаніі. Нават абяцанне Назарбаева ўвесці лацінку не прымусіла нацыяналістаў стаць ручнымі», — адзначае Грышын.

«Агулам можна казаць пра тое, што Назарбаева моцна пстрыкнулі па носе. Застаецца чакаць, як адрэагуе на гэта алігархічнае атачэнне прэзідэнта? Ці расцэніць яно ўсё, што адбылося, як нейкую выпадковасць, або зробіць выснову: «Акела прамахнуўся», таму Казахстану трэба новы кіраўнік?» — кажа эксперт.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Джасінда Ардэрн



Фігура прэм'еркі Новай Зеландыі ад Партыі лейбарыстаў выклікала глабальны інтарэс не толькі таму, што кіраўніцы краіны ўсяго 37 гадоў. Джасінда стала прэм'ерам, які мае імідж левага радыкала.

Прычым, падобна на тое, што менавіта дзякуючы радыкалізму яна і перамагла — пасля таго, як тры месяцы таму стала лідарам лейбарыстаў. На той момант рэйтынгі лейбарыстаў былі на гістарычным мінімуме, што прымусіла папярэдняга старшыню падаць у адстаўку.

Як толькі Ардэрн заняла вакантную пасаду, яна стала ахвярай сексісцкіх атак. Правыя журналісты пыталі ў яе: «Вы маладая жанчына, раптам яшчэ народзіце на пасадзе прэм'ера?» Ардэрн трымалася годна: «Гэта справа жанчыны, ці заводзіць ёй дзяцей і калі гэта рабіць». Адначасова лейбарысты заявілі пра намер вярнуцца да старой кейнсіянскай праграмы, што яшчэ больш уразіла экспертаў і натхніла правых. Апошнія нагняталі істэрыю, дастаўшы відэа, дзе Ардэрн кажа слова «таварышы».

Аднак, чым больш крытыкавалі лейбарстаў, тым больш расла іх папулярнасць, яна ўзнялася з 20% да 36% на выбарах 23 верасня. З'явіўся нават тэрмін «джасіндаманія». Аднак палітычныя апаненты Ардэрн — кансерватыўная «Нацыянальная партыя» — усё роўна аказаліся на першым месцы (56 кансерватараў супраць 46 лейбарыстаў). Усё вырашыла невялікая папулісцкая партыя «Новая Зеландыя», якая атрымала ўсяго дзевяць месцаў у парламенце. Маючы «залатую акцыю», яна вырашыла лёс кааліцыйнага пагаднення, падтрымаўшы на мінулым тыдні лейбарыстаў.

Праўда, наўрад ці Ардэрн чакаюць лёгкія часы. Пасля яе першай прамовы ў якасці прэм'ера курс новазеландскага долара пачаў падаць.

### Сі Цзіньпін



Генеральны сакратар Камуністычнай партыі Кітая (КПК) пераабраны на сваю пасаду. Акрамя таго, у рамках з'езда Сі Цзіньпін заявіў, што Кітай бярэ на сябе месіянскую ролю, падобную на тую, якую раней спрабаваў адыгрываць Савецкі Саюз, а цяпер гэта робіць ЗША.

«Цяпер над светам высока лунае вялікі сцяг сацыялізму з кітайскай спецыфікай (…) Гэта азначае, што бесперапыннае развіццё шляху, тэорыі, ладу і культуры сацыялізму з кітайскай спецыфікай адкрыла краінам, якія развіваюцца, новыя шляхі да мадэрнізацыі, прадставіла цалкам новыя альтэрнатывы краінам і нацыям, якія імкнуцца паскорыць сваё развіццё і жадаюць захаваць уласную незалежнасць», — сказаў Цзіньпін. Такога кшталту заявы большасць назіральнікаў адназначна зразумелі як маніфест кітайскага экспансіянізму.

Па сутнасці, база для рэалізацыі падобных планаў ёсць. КНР мае шмат партнёраў у Афрыцы і Азіі. Праўда, тэрміны для рэалізацыі мегапраекту падціскаюць. Паводле няпісаных правілаў, заведзеных праз пару гадоў пасля смерці Маа Цзэдуна, генеральны сакратар кіруе два пяцігадовых тэрміны. Паколькі адну кадэнцыю ў крэсле генсека КНР Цзіньпін ужо адбыў, у яго ўсяго пяць гадоў, каб пабудаваць нейкія падмуркі будучай кітайскай імперыі.

### Ксенія Сабчак



На думку палітолагаў, вылучэнне Сабчак у прэзідэнты Расіі дае нам ключ да разумення фобій Крамля напярэдадні выбараў.

Сабчак пагадзілася вылучацца на пасаду кіраўніка Расіі, мяркуючы па ўсім, не вельмі ахвотна, калі ўлічыць, што спачатку яна сама абвяргала ўцечкі на гэты конт з Адміністрацыі прэзідэнта. Але потым ёй, відавочна, зрабілі «прапанову, ад якой нельга адмовіцца». Адзіная версія адказу на пытанне, навошта Пуціну Сабчак, — праблема яўкі выбаршчыкаў.

Расійскія законы не фіксуюць нейкіх мінімальных парогаў удзелу выбаршчыкаў, каб галасаванне лічылася легітымным. Але тут ёсць другі бок медаля: сумленны падлік яўкі выбаршчыкаў прадэманструе катастрафічны разрыў паміж дзяржавай і народам. Прэзідэнт, якога абралі 10–15% насельніцтва, можа фармальна лічыцца законным кіраўніком дзяржавы, але ніяк не легітымным. Відавочна, што для таго, каб прымусіць людзей пайсці на выбары хаця б у мінімальна неабходнай колькасці, трэба інтрыга. Было неабходна знайсці апанента, барацьба з якім мабілізуе прыхільнікаў Пуціна. Першапачаткова, мабыць, на гэтую ролю планаваўся Аляксей Навальны, але ён імкліва выйшаў за рамкі. Так і з'явілася постаць Сабчак.

# Вялікі тэрор у БССР: шпіёны,

Таццяна ПРОЦЬКА

**Спаўняецца 80 гадоў з пачатку Вялікага тэрору. Паводле падлікаў расійскіх навукоўцаў, толькі расстраляна было не менш за 681 692 чалавекі. Для Беларусі ён быў асабліва страшны.**



У цяперашні час беларускія гісторыкі з рознай ступенню паўнаты і дакладнасці апісалі страты, панесеныя ў развіцці беларускай культуры, у рэлігійным развіцці, страты ваенных кадраў, у палітычнай сферы. Я паспрабую коратка расказаць, як праходзіў Вялікі тэрор у эканоміцы — што было яго галоўнымі прычынамі і асноўным рухавіком.

Гэта зусім не вызначаная тэма, у якой яшчэ не існуе ўстойлівых ацэнак. Уважлівы чытач, спадзяюся, пераканаецца: прычыны эканамічнага недаразвіцця, якія выклікалі рэпрэсіі, — тыя ж, што і зараз, і сам правядзе адпаведныя паралелі з сённяшнімі гучнымі судовымі працэсамі. Бо метады ліквідацыі недаразвіцця і хібаў развіцця аднолькавыя — і зараз, і ў 1937 годзе. Толькі рэпрэсіўныя захады сёння мякчэйшыя.

## Добры цар і дрэнныя выканаўцы

У другой палове 1930-х гадоў барацьба за выкананне запісаных у рашэннях партыйных з'ездаў эканамічных паказчыкаў набыла новыя формы. Паводле звестак спецслужбаў, да верагодных ваенных дзеянняў абароназдольнасць і эканоміка СССР былі падрыхтаваныя горш за верагодных праціўнікаў, планы развіцця народнай гаспадаркі не выконваліся. І хаця ў тагачасных газетах пісалі адваротнае — аднак вышэйшае кіраўніцтва як СССР, так і БССР пра гэта было добра інфармаванае.

Пошук прычын невыканання планаў і эканамічнага недаразвіцця ажыццяўляўся, выходзячы з выказанага Сталіным на з'ездзе ВКП(б) і да цяперашняга часу папулярнага ў вышэйшага кіраўніцтва Беларусі тэзіса: «Кадры вырашаюць усё». У дзеяннях кадраў кіравання і выканання сталі шукаць і знаходзіць тлумачэнні таму, што рэальны сацыялізм у СССР значна адрозніваўся ад тэарэтычнай мадэлі. Паколькі асновай афіцыйнай дзяржаўнай ідэалогіі лічылася абсалютная падтрымка народам рашэнняў вышэйшых партыйных і дзяржаўных органаў, тыя, хто недастаткова актыўна дзейнічаў для ўвасаблення ў жыццё гэтых рашэнняў, аўтаматычна траплялі ў разрад «сацыяльна шкодных элементаў». Іх сталі называць па-новаму — ворагі народа.

Любыя дзеянні або бяздзейнасць не толькі службовых асобаў, але і шараговых работнікаў, калі яны прыводзілі да зрыву ці невыканання планаў, разглядаліся як палітычнае



**Алесь Дудар**

процідзеянне існуючаму ў БССР рэжыму на карысць буржуазных дзяржаў: пераважна Германіі, Польшчы і Японіі.

На ўзроўні разумення падзей простымі людзьмі такая схема ўспрымалася добра: усе, хто не выконвае рашэнні партыі, працуе нядобрасумленна, крадзе, — дзейнічаюць супраць савецкай улады, наносяць ёй шкоду, з'яўляюцца антысаветчыкамі і шкоднікамі.

Сталін выступаў абаронцам развіцця дабрабыту людзей, абаронцам савецкай дзяржавы, лічыўся — амаль афіцыйна — бацькам народа. І сёння, дарэчы, беларускія людзі кажуць: «Што можа зрабіць кіраўнік дзяржавы, калі вакол карупцыянеры і злодзеі?» І таксама паўафіцыйна называюць Лукашэнку «бацькам».

Тагачаснае тлумачэнне масавых арыштаў было наступным: дзеяннямі супраць савецкай улады шкоднікі дапамагаюць буржуазным дзяржавам аслабіць моц СССР-БССР і, у канчатковым выніку, знішчыць іх, стварыць на месцы БССР буржуазную рэспубліку. Шкоднікі і шпіёны маюць аднолькавыя задачы, аднолькавыя мэты і дзейнічаюць аднолькавымі сродкамі. Па вызначэнні, замацаванаму ў свядомасці савецкіх людзей з дапамогай сродкаў масавай інфармацыі і кіно, усе шпіёны з'яўляліся шкоднікамі. І наадварот: усе шкоднікі дзейнічалі ў інтарэсах замежных разведак — то бок, з'яўляліся шпіёнамі. Шпіёнаў, безумоўна, можна і трэба было расстрэльваць.

Важна адзначыць, што спецслужбы, як правіла, не знаходзілі існавання рэальнай разведвальнай агентуры і сувязяў з ёй беларускіх людзей. Дастатковым доказам антысавецкай шпіёнска-шкодніцкай дзейнасці з'яўлялася наяўнасць надзвычайных сітуацый, няшчасных выпадкаў, вытворчых траўмаў, невыкананне вытворчых планаў і заданняў, наяўнасць іншых падстаў, здольных выклікаць масавую незадаволенасць насельніцтва (зрыў забеспячэння таварамі першай неабходнасці, дэфіцыт і гэтак далей).

Як і сёння — толькі з меншым размахам — дзяржава прыцягнула да барацьбы з палітычнай апазіцыяй (у якой з'яўляліся досыць важкія аргументы, звязаныя ў цэлым з нізкім узроўнем жыцця насельніцтва) характэрнае для беларускага менталітэту асуджэнне гультаёў, злодзеяў, дармаедаў. Гэта дазваляла тады — і дазваляе зараз — стрымаць пратэстныя настроі ў грамадстве, накіраваць іх супраць палітычных апанентаў савецкай улады і мабілізаваць людзей на «ўдарную» працу. Цікава, што тагачасныя спецслужбы разглядалі палітычную апазіцыю як аб'яднаную, маючую агульныя мэты.

## Афіцыйная версія рэпрэсій

Для юрыдычнага абгрунтавання масавых рэпрэсій была абрана мадэль існавання ў БССР добра арганізаванай і разгалінаванай нелегальнай антысавецкай арганізацыі. З-за таго, што ў першай палове 1930-х гадоў было «выкрыта» шмат розных саюзаў, цэнтраў, якім следчыя давалі тыя ці іншыя назвы, новую арганізацыю назвалі «аб'яднаным антысавецкім падполлем» (ААП).

Сваю працу па ліквідацыі гэтага падполля ў Беларусі НКУС БССР разгарнуў на аснове дадзеных, атрыманых з Масквы ў сакрэтным лісце «Аб фашысцка-паўстанцкай, шпіёнскай, дыверсійнай, паражэнчай і тэрарыстычнай дзейнасці польскай выведкі ў СССР», накіраваным наркаму НКУС БССР 11 жніўня 1937 года.

Антысавецкае падполле, па версіі следчых НКУС, уяўляла сабой аб'яднанне своечасова не выяўленых чальцоў выкрытых раней контррэвалюцыйных арганізацый і завербаваных імі новых, якія аб'ядналі свае намаганні ў барацьбе супраць савецкай улады. Распрацоўваў і выкрываў падполле 4-ы аддзел УДБ НКУС БССР, кіраваў гэтай працай капітан дзяржбяспекі Васіль Ермалаеў, які раней працаваў начальнікам раённага аддзела НКУС у Лепелі.

Стварэнне антысавецкага падполля ў БССР, па канчатковай версіі следчых, выглядала наступным чынам:

Маўляў, у 1918–1920 гадах, у перыяд акупацыі Беларусі Германіяй і Польшчай, былі сабраны ў адну арганізацыю «нацыяналістычныя буржуазныя элементы», якія ў выпадку адступлення войскаў Пілсудскага павінны былі застацца на тэрыторыі БССР, захапіць кіруючыя пасады ў партыйных і савецкіх арганізацыях для вядзення контррэвалюцыйнай працы і звяржэння савецкай улады. Падчас белапольскай акупацыі была створаная польская паўстанцкая арганізацыя «Польская арганізацыя вайсковая» (ПАВ) пераважна сярод польскага насельніцтва. Цэнтрам антысавецкай дзейнасці падчас акупацыі з'яўляліся Беларуская Народная Рада і яе выканаўчы орган — Беларускі Нацыянальны Камітэт, які ўзначальвалі Прушынскі, Алесь Гарун, Ігнатоўскі і Алексеюк. З дапамогай агента польскай разведкі Шаранговіча былі разгромленыя беларускія партызанскія атрады, якія аказвалі супраціў белапалякам.

Пачатак арганізацыі антысавецкага падполля быў пакладзены стварэннем Беларускай камуністычнай арганізацыі (БКА), якой кіраваў вядомы дзяржаўны дзеяч БССР Вацлаў Ігнатоўскі. У ліпені 1920 года польскія агенты Чарвякоў, Славінскі, Адамовіч і агент латвійскай выведкі Кнорын уступілі ў КП(б)Б і «прыцягнулі» туды БКА. Сувязь з польскім Генштабам ажыццяўлялася праз гандлёвага прадстаўніка СССР у Празе Ульянава. Кадры для арганізатараў антысавецкай працы ў БССР рыхтавала Віленская гімназія, з якой у Ігнатоўскага была цесная сувязь. У 1925–1926 гадах была пастаўлена задача кансалідацыі беларускіх антысавецкіх сіл як унутры БССР, так і за мяжой. З гэтай мэтай у Інбелкульце ў Мінску ў 1926 годзе быў скліканы Сусветны Кангрэс



# тэрарысты, шкоднікі

беларусаў. У гэты час фармуецца нацдэмаўска-эсэраўская арганізацыя, у якую ўваходзяць пісьменнікі Жылуновіч, Чарот, Зарэцкі, накіраваныя ў камандзіроўку ў Берлін, Рыгу, Прагу і Парыж для сустрэчаў з лідарамі антысавецкай эміграцыі: Езавітавым і Пігулеўскім у Рызе, Грыбам у Празе, Цвікевічам, Зайцам і Паркулевічам у Берліне. Апошнія вярнуліся ў БССР у 1928–1929 гадах.

У сваёй антысавецкай працы нацдэмы і эсэры блакаваліся са шматлікай бундаўскай арганізацыяй (кіраўнік Ашэровіч), якая таксама працавала па заданні польскіх разведвальных органаў. Габрэйскія і польскія секцыі ў КП(б)Б таксама з'яўляліся цэнтрамі шпіёнскай антысавецкай дзейнасці. У перыяд сацыялістычнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі БССР (1927–1931) пачалася актыўная дыверсійна-шкодніцкая дзейнасць у прамысловасці, сельскай гаспадарцы, у галіне культуры, у партыйным і савецкім апаратах. Задачай шкоднікаў было прыстасаванне эканомікі БССР да ўмоў Польшчы. Трацкісцкі блок сфармаваўся ў 1927 годзе пад кіраўніцтвам Гесена. Паміж ПАВ, нацдэмамі, эсэрамі, трацкістамі, правымі і бундаўцамі была ўсталяваная сувязь.

Беларускія нацдэмы і эсэры выступалі за стварэнне буйных хутарскіх гаспадарак і незалежную беларускую дзяржаву пад пратэктаратам Польшчы. Да іх шкодніцкай дзейнасці былі аднесеныя і хібы ў папярэдняй дзейнасці савецкіх уладаў — перасяленне часткі беззямельных сялян у маланаселеныя аддаленыя зямлі СССР, з-за чаго «беднаты сярод сялянства стала менш, а кулакоў больш». У галіне прамысловасці шкодніцтва выяўлялася ў нізкіх тэмпах будаўніцтва прамысловых прадпрыемстваў. У 1930–1931 гадах быў створаны адзіны антысавецкі цэнтр, арганізаваным пад кіраўніцтвам польскай, нямецкай і латвійскай выведкак. Аб'яднанне было «настолькі цесным, што часам цяжка адрозніць, дзе канчаецца трацкісцкае падполле і дзе пачынаецца нацыянал-фашысцкая ці правая арганізацыя», пісалі следчыя.

У верасні 1932 года, пасля выкрыцця нацдэмаў, фармуецца «трацкісцка-зіноўеўскі блок», які працаваў пад непасрэдным кіраўніцтвам Зіноўева і быў звязаны з Убарэвічам. Нацдэмаў і трацкістаў, на думку следчых, аб'ядноўвала тое, што ўсе яны былі «супраць партыйнага кіраўніцтва і супраць правадыра партыі Сталіна». Кіравалі трацкістамі Гікала, Рубінштэйн і Готфрыд. Прыблізна ў гэты ж час (1932–1933) адбываецца аб'яднанне нацдэмаў («нацфашыстов») і «правых». Гуртом «правых» кіравалі старшыня СНК БССР Галадзед, які працаваў пад непасрэдным кіраўніцтвам Рыкава (старшыні СНК СССР), а таксама Васковіч і Хацкевіч, звязаныя з Бухарыным. Агульнай мэтай аб'яднаных «правых», «нацдэмаў» і «трацкістаў», на думку следчых, было стварэнне незалежнай («буфернай») беларускай дзяржавы, натуральна, пад пратэктаратам Польшчы і Германіі.

## Няма мяжы фантазіі

У першапачатковай версіі (лета 1937) антысавецкае шпіёнска-шкодніцкае падполле мела з 1933 года адзіны кіруючы цэнтр, які быў звязаны са шкоднікамі ў Маскве, а таксама з польскімі і нямецкімі органамі выведкі. Сувязь з апошнімі ажыццяўлялася праз групу габрэйскіх пісьменнікаў, якія эміграваі ў БССР. Пазней (лета 1938) склад антысавецкага шпіёнска-шкодніцкага падполля быў пашыраны. У канчатковай версіі падполле складалася з 6 самастойных груп («цэнтраў»), кіраўніцтва якімі дзейнічала сумесна і скаардынавана «з мэтай арганізацыі шкодніцкай дыверсійнай працы ў народнай гаспадарцы на ўсіх без выключэння ўчастках». Да выведак, на якія працавала падполле, дадаліся англійская Інтэліжэн-Сэрвіс (агент Гікала), літоўская Жвалгійс, проста амерыканская і японская выведкі.

Да 6 антысавецкіх шкодніцкіх шпіёнска-дыверсійных цэнтраў адносіліся арганізацыі: «правых», «бундаўска-сіяністская», «нацыянал-фашысцкая», «трацкісцка-тэрарыстычная», «эсэраўская» і «царкоўнікаў». У эканамічным шкодніцтве абвінавачваліся сябры ўсіх «арганізацый», акрамя «царкоўнікаў». «Трацкісцкая арганізацыя» (кіраўнікі Гікала, Рубінштэйн, Готфрыд) мела для шкодніцтва самыя вялікія магчымасці — яе «кадры» працавалі ў ЦК КП(б)Б, райвыканкамах, прамысловых наркаматах, у Наркамаце фінансаў, Саюзе пісьменнікаў, ЦК ЛКСМБ. «Трацкісты» працавалі па заданні англійскай выведкі, былі звязаныя з адпаведным маскоўскім цэнтрам. Дыверсійна-шкодніцкую работу «трацкістаў» ажыццяўлялі ў прамысловасці, у сельскай гаспадарцы, на транспарце і ў Чырвонай Арміі.









«Арганізацыя правых» (кіраўнікі — Галадзед, Валковіч, Хацкевіч) таксама мела сваіх прадстаўнікоў у савецкім, партыйным і гаспадарчым апаратах БССР. Але больш за ўсё іх было ў ЦВК, СНК, ЦК КП(б)Б, Дзяржплане, наркаматах земляробства, мясцовай прамысловасці, камунальнай гаспадаркі, лёгкай прамысловасці, лясной прамысловасці, гандлёвым апараце рэспублікі і ў кіраўніцтве прафсаюзнымі арганізацыямі.

«Правыя» падрыўную дзейнасць ажыццяўлялі ў партыйным і савецкім апаратах, у сельскай гаспадарцы, у фінансавай сістэме. «Нацыянал-фашысцкая арганізацыя» (кіраўнікі Чарвякоў, Шаранговіч, Ляўкоў, Жылуновіч, Дзякаў) дзейнічала ў апараце Наркамата Асветы, у БАН, у ВНУ, у Саюзе пісьменнікаў, сярод настаўнікаў, а таксама ў апаратах ЦК КП (б) б, ЦВК і СНК БССР. Асабліва значным, на думку следчых, шкодніцтва гэтай арганізацыі было ў сістэме народнай адукацыі і культуры, аднак, актыўных «нацыянал-фашыстаў» былі знойдзеныя таксама ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы.

«Эсэраўскім цэнтрам» кіраваў нелегальны Цэнтральны камітэт у складзе Чарнушэвіча, Бадуновай, Панкевіча і Бабчанкі. Эсэраўскіх групы існавалі «ў шэрагу гарадоў і раёнаў Беларусі — у Магілёве, Бабруйску, Слуцку, Мазыры, Горках, Капылі, Сянно, Круглым і Навабеліцы». Менавіта эсэры лічыліся адказнымі за «ажыццяўленне шкодніцтва на месцах». «Правыя», «трацкісты», «эсэры» і «нацыянал-фашысты» працавалі па заданнях Другога аддзела Польскага галоўнага штаба.

«Бундаўска-сіяністская арганізацыя» мела суполкі на прадпрыемствах, у савецкіх і гандлёвых установах Мінска, Віцебска, Гомеля, Магілёва, Мазыра. Бундаўскія ячэйкі былі выкрытыя на швейнай фабрыцы «Кастрычнік», на дрэваапрацоўчым заводзе імя Молатава, у друкарні імя Сталіна, у наркамаце гандлю, у Белкаапсаюзе, у БАН, у Банку, у інвалiднай кааперацыі, у сістэме Наркамата Асветы. Акрамя польскай, «бундаўцы» працавалі на літоўскую і амерыканскую выведкі. Шкодніцтва здзяйснялася на прамысловых прадпрыемствах гарбарнай, швейнай і дрэваапрацоўчай прамысловасці, у саматужных арцелях, гандлёвым апараце, фінансавай сістэме і яўрэйскіх навучальных установах.

Заўважу, што гэта версія з невялікімі зменамі, унесенымі ў часы так званай «хрушчоўскай адлігі», была да 1990-х гадоў асновай беларускай савецкай гісторыі.

Шкодніцкай і дыверсійнай дзейнасцю ў народнай гаспадарцы БССР кіравалі, на думку следчых, былы старшыня СНК БССР Галадзед і яго намеснік Саакян. Акрамя агульнага кіраўніцтва шкодніцтвам, былі яшчэ кіраўнікі па розных галінах.

Так, шкодніцтвам у паліўна-энергетычнай гаспадарцы кіраваў Пятровіч, у тарфяной прамысловасці — начальнік Белторфа Кузняцоў, у швейнай — дырэктар Белшвейтрэста Карасік, шкодніцтвам у Наркамаце ўнутранага гандлю кіраваў наркам Гурэвіч, у Наркамаце аховы здароўя — Сурта і Бурачэўскі, у мясцовай прамысловасці — старшыня Дзяржплана БССР Лябовіч і працаўнік Дзяржплана Айзэнсон, у галіне сельскай гаспадаркі — сакратар ЦВК БССР Ляўкоў, у галіне свінагадоўлі — Стрэлле, па лініі НК земляробства — Бенэк, ажыццяўляў кіраўніцтва па распаўсюджванні інфекцыйных захворванняў жывёлы Іваноў, у галіне фінансаў — наркам фінансаў Кудзелька, практычнай падрыўной дзейнасцю ў падатковай сістэме кіраваў Лехерзаг, у камунальнай гаспадарцы — кіраўнікі наркамата Амбражунас і Васерман. Дыверсійна-шкодніцкай працай у прамысловасці кіравалі Гікала, Шаранговіч, Галадзед, Валковіч, Любавіч, Балтын, Геаргадзе, Амбражунас, Васерман. Усе кіраўнікі ААП былі расстраляныя. Верагодна, што частка з іх — у Курапатах.

**Працяг будзе**

# Да 100-гадовага юбілею БНР — 148 дзён

Леанід ЛЫЧ,
доктар гістарычных навук

**Застаецца ўжо не болей як 5 месяцаў да самай знакавай у айчыннай гісторыі падзеі: абвяшчэння 25 сакавіка 1918 года незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.**




Аднак яшчэ і сёння многімі палітыкамі, прычым і высокага рангу, Беларуская Народная Рэспубліка ўсяляк ігнаруецца, не прызнаецца за нашу першую ў XX стагоддзі нацыянальную дзяржаву, стваральнікі якой нават і ў часы нямецкай інтэрвенцыі набраліся смеласці абвясціць незалежнасць роднай Бацькаўшчыны.

Гэта была вартая самай вялікай павагі справядлівая рэакцыя беларускіх палітыкаў на ўпартую адмову бальшавіцкага ўраду Савецкай Расіі даць законнае права нашаму народу на стварэнне ўласнай дзяржавы. У кастрычніку 1917 года ў Расіі адбылася рэвалюцыя, а беларусы, як і раней, заставаліся ў сваім доме недзяржаўным народам, гібелі на незанятай кайзераўскімі войскамі частцы тэрыторыі, што называлася Заходнім краем. Нават у дзённы час са свечкай немагчыма было сярод высокіх савецкіх і партыйных дзеячаў гэтай тэрытарыяльна-адміністратыўнай адзінкі адшукаць аніводнага беларуса.

«Вялікі Кастрычнік» ні ў чым не дапамог нам стаць нацыятворным народам. Такім пасля некалькіх стагоддзяў зрабіла яго 25 сакавіка 1918 года Беларуская Народная Рэспубліка, што юрыдычна зафіксавана ў прынятай ёю ў гэты ж дзень Трэцяй Устаўной Грамаце. Гэты дзень абавязкова некалі будзе прызнаны за самае вялікае ў айчыннай гісторыі свята — Дзень дзяржаўнай незалежнасці Беларусі.

Ужо не першы год з ініцыятывы высокага палітычнага кіраўніцтва Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь святкуецца 3 ліпеня. Гэта яўнае парушэнне традыцый, бо на працягу не аднаго дзесяцігоддзя 3 ліпеня адзначалася як Дзень вызвалення Беларусі ад нямецкіх акупантаў. І нават да гэтага заставалася яшчэ нямала: у Беласток савецкія войскі ўступілі 27 ліпеня, у Брэст — на дзень пазней. Ні ў першыя гады пасля заканчэння вайны, ні на схіле існавання СССР ні ў партыйных, ні ў савецкіх органах, ні ў самога грамадства не ўзнікала жадання абвясціць 3 ліпеня Днём незалежнасці.

Словам, адсутнічаюць нават сімвалічныя падставы лічыць, што дзень 3 ліпеня 1944 года зрабіў Беларусь незалежнай. Узяць хаця б валютарысцкае рашэнне Крамля аб адсячэнні значнай часткі яе этнічнай тэрыторыі — Беласточчыны — на карысць Польшчы.

Толькі поўнай адсутнасцю ўсялякіх прыкмет дзяржаўнай незалежнасці ў БССР пасля 3 ліпеня 1944 года можна растлумачыць, чаму з усіх саюзных рэспублік толькі адна яна па заканчэнні вайны панесла тэрытарыяльныя страты. Вось якую дзяржаўную незалежнасць дало нам 3 ліпеня 1944 года! У складзе СССР Беларуская ССР, як і ўсе астатнія саюзныя рэспублікі, не валодала і грамам нацыянальнага суверэнітэту.

Народ не можа быць нацыянальна суверэнным, будучы з галавой паглынутым чужой культурна-моўнай стыхіяй. Сёння лічаць — і гэта цалкам справядліва, — што такі фармат залежнасці самы небяспечны, бо ён да глыбокіх падвалін разбурае этнакультурны патэнцыял народа, робіць яго зусім няздольным жыць паводле сваіх прыродных традыцый. За пройдзены ў XXI стагоддзі час ніхто не зрабіў такога вялікага ўнёску ў іх разбурэнне, як чыноўніцкі апарат. І яны ж прапанавалі беларусам адзначаць 3 ліпеня як Дзень незалежнасці.

Святкуем яго ўжо ў 20-ы раз, але нічога людскага, акрамя ўсё новых і новых страт у этнакультурнай самабытнасці краіны, не заўважаем. Навязаная ўладамі самарусіфікацыя беларусаў працягваецца, што выклікае толькі задавальненне ў верхніх эшалонах палітычнага кіраўніцтва. Невыпадкова падначаленыя яму спецслужбы так жорстка распраўляюцца з тымі, хто выступае не за сімвалічную, а за рэальную дзяржаўную незалежнасць, шлях да якой першымі пачалі пракладаць у XX стагоддзі стваральнікі БНР — не зважаючы нават на панаванне ў нашым краі кайзераўскага акупацыйнага рэжыму.

Каб не экстрэмальныя ўмовы нямецкай інтэрвенцыі ды бязлітасная барацьба бальшавікоў з беларускім нацыянальным рухам, паспяховае ажыццяўленне выпрацаванай палітыкамі і ідэолагамі БНР канцэпцыі нацыянальнага будаўніцтва немінуча выратавала б нас ад катастрафічных наступстваў русіфікацыі, забяспечыла б нашай краіне рэальную дзяржаўную незалежнасць.

Не віна, а бяда стваральнікаў, дзеячаў БНР, колішніх і сённяшніх пакаленняў беларусаў, што такога ў нас не атрымалася. Але сам факт абвяшчэння БНР незалежнасці заслугоўвае таго, каб яна была прыпісана не да якой-небудзь штучнай даты, а да 25 сакавіка. Лагічнасць такой прапановы бачыцца ў тым, што пасля 25 сакавіка 1918 года прагрэсіўныя нацыянальна-патрыятычныя сілы беларускага народа штогод бесперапынна адзначалі і адзначаюць гэтае свята. Для яго не сталі перашкодай ні вымушаная эміграцыя кіраўніцтва БНР за межы Айчыны, ні савецкія масавыя фізічныя рэпрэсіі, ні цяжкія наступствы Другой сусветнай вайны, ні тэрытарыяльная раскіданасць беларускіх нацыянальна-патрыятычных сіл па планеце ў мірны час.

Хаця яшчэ застаецца і нямала часу да 100-й гадавіны абвяшчэння БНР, аднак да такога вялікага свята неабходна актыўна, абдумана рыхтавацца ўжо сёння. Трэба прыкласці ўсе намаганні, каб яна ўспрымалася як мага большай колькасцю людзей за найвялікшую падзею ў нашай гісторыі. Роля перыядычнага друку ў такой асветніцкай, тлумачальнай працы надзвычай вялікая, незаменная.

Неабходна максімальна выкарыстаць і патэнцыял навукова-практычных канферэнцый, надаўшы ім і міжнародны характар. На мой погляд, іх неабходна праведзі не менш за тры. Першая — па стварэнні БНР і яе дзейнасці на тэрыторыі Беларусі; другая — па раскрыцці яе дзейнасці ў міжваенны перыяд; трэцяя — прысвечаная паказу яе змагання за беларускую справу за ўвесь астатні час. Як на старонках перыядычнага друку, так і ў матэрыялах канферэнцый важна пазнаёміць чытачоў з самымі выбітнымі дзяржаўнымі дзеячамі БНР. Іх жа ў яе легіён!

Ад таго, як мы справімся з гэтай пачэснай, архіадказнай задачай, у многім будзе залежаць сённяшні і заўтрашні стан беларускага нацыянальнага жыцця. З-за страшэннай зрусіфікаванасці сёння яно на ўсе сто адсоткаў задавальняе толькі тых, хто выпрацоўвае і праводзіць палітыку, скіраваную на ліквідацыю нацыянальнай ідэнтычнасці беларускага народа, якую ніколі не пусціла б на звод першая створаная на нашай зямлі ў XX стагоддзі дзяржава — Беларуская Народная Рэспубліка.



Новы час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №1013

Падпісана да друку 27.10.2017. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Кошт свабодны.